***

Калі Андрэй Дынько прапанаваў мне штотыдня пісаць у «Нашу Ніву» нататкі зь «хіміі», сьпярша здалося: два гады? Кожны тыдзень? Немагчыма. Занядбаная вёсачка на мяжы з Расеяй, сярод лесу — пра што?..

Зараз, праз два гады, сьведчу: кожная беларуская вёска (ужо ня кажучы пра мястэчка ці горад) вартая шматтомніку. Уся глыбокая Беларусь дагэтуль застаецца вялікай таямніцай. Ведаю: і тое, што Сітна згадваецца ў Бібліі, і тое, што найважнейшыя падзеі беларускай гісторыі нейкім дзівосным чынам праходзілі праз гэты лясны куток, і тое, што зараз у ім, як у кроплі, адлюстраваліся боль і надзеі ўсяе краіны — не выпадкова. — Дзякую Богу за гэтае выпрабаваньне: Госпад найлепш ведае, дзе нам трэба быць. Дзякую за ўмацаваньне ў веры, за гарт, досьвед беларускай салідарнасьці, за 1,5 тысячы «лістоў у лес» і больш як пяцьсот наведнікаў. Дзякую рэдакцыі «Нашай Нівы», чытачам, бацькам сябрам і, канечне, самім сіценцам, такім мілым і такім няшчасным, пра якіх напісаў далёка ня ўсё.

«Лісты зь лесу» — спроба знайсьці беларуса ў гушчары ягонай душы. Спроба дагукацца да Бога ў глухім, дрымучым. Дрымотным сэрцы Эўропы.

Таму — сардэчна запрашаю ў беларускі лес.

## Вёска супрацъ Лукашэнкі

«Вёска за Лукашэнку», — безнадзейна махаюць рукой у горадзе. Вяскоўцы адказваюць: «У горадзе пэнсіянэры й бюджэтнікі за Яго… Мы — палова на палову». Пэнсіянэры ў асноўным «за», маладзейшыя — «супрацъ».«Вёска за Лукашэнку», — безнадзейна махаюць рукой у горадзе. Вяскоўцы адказваюць: «У горадзе пэнсіянэры й бюджэтнікі за Яго… Мы — палова на палову». Пэнсіянэры ў асноўным «за», маладзейшыя — «супрацъ».

У Малым Сітне й Алёшчы пражывае 400 выбаршчыкаў. За чатыры месяцы «хіміі» мне давялося размаўляць «пра палітыку» больш чым з 50-цю, прычым як з рабочымі лесапункту, так і пэнсіянэрамі. Вынік агаломшыў: большасьць рэжыму не падтрымлівае. Тры зь пяці або будуць галасаваць супраць, або ня пойдуць на выбары. Прыхільніцы Лукашэнкі — гэта бабулькі за 60 гадоў.

Сярод працуючых мужчынаў, моладзі, кабет сярэдняга веку тых, хто абараняў бы «ўсенароднаабранага», за чатыры месяцы я не сустрэў ніводнага. Надоечы пачуў па тэлевізіі ад самога Аляксандра Рыгоравіча пра больш як 90% падтрымкі ў вёсцы. Ня веру!

Іншая рэч, што падтрымка апазыцыі тут таксама слабая: на дэмакратаў спадзяецца кожны дзясяты. Але гэта праблема апазыцыі.

Уяўленьне пра вёску як пра беларускую Вандэю — суцэльнае электаральнае поле Лукашэнкі — найвялікшы міт нашае палітыкі.

Штабялёўшчык з Расоншчыны ніколі не галасаваў за Лукашэнку: той не вытрымлівае ніякага параўнаньня з Машэравым.

Маці дваіх дзяцей з Алёшчы ня хоча яшчэ пяці гадоў інтэграцыі з Расеяй, бо баіцца, каб ейных хлопцаў не забралі на Каўказ.

Сіценскі раскрыжоўшчык мае традыцыю ў выбарчы дзень прападаць у лесе ў ягадах — бо ўсё роўна нарысуюць столькі, колькі трэба.

Жонка вадзіцеля з Малога Сітна, які мае спадарожнікавую антэну й ведае, як жывуць за мяжой, шкадуе, што вяскоўцы ня ведаюць сваіх правоў, а то б даўно памянялі ўладу.

Тутэйшы лесаруб, які з тэлевізара чуе пра 250 даляраў заробку і чый бацька зь Мёраў усё жыцьцё кляў камуністаў, кажа, што «рана ці позна наша возьме».

Элегантная перамога ў вёсцы дастаецца Лукашэнку тады, калі дэмакраты не агітуюць людзей, расчараваныя выбаршчыкі асуджана ставяць птушчаку «супраць усіх» або не ідуць на ўчасткі, а камісія спакойна лічыць усё «як трэба».

Мы сур'ёзна недаацэньваем перавагі камунікацыі ў вёсцы. Калі на пад'ездах двухсоткватэрнага панэльнага дому ў горадзе з тымі ж чатырмастамі выбаршчыкамі наклеіць улёткі — па іх абыякава сьлізгануць позіркам некалькі жыхароў і зьдзярэ работнік органаў. Калі ж гэтыя 7—10 улётак будуць расклеены па вясковых «прысутных месцах» — уся вёска тыдзень будзе пераказваць і абмяркоўваць іх зьмест. У тутэйшым інфармацыйным вакууме, у адрозьненьне ад перасычанага й зьняверанага гораду, агітацыя проста выбухае.

На Майдане ў Кіеве мне расказвалі, як цэнтар і поўнач Украіны сталіся спрэс аранжавымі. Агітбрыгады з абласных і раённых цэнтраў выяжджалі ў кожную вёсачку. Вынік — у 17 украінскіх абласцях вёска прагаласавала супраць кандыдата ад рэжыму.

У Беларусі больш за 23 тыс. вёсак. За дзень два-тры актывісты на машыне ў стане аб'ехаць 10—12 вёсак, абклейваючы па дарозе ключавыя «пункты» — прыпынкі, крамы, фэрмы, калодзежы. Няцяжка падлічыць: за паўгоду да выбараў 15 аўтамашын з 30—40 расклейшчыкамі могуць правесьці агітацыйную хвалю па ўсёй вясковай Беларусі.

Вёска, якая масава кажа «Хопіць!», — крах рэжыму. Сучасная беларуская нацыя сфармаваная вёскай і вяскоўцамі, няўжо цяпер мы аддамо мацярык беларускасьці абы-каму?

Калі ўспомнім пра забытую вёску й разьвеем міт пра «садамаўскі адсотак» у Алёшчы, Ратамцы, Лоску, Германовічах — у 2006-м абавязкова пераможам.

Малое Сітна

## Вясна на Лясной вуліцы

Вясна ў Малое Сітна прыходзіць позна – у Менску ўжо траўка, у Полацку асфальт блікуе пад сонцам, а тут, на Поўначы, лясы ўсё яшчэ стаяць па калена ў глыбокіх сьнягох. Пара бруду ў хаце, гумавых ботаў на працы й абвастрэньня хранічных хваробаў у пэнсіянэраў – усё-такі і ў вёсцы вясна ёсьць вясна.Вясна ў Малое Сітна прыходзіць позна – у Менску ўжо траўка, у Полацку асфальт блікуе пад сонцам, а тут, на Поўначы, лясы ўсё яшчэ стаяць па калена ў глыбокіх сьнягох. Пара бруду ў хаце, гумавых ботаў на працы й абвастрэньня хранічных хваробаў у пэнсіянэраў – усё-такі і ў вёсцы вясна ёсьць вясна.

І калі таяньне сьнегу агаляе на гразкае, коўзкае зямлі груды сьмецьця, калі лужыны на нашай Лясной вуліцы – ад плоту да плоту – здаюцца непераадольнымі, а па тутэйшых дарогах колькі тыдняў ня езьдзяць нават лесавозы – сэрца ўсё адно радасна тахкае: вясна!

І людзкія плыні, што запаўняюць менскія плошчы, і масы каламутна-плямістага спэцназу на дарогах, і нават тоны бруду, што хлынулі з экранаў БТ і АНТ, лепш за ўсё іншае сьведчаць: вясна, вясна!..

Хай чвякае пад нагамі – затое ўжо ціўкае на дрэвах; хай адключаюць батарэі кацельнай – затое грэе надзея, хай верашчаць і гнюсавяць на ўсё горла, бы сакавіцкія каты, тэлевізійныя прапагандысты... Але ж штодня меншае ноч, штодня сьмялей у размовах вяскоўцы, штодня вальней паветра!

Вясна ўладарна рушыць па Малым Сітне. За паўдня «хімікі» нацэджваюць зь бярозы ў бліжэйшым гаі тры літры соку. Замест хакейнага інтэршуму ды п’янога мужчынскага мату з суседзкага пакою ўсё часьцей даносіцца музыка й дзявочае шчабятаньне. А на дошцы аб’яваў, дзе звычайна паведамляюць пра канцэрты раённай самадзейнасьці, вісіць абвестка полацкае санэпідэмстанцыі аб небясьпецы курынага грыпу ў пэрыяд вясновага пералёту дзікіх птушак.

Вясна разгараецца, вясна наступае. У Менску штодня флэшмобы: з вулічнае сьметніцы, бы з гіганцкае покаўкі, распускаецца капусным лісьцем «Советская Белоруссия», а пустая кардонная скрыня з надпісам «БТ» імгненна ўсьпеньваецца першаклясьнымі паркімі локшынамі. Інтэрнэт цьвіце ды пахне. Увечары на сталічных плітах нечакана запальваюцца агеньчыкі, і набярэжную Сьвіслачы, бы матылькі, абсядаюць сьціжмы цудоўных папяровых жураўлікаў, няйнакш з самога выраю. Штоночы сотні

людзей зьбіраюцца ля турмаў ды ізалятараў, гукаючы: «Жыве Беларусь!»

І Беларусь ажывае.

Аднойчы прачынаесься ад бразгату інтэрнацкіх дзьвярэй: моцны вецер. Цёмныя хмары валам ідуць з усходу, і за вакном аж шэра ад пылу ды запозьненага сьнегу. На парозе твар залпам калючага дробу апякае сьцюжа, ад якое ўжо пасьпеў адвыкнуць. Раптам мільгае здрадніцкая думка, што ўсё гэта была нядоўгая адліга, а наперадзе шчэ бясконцыя халады, град ды бруд… Міжволі прабіраюць дрыжыкі. Адчуваньне ўзмацняюць весткі зь Менску: пасьля сакавіцкіх маніфэстацыяў ідуць павальныя вобшукі й адлічэньні студэнтаў. Узбуджана 18 крымінальных справаў, зь іх 8 – па маладфронтаўцах. У 12 гарадох КДБ дапытвае больш як 50 хлопцаў і дзяўчат, якіх вінавацяць у прыналежнасьці да «незарэгістраванага «Маладога фронту»: зараз за гэта пагражае да 2-х гадоў турмы. Хутаесься ў ватоўку, сьціскаеш кулакі й бязгучна пра сябе молісься.

Але вось усьмешлівы вясковец паціскае руку й цішком пытае: «Ну, як там нашы ў Менску? Трымаюцца?..» – і цёпла робіцца ў сэрцы. «Чуў, нейкія эвангелісты да нас прыехалі, ля рэчкі пасяліліся, кніжкі раздаюць?..» Нарэшце, дзякуй Богу! На душы амаль сонечна. Сотні маладафронтаўцаў і проста незапалоханых людзей распачынаюць кампанію салідарнасьці – падпісваюцца ў абарону маладых змагароў, разам выступаючы ад імя «незарэгістраванай арганізацыі», і гэтым паралізуюць драконаўскую «крыміналку».

Няма ніякага сумневу, гэта ўжо дакладна ВЯСНА. Нават не пара году – Нацыянальнае Абуджэньне.

Малое Сітна

## Няма веры

Вось ён, сіценскі сымбаль веры. Ведаць, што Бог існуе, і ня верыць у яго. Штосьці да болю знаёмае і вельмі беларускае. У краі, дзе тысячагодзьдзе таму прапаведаваў Торвальд Вандроўнік, на радзіме Эўфрасіньні, Сімяона ды Скарыны, у самай калысцы беларускага хрысьціянства — няма веры.Аднойчы, распытваючы сіценцаў пра найбліжэйшую царкву, я набрыў на бабку гадоў 80-ці. Яна сядзела на лаўцы ля хаты і паводле ўсіх прыкметаў павінна была ведаць, дзе й каму моляцца тутэйшыя жыхары.

- У царкву мы ня ходзім, унучак, — растлумачыла старая. — Яна нам ня трэба. Мы ж у Бога ня верым.

- Як так?

- А-а… — няпэўна махае рукой бабулька. — Як камуністы былі, дык казалі, што Бога няма…

- А ён ёсьць, — кажу бабулі.

- Ёсьць, ёсьць, унучак, — ківае галавой тая. — Ёсьць, мы ня проціў…Толькі мы ў яго ня верым.

Вось ён, сіценскі сымбаль веры. Ведаць, што Бог існуе, і ня верыць у яго. Штосьці да болю знаёмае і вельмі беларускае. У краі, дзе тысячагодзьдзе таму прапаведаваў Торвальд Вандроўнік, на радзіме Эўфрасіньні, Сімяона ды Скарыны, у самай калысцы беларускага хрысьціянства — няма веры.

Калі падчас перакуру я паспрабаваў паразмаўляць пра Бога на эстакадзе з рабочымі, рэакцыя больш за ўсё нагадвала калектыўны прыступ шалу. «Што для нас гэты Бог зрабіў?.. Як камуністаў скінулі, усе вы за сьвечку і ў царкву! Чаму дзеці паміраюць, а Бог на гэта глядзіць?!. Вось мы тут прападаем, а яму ўсё роўна!..» Яны крычалі наперабой, аж захліпаючыся, як брэша зграя сабак, не жадаючы пачуць адказу, адчайна выплюхваючы ўсю сваю злосьць, і шпурлялі тыя выкрыкі, быццам камяні.

Дзіўная рэч: палітычныя прамовы тут праходзяць, а словы пра Бога выбухаюць, нібыта бомба.

«Страшны край, — сам-насам дзяліўся са мной уражаньнямі інжынэр, што прыехаў сюды зь Берасьцейшчыны, — тут жа нават як памрэ чалавек — не адпяваюць, не галосяць, не памінаюць толкам… Закапалі, як падлу, каб хутчэй выпіць, — і канец».

Сьвятар з Полацку прыяжджае ў Алёшчу ды Малое Сітна раз на год — пахрысьціць немаўлят. Далучыць, так сказаць, прыплод да паствы. Ня верыцца мне, што гэтак тутэйшыя душы будуць збаўлены. Ня верыцца, што ў Полацкай япархіі няма магчымасьці хаця б раз на

месяц, хаця б у прыватнай хаце арганізоўваць хаця б адно набажэнства на абшары больш як 1 000 км2... Праваслаўны атэізм, інакш не назавеш.

І люд разважае: «Што нам Бог? Жылі неяк бяз Бога і памром сабе. Згніём, а пасьля ж нічога няма». Ці можа чалавек, які рыхтуецца адно згніць ды зьнікнуць, думаць пра лепшую будучыню? Пра краіну, праўду, свабоду?..

Бязьвер'е — найглыбейшы й самы чорны корань зла, што буяе ў Алёшчы і Малым Сітне. Невідушчыя вочы, апушчаныя аблiччы, жабрацтва, алькагалізм, самагубствы сілкуюцца адсюль. З пустога сэрца.

У тое, што гэтых людзей успоіць хрустальны сасуд рыначнага сацыялізму, што іх накорміць гуманітарка з Амэрыкі, што іх выратуе наездамі раз на год бацюшка, у мяне веры няма.

Але ў тое, што Бог дасьць абуджэньне гэтаму краю, калі пераможам у 2006-м, — веру.

Малое Сітна

## Дзеці Малога Сітна

…Толькі тады, калі беларускія дзеці пачнуць марыць, як вырастуць, стаць не бандытамі або мільянэрамі, а дактарамі ды сьвятарамі, – зробіцца ясна, што краіна ахопленая нацыянальным абуджэньнем.Аднойчы ў алёшчынскую сталоўку, дзе абедалі рабочыя, басанож зайшло мурзатае, ускудлачанае дзіцё гадоў пяці ў бясформеннай вопратцы. Падаючы сталоўшчыцы заціснутыя ў кулачку сто беларускіх рублёў (ледзь дацягнулася да акенца), тоненькім галаском, які выдаў у ёй дзяўчынку, папрасіла:

– Мама сказала, што вы мяне пакорміце…

Сталоўшчыца спачатку разгубілася: «Што ж я табе, дзетачка, на сто рублёў дам…» Рабочыя загулі: «Ты ўжо нам не далівай, але ёй пакладзі поўную міску!»

Сьлёзы навярнуліся на вочы пазьней – калі дзяўчо, ледзь уладкаваўшыся за вольным столікам, пачало нават ня сёрбаць – прагна хлябтаць той гарачэнны суп, на які дзьмухалі й здаровыя мужыкі.

Недагледжаныя, галодныя дзеці зь сем’яў алькаголікаў – не навіна ані ў Сітне, ані ў Віцебску, ані ў сталічным Менску. Але тут мяне ўразіла напавал тое, адкуль гэтых дзяцей так шмат. Бацькі, імкнучыся атрымаць «сацыялку», наўмысна плодзяць па трое–чацвёра дзіцянят, маюць тыя ж праславутыя 250 даляраў дый прапіваюць. Натуральна, дзеці з тых грошай ня бачаць ані цацкі, ані цукерчыны. А тым часам бацькі з забясьпечаных сем’яў скардзяцца, што ад гэтых «алькашовых выпладкаў» у школе вечна бруд і вошы.

Усіх хітрасплячэньняў сіценскае сямейнасьці ня здолее апісаць ніякая генэалёгія. Калі мне, удакладняючы сьпісы выбаршчыкаў, давялося высьвятляць ва ўчастковае камісіі прычыну адсутнасьці ў тых сьпісах некалькіх рабочых леспрамгасу й іхніх сваякоў, працэдуру штохвіліны суправаджалі выбухі рогату. «Такі й такі – муж гэткай? Га-га-га! Ды ў яе такіх мужоў па ўсім Сітне… А той – сын гэтага? Гы-гы-гы, ведаем мы, хто ягоны бацька!.. Гэты – сужыцель, тая – сужыцелька, у яе сваё прозьвішча, той увогуле байструк…» Афіцыйна зарэгістраваных мужоў і жонак на кожнай вуліцы Сітна можна пералічыць па пальцах. Вядома, ідзецца пра тых, хто «расьпісаўся» у мясцовым клюбе, які выконвае функцыю загсу; пра належнае вянчаньне й царкоўны шлюб няма й гаворкі.

Паўвёскі плаціць алімэнты або «ўтрымлівае» кагосьці…

Глыбіню тутэйшае распусты можна ўявіць, жывучы ў адным інтэрнаце з «хімікамі» й рабочымі зь іншых вёсак. Некалькі кабетаў

няпэўнага ўзросту штовечары «пасьвяцца» ля рабочых, а адны й тыя ж дзяўчаты 14–20 гадоў «абслугоўваюць» за шклянку «максімкі» й міску супу суседзяў-«хімікаў», якія мяняюцца ці не штотыднёва. Начныя разборкі за сьценкай, калі малалетнія шлюхі нападпітку высьвятляюць, чаму гэта не ў сваю чаргу тут учора начавала Сьветка, а не якая там Алеська і хто каго «кахае», наколькі мярзотныя, настолькі й звычайныя.

Падлічыць, колькі ў Малым Сітне робіцца абортаў, як вы разумееце, практычна немагчыма. Многія з тых жанчынаў, якія садзяцца на рэйсавы аўтобус або выпраўляюцца ў Полацак па прадукты, дарогаю зойдуць у клініку. Агулам кажучы, амаль у кожным беларускім сельсавеце за апошнія 12 гадоў ціхай сапай адбыўся свой Беслан з сотнямі дзетак-ахвяраў.

Ёсьць у Сітне й дзіцячы садок, малых каля трыццаці. Ды толькі бацькі пастаянна наракаюць то на кепскае харчаваньне, то на сэрыялы, якія нянькі днямі глядзяць разам зь дзецьмі (а потым якое-небудзь чатырохгадовае дзіцё лезе да мамы цалавацца ўзасос і тлумачыць, што так Хуаніта з Рамірэсам па тэлевізары робяць).

Безумоўна, ёсьць тут і добрапрыстойныя, забясьпечаныя сем'і – але звычайна з адным, максымум дваімі дзецьмі. І гэтыя дзеці, ледзь толькі асвоіўшы машынкі ды лялькі, ужо рыхтуюцца вырасьці, вывучыцца й зьехаць адсюль куды далей.

Якім чынам уратаваць дзяцей Малога Сітна ў Новай Беларусі?

«Дзіцячыя» сацыяльныя выплаты, гарантаваныя нацыянальным бюджэтам, мусіць кантраляваць мясцовая ўлада, а не райвыканкам. Толькі тады, пад штодзённым наглядам, пагроза страты бацькоўскіх правоў прымусіць тых гора-бацькоў траціць грошы на дзяцей.

Моцная сям'я зь вянчаньнем у царкве і афіцыйнай рэгістрацыяй павінна стаць найпершым стандартам сацыяльнай рэкламы. У сужыцельстве? Разьведзеная? Нежанаты? Плаці падатак!

Ліцэнзіі тэлеканалаў, асабліва кабэльных, што бамбардуюць падлеткавую аўдыторыю прапагандай распусты, трэба перадаць сямейным, панавальным, адукацыйным і хрысьціянскім мэдыям.

«Launch» 

«Ператварыць сваё мястэчка, сваю вёску ўласнымі рукамі ў квітнеючы цуд!» – скразная ідэя новае дзяржаўнае сярэдняе адукацыі. Плюс – нядзельныя школкі пры цэрквах, касьцёлах і дамох малітвы. Нацыянальны ўнівэрсытэт, ліцэі й гімназіі па-беларуску.

Аборты... Паводле статыстыкі, сёньня іх у Беларусі больш, чым нараджэньняў. Забойства ненароджаных дзяцей мусіць быць забаронена. Нядаўна чытаў, што ў польскіх кляштарах пачалі адчыняць «вокны жыцьця», куды можна таемна перадаць немаўля.

Гадаваньнем і выхаваньнем кінутых дзяцей мусіць займацца не дзяржава, а царква з дапамогай бюджэтных субсыдыяў.

…Толькі тады, калі беларускія дзеці пачнуць марыць, як вырастуць, стаць не бандытамі або мільянэрамі, а дактарамі ды сьвятарамі, – зробіцца ясна, што краіна ахопленая нацыянальным абуджэньнем.

в.Малое Сітна

# АДРАДЖЭНЬНЕ АЛЁШЧЫ

Алешча — першая беларуская станцыя на чыгунцы Невель-Полацак. Вакол станцыі — колькі дзясяткаў хатаў. Ані назваў вуліц, ані нумароў на хатах. Міліцыянты, якія прыяжджаюць разьбірацца з чарговым здарэньнем на лесапагрузцы, так і запісваюць сьведку: «Жыве ў трэцім доме ад крамы».Алешча — першая беларуская станцыя на чыгунцы Невель-Полацак. Вакол станцыі — колькі дзясяткаў хатаў. Ані назваў вуліц, ані нумароў на хатах. Міліцыянты, якія прыяжджаюць разьбірацца з чарговым здарэньнем на лесапагрузцы, так і запісваюць сьведку: «Жыве ў трэцім доме ад крамы».

Алешча — першая беларуская станцыя на чыгунцы Невель-Полацак. Вакол станцыі — колькі дзясяткаў хатаў. Ані назваў вуліц, ані нумароў на хатах. Міліцыянты, якія прыяжджаюць разьбірацца з чарговым здарэньнем на лесапагрузцы, так і запісваюць сьведку: «Жыве ў трэцім доме ад крамы». Здарэньняў хапае. За апошні тыдзень спалены тартак, узламана і абрабавана сталоўка, тры траўмы на вытворчасьці. Рэакцыя майстроў, міліцыі ды паспалітага люду аднолькавая: «Спалілі нападпітку», «Напіліся — залезьлі».

Тут толькі два кірункі жыцьця, вызначаныя каляінай чыгункі: з Расеі дызэль возіць тэхнічны сьпірт, у бок Полацку адгружаюць лес і зьяжджаюць людзі. Большасьць алешчынцаў працуюць тут жа, на станцыі. Тут жа бадзяюцца дзеці, козы абдзіраюць кару са штабэляваных круглякоў. У цяньку адлежваюцца пераможаныя зялёным зьмеем.

- Трэба нешта рабіць, — зьвяртаецца да мяне кабета, чый дом стаіць ля самай транспартэрнай стужкі. — Я нават не магу сюды прывезьці ўнука — сап'ецца! Тут усё гэтым заканчваецца. Прападае Алешча!

Жыхарку мясцовыя завуць Багамолкай. Яна зьбірае подпісы, каб пабудаваць у Алешчы царкву. Сельсавет, лесапунктаўскае начальства й бацюшкі з Полацку «ня супраць». Размаўляю наконт гэтага з рабочымі падчас перакуру. Тыя слухаюць напаўвуха, як занудлівую мараль. Адзін не вытрымлівае:

- Ну дык і ўзначальвай Партыю адраджэньня Алешчы.

Партыя — гэта Багамолка, сям'я майстра, разьметчыца Мая ды некалькі жыхароў, што голасна наракаюць на тутэйшы павальны алькагалізм. Супрацiўнікі называюць іх «язьвеньнікі-трэзьвеньнікі». Астатні народ — пасярэдзіне але пасьля заробку сама менш на

тыдзень змыкаецца са «сьпіртавозамі» і ўтварае агрэсіўную большасьць.

Алешча вымірае. Як спыніць дэградацыю беларускай вёскі на стыку з буйной індустрыяй? Плян Лукашэнкі называецца «аграгарадкі». Пабудуем замест сельпо ўнівэрсам, замест лазьні — басэйн ды цырульню, і тады зажывяце!

Не зажывуць. Ня зьменіць гэта. Тут душы ратаваць трэба. Пачынаць варта са спрыяньня хрысьціянскім суполкам. У кожнай вёсцы — ільготы царкве, касьцёлу, малітоўнаму дому. Толькі Богу пад сілу ператварыць амярцьвелыя, засьпіртаваныя паселішчы ў здаровую беларускую вёску, дзе не ўпіваюцца, ня крадуць, шануюць працу.

Другое — прыватная ўласнасьць ды прадпрымальніцтва. Яшчэ савецкага часу груваcткія вытворчасьці, што ледзь ліпяць дзякуючы дзяржманаполіі, так і просяцца ў гаспадарскія рукі. Дробны гандаль, лясное зьбіральніцтва, агратурызм, нават паляваньне ў Эўропе ўжо даўно пастаўлены на шырокую камэрцыйную аснову і кормяць цэлыя краі й дзяржаўныя бюджэты. Інакш у які басэйн пойдзе алешчынскі штабялёўшчык, што атрымлівае за месяц 150 тысяч «бруднымі»?

Нарэшце, трэцяе — мясцовая ўлада. Маласіценскі сельсавет нічога не вырашае і ні пра што ня дбае ва ўласнай вёсцы — куды ўжо суседняй Алешчы. Галоўнай уладай з уласным бюджэтам, правам распараджацца дзяржаўнай зямлёй ды ліцэнзіямі, з абавязкам падтрымліваць чысьціню ды парадак у навакольлі тут мусіць быць павет на чале з войтам, а ня «Полацаклес» ды абласныя рэвізоры наездамі раз на год.

Каб адрадзіць Алешчу, у 2006-м абавязкова трэба перамагаць.

[18 кастрычніка 2005]

Павал Севярынец, Малое Сітна

## ПРАЦА ШТАБЯЛЁЎШЧЫКА

Галоўная кантора маласіценскага лесапункту — белая з чырвоным дахам, ды яшчэ арнамэнт паўз увесь падмурак. Натхнёны ансамблем нацыянальных колераў, я рушу наўпрост да бухгальтаркі (яна ж — тутэйшы аддзел кадраў) па сваё працоўнае месца.Галоўная кантора маласіценскага лесапункту — белая з чырвоным дахам, ды яшчэ арнамэнт паўз увесь падмурак. Натхнёны ансамблем нацыянальных колераў, я рушу наўпрост да бухгальтаркі (яна ж — тутэйшы аддзел кадраў) па сваё працоўнае месца.

- Кім работалі да гэтага? — не падымаючы галавы запытвае бухгальтарка.

- Інжынэр-геоляг, мэнэджар па продажах, мастак, журналіст, займаўся грамадзкай адукацыяй, ідэалёгіяй… — рапартую бадзёра, назіраючы, як асадка ў руцэ бухгальтаркі замірае па-над графой «прафэсія», а сама яна глядзіць ужо на мяне.

- Ага, — трохі няпэўна, але, як мне падаецца, задаволена канстатуе «аддзел кадраў». Я ўжо гадаю, што яе зацікавіла найбольш: можа, у гэты самы момант вырашаецца мой лёс на бліжэйшыя два гады… — Будзеце працаваць у нас штабялёўшчыкам.

Бясконцае нагрувашчаньне штабялёў хвоі, елкі, бярозы, асіны ўздоўж чыгункі, вал дрэва, у маштабе якога чалавек — мурашка. Вось гэты чалавек і ёсьць штабялёўшчык. Яго працоўнае месца — на эстакадзе. Так называецца даўжэзны, мэтраў пад 100, памост, звараны з рэек ды насланы дошкамі, на якім ствалы звальваюцца зь лесавозаў, расьпілоўваюцца, пускаюцца па транспартэрнай стужцы, сартуюцца па гатунках, звальваюцца ў кішэні і адкуль кранамі грузяцца ў вагоны Беларускай чыгункі.

Кранаўшчыкі, стропальшчыкі, раскрыжоўшчыкі, мэханікі, электрыкі ў Алешчы працуюць зь якой-ніякой тэхнікай, а штабялёўшчыкі — цяглавая сіла. Менавіта яны ўручную, з дапамогай жалезных крукоў, адкочваюць па эстакадзе расьпілаваныя бярвёны даўжынёй два-пяць мэтраў на стужку. Часам трэба скакаць цераз бервяно, якое коціцца згары, — як такі балет удаецца п’яным? Далей — паўз усю эстакаду — штабялёўшчыкі рукамі або рычагамі (вялікі драўляны дрын) скідаюць у асобныя аддзелы (кішэні) розныя сарты дрэва: дровы (двухмэтровыя галіны), піловачнік (3-4-мэтровыя хвоі й елкі на дошкі ці шпалы), фанэру (бярозу для вытворчасьці фанэры), балянсы (дарагую драўніну на экспарт), тэхнічную сыравіну (на цэлюлёзу й прадукт дрэваапрацоўкі)…

Штабялёўшчыкі закідаюць у трактарныя прычэпы й самазвалы адпілаваныя камлі, якія тут называюць «паджывотнікамі», і нестандартныя абрэзкі, перакладваюць разваленыя пры транспартаваньні кранамі штабялі, абкорваюць сякерай ды скрабкамі вагонныя стойкі для экспарту лесу, прыбіраюць пілавіньне й вецьце.

Рукавіцы, што выдаюцца раз на месяц, дзяруцца тут за тыдзень. Пераламаныя пальцы, рукі, ногі, траўмы хрыбта й сьпіны — штатныя здарэньні (трэба сказаць, амаль заўсёды па п'яні).

Праца цяжкая. Напэўна, гэтым кіраваліся байцы нябачнага фронту, накіроўваючы мяне ў Алешчу, — каб больш высільваўся ды менш думаў. Насамрэч, алешчанская эстакада — цудоўная пляцоўка для будаваньня ўласнага цела — «храму душы». У Менску ў спартзалях плацяць грошы за тое, што складае штодзённую працу тут.

Міжволі думаеш: якраз-такі накачваньнем мускулаў (у арганізацыйным пляне) мусяць займацца цяпер кволыя апазыцыйныя структуры перад кампаніяй-2006. Разносіць улёткі. Абыходзіць кватэры ад дзьвярэй да дзьвярэй. Трэніравацца. Рыхтаваць тысячы й тысячы прыхільнікаў, якіх не хапіла ў 2001-м ды летась... Партыйным функцыянэрам і заўсёднікам офісаў NGO пара рабіцца палітычнымі штабялёўшчыкамі. І працаваць, працаваць, працаваць. Штодня. Да зьнямогі.

Толькі так у 2006-м мы здолеем перамагчы.

[21 кастрычніка 2005]
Павал Севярынец, Малое Сітна

## ЛЕСАПАВАЛ І КОШЫКІ

Няўжо Госпад Бог даў Беларусі такія бары, гаі ды пушчы, каб сячы іх на вываз ці зводзіць на шпалы?.. Няўжо беларусы ня ўмеюць самі пілаваць, габляваць, цясьлярыць ды плесьці кошыкі?Раніца. У маласіценскім лесапункце — урачысты сход. «Полацаклесу» — 75 гадоў. Выступае начальнік лесапункту:

— Цяпер наша аб’яднаньне перажывае ня лепшыя часы…

Народ маўчыць.

— Але справы не зусім кепскія, — падпускае аптымізму галоўная бухгальтарка. — Гэты год «Полацаклес» скончыў з прыбыткам 175 млн рублёў.

Народ маўчыць.

— А яшчэ трэба сказаць, — завяршае выступ мясцовы пажарны, — дысцыпліна ў нас кульгае. А тут скарачэньні ідуць…

Маўчаньне павісае ў паветры, агромністае, як варожы цэпэлін.

— Пытаньні? — начальнік пільна аглядае залю.

— Ясна, — выдыхае нехта з далёкіх радоў, — пайшлі ў лес.

Грамада шумна ўстае, бярэ бэнзапілы, шуфлі ды «ссабойкі» і брыдзе да гаражу, па машынах.

Што «Полацаклес» перажывае ня лепшыя часы, даўно не навіна. Заробкі па 100—200 тысяч, няспынныя паломкі, пажары, калецтвы. Начальства перакананае, што галоўная праблема — хранічнае невыкананьне пляну нарыхтовак. Вінавацяць «нэгатыўныя зьявы», кадыфікаваныя ў дырэктыве №1, сьпірт «максімку». Аб тым, што ўся сыстэма «Полацаклесу» (і яшчэ тузіна такіх жа «…лесаў» па Беларусі) стратная ў прынцыпе, мала хто задумваецца.

Насамрэч тое, чым займаецца «Полацаклес», на любой з моваў Эўразьвязу называецца «барбарскае вынішчэньне нацыянальнага багацьця». Нават не даючы спушчанага зь Менску пляну, аб’яднаньне штогод вывозіць з тутэйшых лясоў 4,5 тыс. вагонаў дрэва. Ільвіная доля «круглякоў» ідзе за капейкі на экспарт, астатняе — на фанэрныя, мэблевыя й цэлюлёзна-папяровыя прадпрыемствы «Беллеспраму». Хвойны лес павінен сьпець 70 гадоў, а яго высякаюць у 20—30 (цяпер валяць якраз пасаджанае за Машэравым) — і гэта нікога не хвалюе. Лясныя дзялянкі пасьля такое высечкі выглядаюць апакаліптычна — быццам пасьля бамбардзіроўкі мэтэарытамі. Уздоўж дарог на пнішчах застаюцца толькі драўляныя вышкі — там начальства, што прыяжджае з абласнога цэнтру ці сталіцы, палюе на дзікоў. Праз колькі дзесяцігодзьдзяў беларускі лес ператворыцца проста ў закінутую прамзону, зарослую падлескам.

Каму ж выгадны Вялікі Беларускі Лесапавал?

Вугорцам, якія робяць зь беларускай хвоі ды бярозы мэблю, а потым вязуць прадаваць сюды. Італьянцам, якія лушчаць беларускую асіну і плятуць са стружкі цудоўныя сувэнірныя кошыкі для турыстаў. Нарэшце, фінам, якія вывозяць сырую драўніну ў краіны Балтыі, Заходнюю Эўропу — розьніца ў цэнах ад 1,5 да 3-х разоў, а хто ў нас выдае ліцэнзіі на такі гандаль, мы добра ведаем.

Няўжо Госпад Бог даў Беларусі такія бары, гаі ды пушчы, каб сячы іх на вываз ці зводзіць на шпалы?.. Няўжо беларусы ня ўмеюць самі пілаваць, габляваць, цясьлярыць ды плесьці кошыкі?

Мінімальная замена сыравіннага канвэеру на алешчынскай эстакадзе — тартакі. Піловачнік на сусьветным рынку прынамсі ўдвая даражэйшы за круглае дрэва — дык можна хаця б скараціць маштабы высечкі.

Яшчэ лепш — мэблевая фабрыка. І аб'ём драўніны расходуецца на парадак меншы, і прыбытак дасьць большы, і працоўных месцаў дабавіць, і заробкі павысіць.

А зусім цудоўна — майстэрні па вырабе сувэніраў, абсталяваньня для агратурызму, тых жа кошыкаў для садавіны, ды хоць кітайскіх палачак для ежы. Тады беларускі лес зможа вольна ўздыхнуць на поўныя грудзі й спакойна сьпець да свайго часу.

Натуральна, ёсьць толькі адзін шанц ўратаваць беларускую дрэваапрацоўку. Перамагчы ў 2006-м.

[2 лістапада 2005]

Павал Севярынец, Малое Сітна

## 120 000 кілямэтраў

Гэта ў Магілёве ўсё мераюць на кілямэтры. «Тры кілямэтры шчасьця», – казалі мне пра маладую беларускамоўную сям'ю, у якой нарадзіўся сын. «О-о, дзесяць кілямэтраў праблемаў», – так у двух словах аналізуюць стан справаў у мясцовай дэмакратычнай кааліцыі. «Яму да патрыёта сто кілямэтраў», – а гэта пра вядомага земляка, які апошнім часам усё часьцей гаворыць пра незалежнасьць. І ўдакладняюць: «Паўзком. На каленях».Гэта ў Магілёве ўсё мераюць на кілямэтры. «Тры кілямэтры шчасьця», – казалі мне пра маладую беларускамоўную сям'ю, у якой нарадзіўся сын. «О-о, дзесяць кілямэтраў праблемаў», – так у двух словах аналізуюць стан справаў у мясцовай дэмакратычнай кааліцыі. «Яму да патрыёта сто кілямэтраў», – а гэта пра вядомага земляка, які апошнім часам усё часьцей гаворыць пра незалежнасьць. І ўдакладняюць: «Паўзком. На каленях».

Цяпер у Магілёве на «хіміі» сядзіць маладафонтавец Артур Фінькевіч. Самага маладога палітвязьня штодня прыходзяць падтрымаць магілёўцы, прыяжджаюць менчукі. Чытаю пра гэта і згадваю, як пару гадоў таму адзін з тамтэйшых адраджэнцаў безнадзейна махнуў рукой: «Э-э, ды тут нікому нічога ня трэба. Усе самі сабе, хата з краю. Якая салідарнасьць, пра што ты гаворыш… Дзе яна?» – і дзьмухнуў у паветра, і разьвёў рукі ў бокі: няма.

Год адседкі на лесанарыхоўках – самы час, каб спраўдзіць, ці існуе беларуская салідарнасьць. Зьмерыць яе ў Малым Сітне. Па-магілёўску – у кілямэтрах.

Кожны візыт, кожны госьць, хто й адкуль, у мяне ў асобным сшытку запісаны. Больш за 260 чалавек. Лічу, колькі праехаў каторы зь іх – сюды й дахаты, – падсумоўваю і атрымліваю неверагодную лічбу 120 000 кілямэтраў.

Тры зямныя экватары! Беларускай салідарнасьцю ў адным асобна ўзятым выпадку і толькі за год, аказваецца, можна тройчы абярнуць зямны шар!

Нават з найбліжэйшага Полацку дасюль далекавата – 50 км. Але менавіта полацкая салідарнасьць усе гэтыя месяцы давала мне і хлеб надзённы, і духовую ежу. Міждэнамінацыйная дэлегацыя полацкіх хрысьціянаў (праваслаўны, каталік ды ўніят з уніяткаю) завезла сюды бульбы й гародніны, а ў дадатак і ката Партызана. Сябры незалежнага прафсаюзу «Шкловалакно» ці не штомесяца прыяжджалі з пакункамі харчу ды вопраткі, арганізатары агратурызму зь Мёраў – зь вясковымі прысмакамі. Лідэры мясцовай апазыцыі Аляксей Трубкін ды Васіль Главацкіх забясьпечвалі газэтамі. Каталіцкая

пісьменьніца Ірына Жарнасек прывозіла посную ежу ды вітаміны. Грэка-каталікі перадавалі рэлігійную літаратуру. Самым жа частым госьцем быў пісьменьнік Вінцэсь Мудроў зь нязьменным «свабодаўскім» дыктафонам.

Віцебская салідарнасьць, у сваю чаргу, дамагалася для мяне адпачынкаў і арганізоўвала транспарт. Немагчыма апісаць, колькі разоў бацькі падымалі на вушы ветрынскую, полацкую і віцебскую міліцыю пасьля кожнага парушэньня ці абмежаваньня маіх правоў. Падчас аднаго з такіх вэрхалаў уражаны опер са спэцкамэндатуры прызнаўся: «Самая моцная партыя, Павал Канстанцінавіч, – партыя бацькоў». Сябра сям'і Вадзім Баршчэўскі, Хрыстафор Жэляпаў, лідэр абласнога Фронту Кастусь Смолікаў штораз садзіліся ў машыны ды ехалі да Сітна. Валер Шчукін (пасьля якога любога барадатага наведніка сустракаюць захопленыя воклічы сіценцаў: «О! Аляксеіч!»), Яраслаў Берніковіч з Глыбокага, каталіцкія, уніяцкія, пратэстанцкія сьвятары з Полацкага ды Лепельскага раёнаў зрабіліся ў Малым Сітне ўжо сваімі.

Больш за ўсё наведнікаў было зь Менску. Сталічная салідарнасьць арганізавала ў глухой лясной вёсцы агмень цывілізацыі. Рэдакцыя «Нашай Нівы» прывезла сюды побытавую тэхніку ды аптэку лекаў; генэрал Фралоў – тэлевізар, маладафронтаўцы – радыёпрымач; дэлегацыя беларускага ПЭН-цэнтру на чале з Уладзімерам Някляевым, Лявонам Баршчэўскім, Уладзімерам Коласам ды Ўладзімерам Арловым – цэлую бібліятэку мастацкай літаратуры; ініцыятыўная група БХД – кубамэтар кансэрваў (састаўлены ў масіўную вежу проста на падлозе, ён яшчэ доўга выклікаў у сіценцаў сьвятарнае трапятаньне: «А што, Амэрыка ўсіх, хто ў вашай партыі, так забясьпечвае?!»). Падзеі Плошчы, быццам на тэлеэкране, мне паказвалі запісаныя фільмам на ноўтбуку… Вячаслава Сіўчыка, які сябры з «Бацькаўшчыны» прывезьлі разам са сьвяточным сталом (!). Доўга сьмяяліся з прапановы занесьці такі сэрвіс у рэестар паслугаў МУС… Сіценцы й алешчынцы хаваліся ад камэры Юр'я Хашчавацкага, унікалі аб'ектыву фотаапарата Пётры Васілеўскага, скардзіліся на начальства ў мікрафоны Генадзя Барбарыча, Тацяны Мельнічук ды Аляксандра Старыкевіча; узгадвалі, што кніжкі Арлова стаяць у іхняй бібліятэцы, і ня верылі, што гэта ходзіць па лузе ён сам. Маладафронтаўцы й зуброўцы – гурбы камуфляжнае моладзі зь бел-чырвона-белымі значкамі ды шаўронамі – пакідалі ўражаньне, што ў вёску ўвайшоў сапраўдны беларускі партызанскі атрад і ўлада перамянілася.

Ну, а як сустракалі Аляксандра Мілінкевіча (кавалькада зь некалькіх машынаў, каманда суправаджэньня на чале зь Сяргеем

Калякіным, фотаўспышкі) – лепш за ўсё сьведчаць вынікі алешчынскіх праймэрыз, дзе адзіны атрымаў 70% галасоў супраць 10% у Лукашэнкі. Падчас другога, нядаўняга візыту сп.Аляксандру ў вёсцы проста не давалі праходу: прасілі дапамагчы з рамонтам хаты, падняць леспрамгас, павысіць заробкі…

Панаехала гасьцей і з астатніх абласьцей. Эвангельскі пастар з Койданава цэлы дзень чакаў мяне з Полацкай царквы; мае дзядзькі з Гомельшчыны дабіраліся сюды двое сутак; берасьцейскія маладафронтаўцы арандавалі мікрааўтобус, каб ехаць 700 кілямэтраў праз усю краіну, а гарадзенцы на чале з Паўлам Мажэйкам прывезьлі з сабою польскую тэлевізію (адзін зь мясцовых п'янтосаў, падняўшыся з канавы, растапырыў рукі й крычаў апэратару: «Здымай! Я тут жыву!..»).

А хто-ніхто дабіраўся сюды й з-за мяжы. Пратэстанты-прадпрымальнікі ехалі з Кіева, каб абмеркаваць беларускую палітычную сытуацыю. Францускія й амэрыканскія журналісты рабілі кола зь Менску, каб пацікавіцца быцьцём сіценскай глыбінкі. Прадстаўніку Швэцыі ў Беларусі Стэфану Эрыксану, каб перадаць мне кнігі, давялося езьдзіць у Сітна двойчы – першы раз узімку яго разьвярнулі ўжо ў вёсцы, і толькі праз паўгоду, захаваўшы інкогніта, ён здолеў пранікнуць у засакрэчаныя гушчары беларуска-расейскай інтэграцыі. Пасьля візыту беларускіх студэнтаў, якія працуюць у Капэнгагене й чые нумары на аўтамабілі мяцовыя віжы зблыталі зь нямецкімі, у навакольлі быў абвешчаны сапраўдны алярм: «Немцы ў лесе!» Ледзь не дайшло да апэрацыі «Баграціён»…

Межаў артыкулу ня хопіць, каб пералічыць усіх, хто праехаў паўкраіны, каб выказаць сваю салідарнасьць. А яшчэ ж былі сотні лістоў ды пасылак – спадзяюся напісаць пра іх у наступным нумары.

Дарагія людзі! Вялізны дзякуй вам усім! Адведзіны Сітна пераконваюць: беларуская салідарнасьць здольная накарміць, апрануць, абараніць і натхніць кожнага, хто трапіў пад удар рэжыму.

Калісьці, у часы Майсея, Бог вызначыў габрэйскаму народу меру шляху да зямлі абяцанай. Свая такая мера, палічаная ў днях і кілямэтрах, пэўна, ёсьць і ў нас. Сьведчу: за апошні год толькі праездам празь Сітна беларусы яшчэ на 120 тысячаў кілямэтраў наблізіліся да нацыянальнага абуджэньня.

в.Малое Сітна

## ХВОЯ ЗЬ ФІГАВЫМ ЛІСЬЦЕМ

Рэальны ж плян разьвіцьця вытворчасьці й павышэньня заробкаў у Алешчы — не ўстаноўка чарговае планкі на якім-небудзь сэлектары ў Менску, а прыватызацыя й мадэрнізацыя ўсёй лясной гаспадаркі.У дзень выдачы заробку ў Алешчы пачынаюцца крытычныя дні. Люд незадаволена бурчыць, атрымаўшы так званыя «разьліковыя лісткі», у якіх бухгальтэрыя расьпісвае кожнаму налічэньні й выдаткі за месяц. Сумневу падвяргаецца як сыстэма падлікаў у цэлым, так і правілы арытмэтыкі ў прыватнасьці: «Дзе мае начныя за другую зьмену?», «Мабыць, сталоўка нешта хімічыць з прадуктамі», «Ніяк не зразумею, чаго яны акруглялі: у слупок ня сходзіцца» — як мурашнік, гудзе лесапункт. Затым, памусоліўшы ў руках колькі каляровых паперак, народ пераходзіць ад матэматычных і тэхналягічных аспэктаў да сацыяльна-эканамічных: «Ды як за гэта можна жыць?», «І мы месяц укалваем за тыя капейкі?!.»

Кіпеньне абуранага розуму завяршаецца рэвалюцыйнымі, ужо цалкам палітычнымі высновамі: «Паша, тэлефануй карэспандэнтам!», «З такімі заробкамі лепш у апазыцыю». І, нарэшце: «Усё. Галасуем за Мілінкевіча!»

Праўда, назаўтра — і на бліжэйшы тыдзень — народ сыходзіць у запой.

Зарабляюць тут мала. За верасень мне налічылі 120943 рублі, адмінусавалі падаткі й харчаваньне ў сталоўцы і выдалі на рукі 71 тысячу. Дзякуй богу, дапамагаюць наведнікі й праваабаронцы — інакш хапала б адно на хлеб і малако. А большасьць алешчынцаў ды маласіценцаў так і жывуць — на 30—50 даляраў штомесяц. Палова хлопцаў з Полацкай службы занятасьці, што купіліся на тамтэйшыя абяцанкі заробкаў «ад 400 тысяч», пасьля першага разьліку звольніліся, астатнія засталіся, бо не спадзяюцца знайсьці на Полаччыне што лепшае. Лукашэнкавы 250 даляраў тут атрымліваюць хіба што вадзіцелі лесавозаў ды начальства.

У апошняга на ўсе бурчаньні й пратэсты адказ адзін: «Не выконваеце плян! Дасьцё 120 кубоў за суткі — будзе вам добры заробак. А так — ані».

Калі казаць шчыра, выканаць 120-кубовы сутачны плян цягам месяца для Алешчы практычна нерэальна. Штодня ламаюцца краны або транспартэрная стужка, напіваецца раскрыжоўшчык або кранаўшчык — і праца становіцца. У Полацку пра гэта ведаюць, але па-ранейшаму трымаюць перад носам у лесапункту моркаўку-плян: «Дасі кубы — заробіш». Плян у Алешчы — яўная прымета каманднa-

адміністрацыйнай эканомікі. «Дзяржава робіць выгляд, што нам плаціць, — мы робім выгляд, што працуем». Завезьці б усіх абаронцаў плянавае гаспадаркі сюды ды тыцнуць пысай у гэты разьвіты сацыялізм!

Паводле накладных, гружаны тутэйшымі хваёвымі шпаламі самазвал — гэта 1,8 млн рублёў. За дзень працы на алешчынскім тартаку (пакуль яго не спалілі) тры чалавекі пілавалі па некалькі самазвалаў. Між тым супольны месячны заробак больш чым трыццаці працаўнікоў алешчынскага Ніжняга складу — мільёнаў пяць. «Працуем на золаце, а атрымліваем капейкі», — абураюцца людзі. Хто ж распараджаецца грашыма?

Фармальна «Полацаклес» — адкрытае акцыянэрнае таварыства. 43% акцый належаць працоўнаму калектыву, 57% — дзяржаве.

— 43% — доля немаленькая. Усталі б на сходзе акцыянэраў ды заявілі свае правы, — кажу рабочым, але ў адказ чую караценькае ды вычарпальнае: «Ну-ну». Усе разумеюць, што аб’яднаньне, як і ў савецкія часы, — усяго толькі ніжні паверх у дзяржаўнай індустрыяльнай герархіі, а дадатак «ААТ» — фігавы лісток.

Увогуле, гэты эканамічны абсурд зь бессаромнай высечкай і вывазам драўніны, заробкамі на ўзроўні афрыканскіх краін і цыркам «рыначнага сацыялізму» глядзіцца недарэчна, як хвоя зь фігавым лісьцем.

Рэальны ж плян разьвіцьця вытворчасьці й павышэньня заробкаў у Алешчы — не ўстаноўка чарговае планкі на якім-небудзь сэлектары ў Менску, а прыватызацыя й мадэрнізацыя ўсёй лясной гаспадаркі. Хай «Полацаклес» канкуруе зь «Віцебсклесам» і «Пінскдрэвам», а бізнэсоўцы з Наваполацку наладжваюць у Алешчы зборку драўляных домікаў на продаж. Толькі тады, за сапраўдным гаспадаром, люд будзе і даражыць працоўным месцам, і працаваць як сьлед.

Дзеля гэтага ў 2006-м трэба перамагаць.

[5 лістапада 2005]

Павал Севярынец, Малое Сітна

## ВЫМІРАНЬНЕ «ВЫМЯРАЛЬНІКАЎ»

Калі я пабачыў тое, што ў Малым Сітне засталося ад колішняй гаспадаркі наваполацкага заводу «Вымяральнік», падалося, што гэта — руіны разбомбленага Грозн‌ага.Калі я пабачыў тое, што ў Малым Сітне засталося ад колішняй гаспадаркі наваполацкага заводу «Вымяральнік», падалося, што гэта — руіны разбомбленага Грознага.

Фэрма, дзе трымалі больш за сто кароваў, цяпер стаіць з прабітым дахам, бяз шыбаў і абсталяваньня. Пра кацельню, што ацяпляла палову навакольля, нагадвае толькі высозны комін, на які мясцовыя жыхары лазяць, каб злавіць мабільную сувязь. Ад трохпавярховага інтэрнату для супрацоўнікаў гаспадаркі засталася цагляная скрыня. Усё ўсярэдзіне — ад дашчанай падлогі да дзьвярных клямак — разрабавана. Дзіцячы летнік «Зорны» на маляўнічых берагах возера Ізмок — калісьці адзін з найлепшых у Беларусі — ужо як два гады знаходзіцца ў аварыйным стане. А калі глядзіш на цэх па вырабе бэтону — перад вачыма ажывае Берасьцейская крэпасьць. Такое ўражаньне, што будынак расстрэльвалі прамой наводкай, а абаронцы паміралі, але не здаваліся… Цяпер з гэтай цэглы ў Сітне муруюць печкі.

За часамі застою наваполацкі «Вымяральнік» быў звышсакрэтным прадпрыемствам савецкай «абаронкі» й вырабляў абсталяваньне для касьмічных караблёў. Працаваць сюды бралі толькі надзейных грамадзянаў зь бездакорнай біяграфіяй. У Сітне расказваюць, як вартаўнік, якому заманулася вынесьці з заводу мэталёвы ліст на ўваход у хату, выцірацць боты (аказалася — плаціна), загрымеў у турму на тры гады. Ляснуў СССР — ляснула вытворчасьць. Цяпер «Вымяральнік» робіць машынкі для закатак у слоікі. Колішняя гаспадарка ў вёсках кінута на разрабаваньне згаладаламу насельніцтву.

Выміраньне «Вымяральніка» — індыкатар камуняцкае псыхалёгіі. З аднаго боку — жахлівае марнатраўства: не сваё — не шкада. Зь іншага — прага чужое маёмасьці, імкненьне да разбурэньня і жывёльны рэфлекс — цягнуць, што кепска ляжыць, у сваю нару.

А корпус інтэрнату так просіцца стаць шматканфэсійным хрысьціянскім цэнтрам, дзе знойдзецца месца і праваслаўнаму брацтву, і каталіцкаму хосьпісу, і пратэстанцкай місіі…

А былы цэх па вытворчасьці бэтону чакае прадпрымальніка, добрага гаспадара, які забясьпечыць будаўнічымі матэрыяламі навакольле.

А кацельня так патрэбная мясцовым уладам, каб абаграваць установы, турбазы, інтэрнаты…

А летнік — беларускай турфірме…

Колькі такіх вымерлых вымяральнікаў, закінутых вайсковых гарадкоў, турбазаў, гаспадарак, усяе інфраструктуры разбуранай імпэрыі па ўсёй Беларусі? А колькі грошай дзяржава траціць сёньня на будаўніцтва? Колькі атрымлівае ад прыватызацыі? Колькі прадпрымальнікаў гатовыя ўжо цяпер плаціць за практычна гатовыя офіс, цэхі, склады? Колькі хрысьціянскіх цэркваў і дабрачынных арганізацыяў нудзяцца без уласнага памяшканьня? Колькі яшчэ руплівыя, ашчадныя беларусы будуць трываць гэткае марнатраўства, разбурэньне й спусташэньне?

Каб на руінах вымерлых «вымяральнікаў» паўстала Новая Беларусь — у 2006-м абавязкова трэба перамагаць!

[12 лістапада 2005]

Павал Севярынец, Малое Сітна

## «МАКСІМКА»

«Максімка» — шклоачышчальнік на аснове этылавага сьпірту. Таксычны. Пры пападаньні на адкрытую паверхню скуры прамыць праточнай вадой».«Максімка» — шклоачышчальнік на аснове этылавага сьпірту. Таксычны. Пры пападаньні на адкрытую паверхню скуры прамыць праточнай вадой».

Гэта напісана на 5-літровіках, якія расейцы велікалуцкім дызэлем завозяць у Алешчу і прадаюць па 20 тыс. рублёў. Але няма пад Алешчай даўн-таўну небасягаў, на мыцьцё вокнаў якіх спатрэбіўся б аб'ём штотыднёвых расейскіх паставак. Праточнай вадой «Максімку» разбаўляць да належнага градусу й разьліюць у бутэлькі з-пад ліманаду ці мінэралкі — і вось ён, самы даходны бізнэс у Сітна-сіці. «Максім Максімыч», «Максімільян», «Максімус» — валадар наваколься. Ні гарэлка, ні самагонка ня вытрымаюць канкурэнцыі зь ядраным пойлам, якое ўмомант «зрывае дах» і паўлітра якога для мясцовых «сьпіртавозаў» абыходзіцца таньней за хлеб. Зрэшты, жывых грошай за «Максімыча» тут амаль ніколі ня плацяць. Бяруць «на доўг» (напрыканцы месяцу аддаюць паўзаробку), часьцей прапаноўваюць бартэр: колькі слоікаў салянкі або трыста грамаў кілбасы, якіясь рэчы…

На сьвята тут звычайна ўжываюць крамнае віно: «Крыжачок», «Вішнёвы сад», «Васілісу». Гэта, у параўнаньні з тэхнічным сьпіртам, — пітво высакароднае, п'еціца чаркаю. А «Максімка» — напой будзённы: «прыняць», «дагнацца», адзначыць «дзень рускай балалайкі» ці «першы аўторак тыдня»… І п'юць ужо кубкам або ўвогуле «з рыла».

У Малым Сітне — 19 пунктаў, дзе прадаецца «Максімка». Сьпіс ляжыць у сельсавеце, участковы — у курсе. Але гандаль ідзе безупынна. А то ж: у любога каляніяльнага рэжыму спойваньне заўжды лічылася найбольш эфэктыўным спосабам падпарадкаваньня абарыгенаў і нэўтралізацыі магчымага пратэсту. І той, хто гандлюе, і той, хто п'е (а разам яны ў вёсцы складаюць большасьць), ведаюць, што кожная спроба адстаяць свае правы сустрэне абгрунтаванае абвінавачаньне ў распаўсюдзе ці рэгулярным ужываньні «Максімкі». «Самі ж п'яце, — цынічна нагадвае мясцовая ўлада, — ніхто вас не прымушае». Ад безвыходнасьці люд глушыць яшчэ больш. Труціцца. Вешаецца. Вымірае. Эпілепсія, якая разьвіваецца ад пастаяннага піцьця «Максімкі», на алешчынскай эстакадзе — звычайная зьява. Калі пахмельны раскрыжоўшчык з заведзенай бэнзапілой раптам разварочваецца — ты жахаесься ад невідушчага позірку. Калі малады

мужык падае на бярвеньне, разьбівае ў кроў галаву й калоціцца без прытомнасьці; калі маці чацьвярых дзяцей, што адкочвае крукам ствалы на эстакадзе, у прыпадку валіцца на кучу сьмецьця — народ абыякава паціскае плячыма: «Максімка». Цудоўныя беларускія тыпажы, вобраз і падабенства Божае, па меры алькагольнай дэградацыі набываюць яўныя рысы ідыятызму. Людзі гніюць зажыва, пачынаючы з галавы. Дзеці нараджаюцца разумова адсталыя ці з псыхічнымі расстройствамі.

Адны рэпрэсіўныя захады становішча не паправяць. Апроч нармальнай мяжы з Расеяй, апроч буйных штрафаў за распаўсюджваньне зельля, апроч татальнай інфармацыйнай прафіляктыкі тут трэба нешта большае. Трэба зьнішчыць прычыну, якая штурхае люд да запою. Вярнуць беларусам сэнс жыцьця. Веру ў Бога. Любоў да Радзімы. Сваю справу.

Спыніць трыюмфальнае шэсьце «Максімкі» можна толькі адным чынам.

Перамагчы ў 2006-м.

[17 лістапада 2005]

Павал Севярынец, Малое Сітна

# Рэйкавая вайна

Сем разоў на тыдзень, дзень пры дні Расейская імпэрыя праводзіць на тэрыторыі Беларусі спэцапэрацыю «Невель—Полацак». На чыгуначнай станцыі Алёшча спыняецца дызэль, які вось ужо колькі гадоў выконвае функцыі бронецягніка інтэграцыі — увозіць у Беларусь танны хлеб, цацкі для абарыгенаў і «максімку» ў каністрах.Сем разоў на тыдзень, дзень пры дні Расейская імпэрыя праводзіць на тэрыторыі Беларусі спэцапэрацыю «Невель—Полацак». На чыгуначнай станцыі Алёшча спыняецца дызэль, які вось ужо колькі гадоў выконвае функцыі бронецягніка інтэграцыі — увозіць у Беларусь танны хлеб, цацкі для абарыгенаў і «максімку» ў каністрах.

Прыбыцьцё дызэля — тутэйшае сьвята. Зранку сіценскі люд рыхтуецца, бы на кірмаш, і вахтоўкай разам са штабялёўшчыкамі едзе на станцыю. На плятформе зьбіраецца ладны для гэтых мясьцін натоўп зь некалькіх дзясяткаў чалавек — і пачынаецца гандаль.

У самы разгар саюзнага тавараабароту зь лясное засады раптам вырульвае легкавік, зь віскам тармазоў прыпаркоўваецца ля пераезду, зь яго выскокваюць ды борзьдзенька шыбуюць цераз чыгунку некалькі дзеячаў у форменнай вопратцы. «Мытня!» — люд урассыпную пырскае з пэрону, забіраючы авоські ды валізкі. Хто не схаваўся — затрыманьне, гутарка з мытнікамі, складаньне пратаколу ды канфіскацыя тавару. Сёй-той выкідае штосьці набытае або непрададзенае і дэманструе верашчагіным пустыя рукі. Канчатковы вынік рэйду — які-небудзь кіляграм сасісак ды пару боханаў хлеба — яўна не апраўдвае паліва, затрачанае на прыезд мытнікаў з Полацку. Пра пагрозу самому кантрабанднаму трафіку ці «сьпіртаправоду» і гаворкі няма. Як гэта — адмяніць дызэль, які амаль ня возіць людзей, адно «максімку» ды «тавар», ці ўсталяваць нармальны стацыянарны кантроль у Алёшчы? А як жа саюзная дзяржава?

Праз расейскі дызэль імпэрыя вядзе дэмпінгавую вайну супраць беларускага хлеба: нясмачны й меншы памерамі, але таньнейшы расейскі чорны ўжо выціснуў зь мясцовага рынку дыхтоўныя полацкія боханы; на чарзе — булкі й батоны. Праз дызэль Расея ажыцьцяўляе адкрытую кантрабанду: не абкладзены аніякім падаткам ці мытам, паток тавару штодня выграбае зь беларускага бюджэту мільёны рублёў. Нарэшце, менавіта праз дызэль, нібы праз аграмадны шпрыц, іньекцыі тэхнічнага этылавага сьпірту ўсаджваюцца ва ўсё навакольнае насельніцтва.

Без цывілізаванай мяжы «рэйкавая вайна» Расеі супраць Беларусі будзе працягвацца. І не адно ў Алёшчы — толькі на

Віцебшчыне ролю гэткіх жа чыгуначных шлюзаў выконваюць яшчэ й Засьценкі Дубровенскага раёну, Езярышча на Гарадоччыне, Лёзна ля Віцебску…

Самая небясьпечная наша мяжа гасьцінна расчынена перад усякай пошасьцю з Усходу. Праз такія вось дызэлі перабіраюцца ў Беларусь незаконныя мігранты з усяе Азіі. Такімі самымі чыгуначнымі калідорамі бесьперашкодна курсуе ў беларуска-расейскім памежжы крымінал. У гэткіх жа цягніках інтэграцыі, не баючыся пільнага надгляду, транспартуюць сюды з Расеі тоны сярэднеазіяцкіх наркотыкаў і каўкаскае зброі. Дызэльныя сьмецьцеправоды працуюць спраўна: сэрца Эўропы ператвараецца ў глухую памыйку на заходнім узьмежжы імпэрыі.

Шчырае маладафронтаўскае, час ад часу пачуеш трубны гул таго дызэля, і ўяўляецца: выходзяць зь лесу беларускія партызаны, закладаюць пад рэйкі фугас ды рвуць тую чыгунку на трэскі…

Калі мы хочам спыніць рэйкавую вайну й ня лічым выйсьцем мэтады Машэрава ды Заслонава 1943—1944 г. — у 2006-м мусім перамагаць!

[24 лістапада 2005]
Павал Севярынец, Малое Сітна

## Агнявы сьнег

Здавалася б, нарыхтоўка лесу. У Беларусі такіх дзялянак сотні. Нічога незвычайнага. І ўсё ж менавіта тут, на лесапавале, і менавіта гэтай зімою, як калісьці ў дзяцінстве, мне адкрылася безьліч сапраўдных цудаў.Здавалася б, нарыхтоўка лесу. У Беларусі такіх дзялянак сотні. Нічога незвычайнага. І ўсё ж менавіта тут, на лесапавале, і менавіта гэтай зімою, як калісьці ў дзяцінстве, мне адкрылася безьліч сапраўдных цудаў.

Часам, чакаючы тралёвачнага трактара з чарговым пачкам, машынальна пачынаеш падлічваць колцы на сьпілах зваленых у штабелі ствалоў. 15. Дубок узросту беларускай незалежнасьці. Шкада, дружа: трапіў пад пілу саўковае сыстэмы нарыхтовак. 29. Альха, мая равесьніца. Прывітаньне! Рыхтуйся на цэлюлёзу — магчыма, яшчэ сустрэнемся… на ўлётцы ці на старонцы «Нашае Нівы». 34. Хваіна часоў Машэрава. Рана зрэзалі. Мабыць, пойдзе на які слуп лесьнікам, не спарахнее. 52. Асіна, раўня Рыгоравічу. На фанэру… Ого! Чэсьць! — елка ўзросту БНР! Эўрастандарт, за мяжу па найвышэйшым разрадзе… Вялізная клявіятура машыны часу разгортвае перад табою ўсю панараму эпохі ў канцэнтрычных кодах. Быццам колы на вадзе, на зрэзе фіксуецца рэха падзеі. Хіба ня цуд?

Або ў непралазным балотным гушчары трапляеш на вялізную яліну накшталт тых, што ставяць на Кастрычніцкае плошчы ў Менску. Толькі вось на сярэдзіне ствала, амаль пазбаўленага галінаў, прыбіты крыж. Ледзь угледзіш надпіс: «Львів. ДМБ 1981». Так, дапусьцім, падчас вучэньняў салдат-украінец пакінуў па сабе памяць. Але як крыж апынуўся на дзесяцімэтровай вышыні? Ствол гладкі, як калёна, і абсалютна непашкоджаны. Цуд? Лесавікі ўсьміхаюцца: крыж прыбівалі ўнізе. За 25 гадоў елка проста вырасла.

Упершыню ў жыцьці бачыў ужывую пару ласёў, якія стаяць пры дарозе, аб’ядаючы кару зь вецьця, і зусім не палохаюцца машыны. Або статак дзікоў, калматых, бы тыя маманты, якія сярод белага дня праходзяць за 15—20 мэтраў ад нашае брыгады па сваіх сьвінячых справах…

Назіраеш, як на 30-градусным марозе, зваленая на мерзлую зямлю, выбухае з фаервэркам ашкелкаў ломкая, бы зь лёду, хвоя — і кожны ўдар сякеры аб сук адгукаецца дзіньканьнем каляднага званочка…

Або ўзяць вогненны сьнег… Так, узяць жменяй, каб сьцерці рукі ад бруду, саляркі ці змазачнага алею (у інтэрнаце ўжо паўгоду ня могуць паставіць рукамыйнік) — ад пякучага холаду далоні дымяць.

Кідаеш запалку на праліты бэнзін, і сьнег гарыць зыркім полымем! Аднойчы, калі нас закінулі на падсыпку (дзяўбсьці на ўзбочыне трасы зямлю, каб гружаныя лесавозы маглі ўзьняцца на сьлізкіх пад'ёмах), мы з напарнікам гарачага сьнегу пакаштавалі. Вельмі хацелася піць, а з сабой нічога, а вакол нікога, адно запалкі ды жалезны кубак. Разьвялі вогнішча, растапілі сьнегу, і пілі яго па чарзе з агню, гаркавы ад попелу, мацнейшы за любую гарэлку.

Але самы сапраўдны агнявы сьнег мне давялося ўбачыць на ўборцы дзялянкі, падчас сьнегападу. У вялізным, 4—5 мэтраў вышыні, вогнішчы, дзе спальваліся цэлыя «непрамысловыя» елкі, алешыны, бярозавыя рогі, раптам трэснула ўсярэдзіне, выбухнула салютам іскраў на вышыню пяціпавярховага дому — і потым хвілінамі ціха і ўрачыста ў паветры ірдзела, пераблісквала зь белымі сьняжынкамі чырвонае й аранжавае, нібы зь неба сыходзіла шматтысячная грамада пад бел-чырвона-белымі сьцягамі.

Калі змаўкаюць бэнзапілы й сякеры, калі спыняецца, глухне трактар і зьяжджаюць лесавозы — раптам прыслухоўваесься. У верхавінах дрэваў пад ветрам нараджаецца, расьце й гучыць велічная, уладная нябёсная сымфонія. Чуеш сапраўдную літургію, гімн Творцу, дзе мужчынскія басы зьліваюцца з высокімі нотамі жаночага хору — і заміраеш малітоўна, бы ў храме. Падымаеш вочы ўгару — і бачыш, што насамрэч дзялянка — гэта агромністы проруб у неба, прорва ў глыбокі блакіт для тваёй малітвы за ўсю Беларусь.

Насамрэч цуды вакол нас. Госпад даў нам цуд жыцьця, падараваў цудоўныя пачуцьці і пасяліў у найцудоўнейшай краіне ў сьвеце. У такія цуды трэба толькі паверыць — і тады хараство й гармонія сэнсу напоўняць цябе ўсяго.

Палякі сьпявалі на плошчах рэлігійныя гімны — і атрымалі праўдзівы цуд. Сэрбы выходзілі на дэманстрацыі хросным ходам за сваім мітрапалітам — і ўбачылі цуд. Украінцы штодня пачыналі Майдан з малітвы — і нарэшце дамагліся цуду.

Вы ўсё яшчэ лічыце, што Беларусь у 2006-м выратуе толькі цуд?

Тады надышоў час паверыць у цуды.

Бо — «чалавеку гэта немагчыма; Богу ж усё магчыма»! (Мацьвея 19:26).

Гэта ж так проста.

Выйсьці ў дзень выбараў на плошчу, насустрач сьвежасьці й волі.

Памаліцца Богу за свабоду, праўду і справядлівасьць для Беларусі.

І гучна, на ўвесь голас, сказаць тое, што думаеш, што адчуваеш, чаго хочаш усім сэрцам:

— Жыве Беларусь!!!

І калі ўбачыш, як неба па-над шматтысячнай грамадою раптам запальваецца агнявым бел-чырвона-белым — ведай: гэты момант увойдзе ў гісторыю Беларусі як цуд 19 сакавіка.

в.Малое Сітна

## Крыж як прыцэл для перамогі

Выхад у лясную дзялянку — нібы першыя кадры з блёкбастэру «Глядыятар». Надзяваеш каску, быццам шлем, распраўляеш плечы ў зімовай амуніцыі, у руках баявая сякера, за сьпінай ляскат брані (гусенічны трактар) — і пад ціхі сьнег спускаесься да яловага ўзьлеску, дзе ў гушчары цябе пільнуе пагрозьлівая цемра.Выхад у лясную дзялянку — нібы першыя кадры з блёкбастэру «Глядыятар». Надзяваеш каску, быццам шлем, распраўляеш плечы ў зімовай амуніцыі, у руках баявая сякера, за сьпінай ляскат брані (гусенічны трактар) — і пад ціхі сьнег спускаесься да яловага ўзьлеску, дзе ў гушчары цябе пільнуе пагрозьлівая цемра.

Тут, у беларускім партызанскім лесе, ты можаш адчуць сябе дружыньнікам князя Ўсяслава, можаш — ваяром Вітаўта, можаш — селянінам з Іванску, які ў 1564-м пад Чашнікамі засёк маскоўскага ваяводу Шуйскага, можаш — паўстанцам Каліноўскага… Ты ўрубаесься ў гушчыню зваленых дрэваў, сячэш сучкі ды верхавіны, ажно да праўдзівага ваяўнічага ражу, крышыш ворага ў капусту… І раптам ачомваесься: гэтак жа сьпехам, сьціснуўшы зубы, мы абсякалі гольле з паваленых дрэваў у Курапатах, уначы пасьля атакі спэцназу. Ставілі новыя крыжы замест раструшчаных бульдозэрамі.

Тыя з маладых абаронцаў, хто пазьбег арышту падчас сутычак ды аблавы, сабраліся тады ля разбураных амонаўцамі намётаў. Некаторыя адчайна крычалі: «Да зброі! За сякеры — і на амон!..» Хрысьціяне настаялі: ставіць наноў крыжы і станавіцца самім.

Усю ноч мы абчэсвалі ствалы, секлі на папярэчыны, зьбівалі ў крыжы, перавязвалі вяроўкамі, капалі ямы… Ох, і цяжка было падымаць тыя крыжы! Нараніцу і будаўнікоў, і тэлевізійнікаў, і амон сустракалі дзясяткі новых крыжоў і жывы ланцуг абаронцаў. Сячэш з пляча, адвальваеш убок гольле, якое сьцябае па твары, прарубаесься далей — і згадваеш байцоў-маладафронтаўцаў, якія былі тады, у курапацкім хвойніку, поплеч — стаялі з крыжамі, сядзелі ў намёце, цясьніліся на нарах — а цяпер пад «крыміналкамі».

Артура Фінькевіча, які падчас кампаніі «Беларусь — у Эўропу!» аб’езьдзіў з агітацыяй дзясяткі мястэчак ды вёсак, пасьля вулічных акцыяў правёў на «сутках» больш 4-х месяцаў, а цяпер на Валадарцы, дзе за надпіс «Мы хочам новага!» можа атрымаць да шасьці гадоў.

Зьмітра Касьпяровіча, які яшчэ 16-гадовым хлопчыкам пратрымаўся рэкордныя 22 кілямэтры на прабегу за свабоду Шыдлоўскага й Лабковіча, якому пару гадоў таму міліцыянты адбілі

рукі й ногі за «Горад — наш!» на Залатой Горцы, які цяпер у ізалятары.

Паўлюка Красоўскага, які вывозіў з Жодзіна па дваццаць-трыццаць маладафронтаўцаў на кожную буйную менскую маніфэстацыю, чакае суду за «зьнявагу дзяржаўных асобаў…».

Сячэш і сячэш, да зьнямогі, да апошняга сучка, каб пазбавіць думкі ад другаснага, лішняга і пакінуць толькі стрыжань, ствол… Загатоўку для агромністага крыжа.

Усе яны ставілі курапацкія крыжы й станавіліся перад будаўнічай тэхнікай, выдатна ўсьведамляючы, што такое бульдозэры й дубінкі. Але яны верылі, што Бог ня дасьць сьвятыню на глум. І крыжы былі адноўленыя. Курапаты захаваліся. Паўсьвету ўбачыла, што Беларусь жыве. Бо крыж зьнішчыць немагчыма. Крыж — гэта сымбаль дабра, якое трыюмфуе ня гвалтам, але духам. Сымбаль Хрыста, Чый сьцяг мы нясём як знак Адраджэньня. Сымбаль Бога, Які прыняў пакуту за ўсіх людзей — і перамог.

Ніхто з гэтых хлопцаў ня ўзяўся за каменьні ды заточкі на дэманстрацыях, хаця з кожнага зьдзекаваліся, зьбівалі, арыштоўвалі. Ніхто не пайшоў вывучаць «энцыкляпэдыю тэрарыста», хаця дзе-небудзь на Ўсходзе паліцэйскія ўчасткі высадзілі б у паветра за куды меншыя «подзьвігі», чым у нашага АМОНу. Ніводзін не пачаў рыхтавацца ў снайпэры, хаця ў гэтых загартаваных хлопцаў рука цьвёрдая й вока пільнае. Яны ўзялі іншы прыцэл: кожны зь іх узваліў на плечы свой крыж.

У бітве за Беларусь, якая разгарнулася на мяжы тысячагодзьдзяў ад нараджэньня Хрыста, мы прынцыпова выбралі шлях ахвярнага змаганьня. Ня зброяй. Словам. Сьцягам. Крыжам. Негвалтоўны, аксамітны шлях.

Дабро ў супрацьстаяньні са злом заўжды перамагае. Рана ці позна. Але перамога не даецца лёгка. Таму і глядзець на яе мы мусім не праз оптыку снайпэрскай стрэльбы, а праз прыцэл крыжа.

Перад вулічнымі маніфэстацыямі ня трэба ўяўляць сябе глядыятарам. Прыпадабняйцеся Хрысту. Не бярыце з сабой ані арматуры, ані камянёў. Вазьміце веру і мужнасьць у сэрцы. Ня бойцеся — бо «даў нам Бог духа ня страху, але сілы, любові й мудрасьці» (ІІ да Цімафея 1:7). Рыхтуйцеся! У нашым крыжовым прыцэле — 19 сакавіка.

Малое Сітна

## Палігон

Ад вялікай зямлі Малое Сітна аддзяляе палігон. Агромністая балоцістая пустка, калісьці выкарчаваная, а цяпер зарослая падлескам, займае плошчу памерам зь Менск.Ад вялікай зямлі Малое Сітна аддзяляе палігон. Агромністая балоцістая пустка, калісьці выкарчаваная, а цяпер зарослая падлескам, займае плошчу памерам зь Менск.

Кажуць, што стрэльбішчы пад Дрэтуньню былі і да вайны. Але менавіта пасьля II сусьветнай, што перацякла ў вайну халодную, у Крамлі вырашылі, што лепшае месца для адпрацоўкі танкавых прарываў у Заходнюю Эўропу — у старажытным сэрцы Беларусі. Так у акупацыйнай зоне 1563-1578 гадоў, аточанай фарпостамі Івана Жахлівага — Казьянамі, Сокалам, Сітнам — паўстаў палігон.

Старажылы згадваюць, што для палігону адсялілі тры сельсаветы вёсак. Лес бязьлітасна валілі. Балацявіны ў басэйне Палаты загацілі адборным дрэвам. Прыежджыя кітайцы ў жаху хапаліся за галовы: аддайце лес нам, мы вам колькі хочаце бэтону прывязём. Але ў «самай мірнай краіне» не лічыліся ані з выдаткамі, ані з прыродаю, ані з думкаю «братоў меншых». У цэнтры Палігону адгрохалі шыкоўны каманднi пункт з падземнымі паверхамі, гатэлем і рэстарацыяй; набудавалі бункераў, кашараў, нарабілі мішэняў ды муляжоў. Засталося толькі аддаць каманду: зараджай… цэлься… агонь!

Калі на палігоне бахалі гарматы, у Малым Сітне ды навакольных вёсках вылятталі шыбы. Чыгунныя балванкі са сьвістам расьсякалі паветра па-над хатамі, паражаючы «зададзеныя мэты» ў навакольных лясох, і прымушалі вяскоўцаў прысядаць на кукішкі, гадаючы: ці слушна разьлічылі там генэралы, а то зараз як шарахне!.. Мужыкі з гонарам распавядуць, як за часамі Машэрава на вучэньні краінаў Варшаўскага пакту сюды зьехаліся савецкі міністар абароны Грэчка, лідэр ГДР Хонэкер ды Войцех Ярузэльскі. Дзесьці ў 1970-х на вайсковыя зборы на Дрэтуньскі палігон выклікалі як рэзэрвіста і майго бацьку.

Тыя зь мясцовых, хто хадзіў на палігон у грыбы-ягады ў 1980-х, раскажуць, як вайсковыя вэрталётчыкі, выканаўшы «пастаўленую задачу» зь мінімумам боекамплекту, разварочваліся над возерам Вырвіна і шугалі астатнімі ракетамі проста ў возера. Потым, прызямліўшыся, надзьмувалі гумавыя лодкі, спускаліся на ваду ды напаўнялі іх глушанай рыбай. Згадкі пра палігон часоў незалежнасьці — аповеды пра неразарваныя супрацьтанкавыя міны або праекты шушкевіцкае адлігі ператварыць камандны пункт у турбазу…

За Лукашэнкам вучэньні аднавіліся. Змрочны палігон дагэтуль застаецца дэтальлю баявога мэханізму, сканструяванага імпэрыяй зла на галоўным, заходнім кірунку ўдару. Як дзясяткі прадпрыемстваў савецкае «абаронкі», як «Нафтан», што мусіў забясьпечваць палівам танкавыя армады. Як гіганцкія тутэйшыя сьвінакомплексы для бесьперабойнага харчаваньня мільённага войска. Усю Беларусь, талерантную, трапяткую, духовую, савецкая імпэрыя ўкрыжоўвала на раскрэсьленых крамлёўскімі генштабістамі плянах III сусьветнай.

У Вольнай Беларусі Дрэтунскі палігон можа стаць музэем савецкага мілітарызму. Усё жалезьзе, прызначанае для зьнішчэньня паловы сьвету, так і просіцца сюды. І сюды, а не на бутафорскую лінію Сталіна, трэба вазіць школьнікаў ды замежных турыстаў. Ці — правесьці на палігоне вучэньні па разьмініраваньні для «гарачых кропак» былога сацлягеру. Ці — арганізаваць манэўры эўрапейскіх міратворцаў...

Але каб уся Беларусь зноў не ператварылася ў Палігон для зброі, нацэленай на астатняе чалавецтва — 19 сакавіка мы абавязкова мусім перамагаць!

в.Малое Сітна

## Партызанская зона

На алёшчынскай эстакадзе, зваранай з чыгуначных рэек, ля сходняў, дзе прыбіты плякат «Пабочным асобам уваход забаронены», любы ахвочы можа памацаць жалезнае сьведчаньне партызанскае мэнтальнасьці беларусаў. Меншая за савецкі стандарт рэйка з штампам «Krupp», сымбалем з трох колцаў і датай — 194... У 194... якім годзе прамысловасьць Трэцяга Райху вырабіла гэты чыгунны Drang nacht Osten, высьветліць немагчыма — рэйка абрэзаная на самым інтрыгоўным месцы.На алёшчынскай эстакадзе, зваранай з чыгуначных рэек, ля сходняў, дзе прыбіты плякат «Пабочным асобам уваход забаронены», любы ахвочы можа памацаць жалезнае сьведчаньне партызанскае мэнтальнасьці беларусаў. Меншая за савецкі стандарт рэйка з штампам «Krupp», сымбалем з трох колцаў і датай — 194... У 194... якім годзе прамысловасьць Трэцяга Райху вырабіла гэты чыгунны Drang nacht Osten, высьветліць немагчыма — рэйка абрэзаная на самым інтрыгоўным месцы.

Лясная Полаччына ў II сусьветную была адным з цэнтраў партызанскага руху. Праўда, аповеды тутэйшых старажылаў розьняцца ад мітаў афіцыйнае савецкае прапаганды.

У 1941 г., калі немцы атачылі на матацыклах у полі першых «партызанаў» — мясцовых камсамольцаў, якім партыйцы выдалі паляўнічыя дубальтоўкі, пасьля загаду «зброю ў кучу!» прагучала нечаканае «А ну дахаты, да маткі!». Аднак пасьля таго, як з Масквы сюды закінулі энкавэдэстаў і пачаліся дывэрсіі, фашысты пачалі плянамерны тэрор сярод мірнага насельнітва.

Кажуць, што ў 1942-м закінутую каляіну чыгункі на Невель, якой немцы не карысталіся й, натуральна, не ахоўвалі, партызаны ўзрывалі найбольш ахвотна — і да 1943 г. зьнішчылі амаль цалкам. Затое ў Маскву штотыдня ішлі шыфроўкі: «узарвана яшчэ столькі й столькі мэтраў чыгуначнага палатна».

Адзін зь мясцовых жыхароў перадаў мне некалькі цікавых дакумэнтаў 1942—1944 гг., што тычацць партызанскага руху на Полаччыне. Сярод іх — даведка па-расейску: «Рэзкін П.І. ёсьць камандзірам партызанскай групы. Даведка дзейная па 15 верасьня 1942 г.». Дата — 1 верасьня 1942 г., подпіс начштабу, і штамп: «Даплаціць. Юравічы». Пасьля вайны паводле даведкі з двухсэнсоўным зьместам камандзіра групы прызначылі кіраўніком участку Полацкага леспрамгасу. Да стырна БССР прыходзіў «партызанскі клан».

Партызанская генэтыка сіценцаў невыкаранялная. Калі пару гадоў таму сюды прыехаў міліцэйскі нарад утаймоўваць некалькіх мясцовых, тыя зладзілі аблогу, прымусілі ахоўнікаў правапарадку расстраляць усе патроны з табэльных пісталетаў, саму зброю паадбіралі, «захопнікаў» павязалі, упіхнулі ў «козьлік» і давай штурхаць да бліжэйшага возера. Паглядзець, ці паплыве… Небаракаў выратаваў егер, паабяцаўшы «партызанам» гарэлку. А зусім нядаўна ля вёскі даішнікі спынілі машыну лесавікоў, што ішла юзам, і запатрабавалі ў захмялелага вадзіцеля правы. У адказ «лясныя браты» завялі бэнзапілы. Больш посту аўтаінспэкцыі там ня бачылі…

Партызанка — адказ загнанага ў кут беларуса. Нацыянальны супраціў тоіцца ў глыбіні душы, сярод гушчароў і балотаў, у самых нетрах. Таму ён непераможны. Але сыход у лес сам па сабе ня ёсьць выйсьцем — ён хіба здольны зрабіць невыносным жыцьцё і ворага, і мірнага насельніцтва, і саміх «партызанаў».

Вось і зараз многія з нас так і сыходзяць, бы ў лес — хто ў сябе, хто ў запой, хто ва ўласныя мроі, хто ў канспірацыю… І сядзяць у гэткай партызанскай зоне, чакаючы «вызваліцеляў».

Савецкія энцыкляпэдыі паведамляюць, што ўвосень 1943 г. беларускія партызаны кантралявалі 60% плошчы Беларусі. Вось такі нацыянальны парадокс, большасьць тэрыторыі — партызанскія зоны, а ў краіне гаспадарыць акупант.

Дык вось, каб беларусы не прасядзелі ў партызанах усё сваё жыцьцё — 19 сакавіка трэба перамагаць.

Малое Сітна

## Сіценскія сталкеры

Колькі мільярдаў даляраў можа атрымаць беларускі бюджэт пры сусьветных коштах на мэтал і мінімуме затратаў на здабычу — задачка для навучэнца маласіценскай сярэдняй школы. Пакуль жа грошы ідуць у кішэні нелегальных перакупшчыкаў ды пасярэднікаў у Расеі й Эўропе.Сіценскія сталкеры

Як інжынэр-геоляг са спэцыялізацыяй «Разьведка карысных выкапняў», пасьля пяці месяцаў, праведзеных на палявых работах у Малым Сітне, магу з усёй адказнасьцю заявіць: беларускія нетры багатыя ня толькі на соль, торф і будаўнічыя матэрыялы, але й на чорныя ды каляровыя мэталы. Запасы прамысловыя, па ўсёй Беларусі вымяраюцца ў мільёнах тон пры 100% зьмесьціве карыснага кампанэнту й глыбіні залягання да 1,5 м. Медзь, алюмінь, сплавы залягаюць у выглядзе жылаў правільнае формы, да 15 мм у дыямэтры, даўжынёй да некалькіх кілямэтраў, і пры гэтым нават абгорнутыя ізаляцыйнай абалонкай. Жалеза проста знаходзіцца на паверхні зямлі… У раёне вёскі Малое Сітна здабыча вядзецца мясцовым насельніцтвам саматужна, і дзясяткі тон мэталу штомесяц кантрабандным чынам перапраўляюць за мяжу. «Мэталашукальнікі» ў Малым Сітне й Алёшчы выкопваюць электрычную праводку гаспадаркі наваполацкага «Вымяральніка» і сыстэмаў энэргазабесьпячэньня Але на Полаччыне ёсьць і багацейшыя радовішчы — закінутыя ракетныя шахты й вайсковыя гарадкі. Ёсьць залатаносныя сьметнікі «Нафтану», «Паліміру», «Шкловалакна» й таго ж «Вымяральніка». А Віцебск, Менск, думаеце, бяднейшыя?..

Колькі мільярдаў даляраў можа атрымаць беларускі бюджэт пры сусьветных коштах на мэтал і мінімуме затратаў на здабычу — задачка для навучэнца маласіценскай сярэдняй школы. Пакуль жа грошы ідуць у кішэні нелегальных перакупшчыкаў ды пасярэднікаў у Расеі й Эўропе.

Пытаюся ў тутэйшых здабытчыкаў, якія штодня дастаюць з палутарамэтровае глыбіні па колькідзесят кіляграмаў медзі й дзюралю, ці ня цяжка капаць. «Капаюць дурні, — адказваюць, — мы трактарам ці аўтакранам цягнем».

Відовішча ўражвае. Траншэі, як на лініі фронту. Вогнішчы, дзе паляць кабэль, пазбаўляючыся ад ізаляцыйнае абалонкі… Кіляграм алюміневага кабэлю — 800 рублёў у Сітне і 1600 у Полацку; сьвінец — па 1800, медзь — 3000… Самы дарагі кабэль — у пяць жылаў. За дзень здабываюць да 100 кг — выходзіць больш за месячны заробак на эстакадзе.

У 2002 годзе на чарнобыльскай усходняй Магілёўшчыне — у Краснапольлі, Касьцюковічах, Чавусах — я чуў, што адзіны спосаб выжыць — займацца мэталам. Няўжо ўся Беларусь за апошнія гады паціху ператвараецца ў адну вялізную зону?

Індустрыя СССР і імпэрскі мілітарызм, угрохаўшы ў «заходні пляцдарм» мільярды тон непатрэбнага мэталу, ператварылі Беларусь у суцэльную табліцу Мендзялеева. Капаць тут пачалі ўжо ў пачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя, і дагэтуль выкапалі толькі тое, што на паверхні. А мы купляем у Расеі, Украіны, Польшчы медзь, цынк, сьвінец, алюмінь, літаральна рассыпаныя ў нас вакол усіх прамысловых цэнтраў! Мэталёвую сетку, якой імпэрыя абматала краіну, у новай Беларусі трэба будзе дастаць з-пад зямлі, пераплавіць на арала. Эканамічная выгада ў дзясяткі разоў перавысіць затраты. Мы маем Дрэтуньскага палігону. усе шанцы паўтарыць посьпех Эстоніі, якая ў пачатку 1990-х на зайздрасьць эканамічным гігантам, ня маючы ўласных радовішчаў медзі, цынку, нікелю, зрабілася вядучым экспартэрам каляровых мэталаў у Эўропе. Проста эстонцы выкопвалі савецкае й перапрадавалі эсэнгоўскае…

А пакуль паспаліты люд, які пабіраецца на сьметніках ды закінутых даўгабудах, цудоўна ілюструе навінныя сюжэты БТ і АНТ пра такую стабільна моцную і квітнеючую РБ. Праўда, у адрозьненьне ад героя Стругацкіх, яны мараць не пра шчасьце для чалавецтва, а пра дадатак да сямейнага бюджэту ці пра апахмелу.

Можа, яшчэ 5 гадоў працаздольныя беларускія мужчыны будуць прамысьляць незаконнай здабычай і перапродажам лому? Рыцца ў адкідах саўка, аглядваючыся, каб не заўважыла начальства, каб не злавіў участковы? Прапіваць здабытае?..

А можа, пара ўжо з мэталам у голасе сказаць: хопіць!

Можа, пара адкопваць з завалаў хатняе старызны, архіваў ды сховаў дзяржаўныя сьцягі ўзору 1991—1995 гадоў, высякаць для іх у беларускім лесе тронкі; нарэшце, выцягваць з калекцыяў ды прышчэпліваць на грудзі медныя, латунныя, алюміневыя значкі з «Пагоняй» — і проста ісьці перамагаць?!

Малое Сітна

## Праймэрыз у Алёшчы

«Я, вядома, супраць Лукашэнкі, але ж большасьць усё роўна прагаласуе за яго». Калі гэтая фраза прагучала на перакуры ў Алёшчы мо раз дзясяты, я сказаў сабе: «Хопіць!» Назаўтра ў бытоўцы на агульным сходзе брыгады мы зладзілі праймэрыз.«Я, вядома, супраць Лукашэнкі, але ж большасьць усё роўна прагаласуе за яго». Калі гэтая фраза прагучала на перакуры ў Алёшчы мо раз дзясяты, я сказаў сабе: «Хопіць!» Назаўтра ў бытоўцы на агульным сходзе брыгады мы зладзілі праймэрыз.[1]

У «бюлетэні», нарэзаныя з паперы, былі ўнесеныя прозьвішчы ўсіх прэтэндэнтаў, якія падалі заявы ў Цэнтравыбаркам (тады іх было яшчэ васьмёра). З паведамленьня ЦВК, апублікаванага ў «Советской Белоруссии», былі зачытаныя афіцыйныя дадзеныя Вайтовіча, Гайдукевіча, Казуліна, Лукашэнкі, Мілінкевіча, Пазьняка, Скрабца й Фралова. «Кабінку» з асадкай абсталявалі за печкай. Ролю выбарчай скрыні выканаў чорны вязаны каптур: кожны з прысутных мог абмацаць яго і пераканацца ў адсутнасьці двайнога дна.

Яўка склала 84%: двое з дванаццаці на працу не зьявіліся (давялося пашкадаваць — маладзейшыя, сымпатызавалі апазыцыі). Астатнія разабралі бюлетэні.

Працэс волевыяўленьня ішоў нэрвова. Рабочыя падазрона паглядвалі адзін на аднаго, хаваліся ў «кабінцы», крэсьлілі й складвалі паперкі, кідалі іх у шапку й пільна сачылі за іншымі. Нарэшце, усе дзесяцёра ўгнязьдзіліся ля поўнага каптура, недаверліва пераглядваючыся. З хвіліну панавала ціша. «Ну, не тамі, ускрывай!» — нарэшце ня вытрымаў кранаўшчык Іван.

З кожным разгорнутым бюлетэнем выразы твараў мяняліся. «Мілінкевіч, Мілінкевіч, не запоўнены, Мілінкевіч, Мілінкевіч…» Прыёмшчыца Майя расплывалася ў шырокай-шырокай усьмешцы, раскрыжоўшчык Валера вырачаў вочы, стропальшчык Уладзя паціраў рукі й нават прыхлопваў з кожным выгукам, пагрузчык Сяргей сядзеў з раскрытым ротам, а Мікалай, пячнік, які нядаўна перабраўся сюды з Расеі, агаломшана аглядаў прысутных, яўна не разумеючы, што адбываецца.

Мілінкевіч набраў 7 галасоў, Лукашэнка — усяго 1, два бюлетэні пакінулі незапоўненымі. Маленькая электаральная рэвалюцыя ў адной асобна ўзятай брыгадзе зьдзейсьнілася.

---

[1] Праймэрыз — папярэднія выбары.

Вынікі алёшчынскіх праймэрыз мелі для вёскі эфэкт выбуху бомбы. Ужо назаўтра сіценцы, якія ранішняй вахтоўкай ехалі на дызэль, наперабой прызнаваліся, што яны «таксама за Мілінкевіча», і прасілі газэты зь ягонай біяграфіяй. «Вясковы тэлеграф» тэрмінова перадаваў Дрэтуні, Трудам, Уладзімераўцы: «У нас большасьць — супраць Лукашэнкі!» Выразаныя з «Нашай Нівы» ды «Камсамолкі» здымкі «Мілінкевіч у Алёшчы» пайшлі па руках з камэнтаром: «Бачыў, хто наступным прэзыдэнтам будзе?..» Паўгадзінны візыт адзінага кандыдата ў лістападзе мінулага году й магія большасьці, сфакусаваная ў выбары 10 рабочых, аказалася мацней за ўсе адміністрацыйныя рэсурсы, дзесяцігодзьдзе рэжыму і тэлевізійную прапаганду пра «90% Лукашэнкі».

Праз пару дзён на парозе пошты бабулька, якую я дагэтуль ня бачыў ані разу ў жыцьці, сустрэла мяне роспачным крыкам: «І што ён нам дасьць, ваш Мілінкевіч?!.»

Мясцовая ўлада мусіла тэрмінова прымаць меры. На тым жа тыдні мяне без тлумачэньня прычынаў замест чарговага адпачынку сьпехам накіравалі падалей ад Алёшчы на лесапавал. Участковы Андрэй Іваныч Героеў пачаў канфіскоўваць у насельніцтва каляндарыкі на 2006 г. з патрэтам Мілінкевіча (люд, у якога забіралі кроўнае, казаў, што цяпер ужо дакладна прагаласуе за апазыцыю), а старшыня сельсавету пайшла ад дзьвяры да дзьвяры, зьбіраючы подпісы за Лукашэнку.

Аднак зборшчыцу чакала жорсткае расчараваньне. У сіценскай краме, у сталоўцы, на алёшчынскай эстакадзе люд адмаўляўся падпісвацца нават пасьля просьбы: «Ну, гэта ж каб ён проста ў выбарах удзельнічаў!..» Некаторыя ўвогуле заяўлялі: «Мы толькі за Мілінкевіча». На вясковым участку з чатырма сотнямі зарэгістраваных выбаршчыкаў за «ўсенароднаабранага» падпісала хіба колькідзесят бабулек-пэнсіянэраў ды некалькі начальнікаў.

І скажу шчыра: пасьля абвяшчэньня вынікаў у алёшчынскай бытоўцы, у машыне, поўнай чытачоў «Нашай Нівы» і «Народнай Волі», прадчас расповеду тых, хто адмовіўся падпісвацца за Лукашэнку, я ўпершыню ясна бачыў у вачох гэтых згубленых сярод лесу вяскоўцаў тое, чаго так не стае многім гараджанам, актывістам і партыйным лідэрам. Веру ў перамогу 19 сакавіка.

в.Малое Сітна

## Беларуская ўлада

«Лукашэнка, Мілінкевіч… Усё адно ў Сітне нічога ня зьменіцца, а ўлада як нічога не рабіла, так і ня будзе рабіць». Калі шматтысячная грамада ў цэнтры Менску скандуе «Сва-бо-да!», вёска ля тэлевізара супакойваецца тым, што ад яе нічога не залежыць.«Лукашэнка, Мілінкевіч… Усё адно ў Сітне нічога ня зьменіцца, а ўлада як нічога не рабіла, так і ня будзе рабіць». Калі шматтысячная грамада ў цэнтры Менску скандуе «Сва-бо-да!», вёска ля тэлевізара супакойваецца тым, што ад яе нічога не залежыць.

Для большасьці беларусаў, як на вёсцы, так і ў горадзе, «улада» — гэта ўлада мясцовая: начальства для іх ня столькі Лукашэнка, колькі сельсавет, «раён» альбо кантора леспрамгасу.

Чым займаецца маласіценскі сельсавет? Адказвае на запыты вяскоўцаў, што грошай і магчымасьцяў няма. У асобе старшыні разводзіць рукамі, калі сіценцы абураюцца несправядлівасьцю на працы або адсутнасьцю ў вёсцы аб’ектаў сацкультуры. А яшчэ зьбірае подпісы за Лукашэнку.

Не дапамагае сельсавет — зьвяртайцеся ў раён. Што ж робіць райвыканкам? Перад выбарамі арганізоўвае самадзейны канцэрт «За Беларусь» і вывешвае на прахадной леспрамгасу распараджэньне: прызначыць адказнымі за населеныя пункты такіх і такіх супрацоўнікаў сельсавету.

Сапраўдная ўлада — начальнік леспрамгасу. Ён распараджаецца машынамі й трактарамі, выпісвае паліва й дровы… Але толькі тады, калі гэта тычыцца выкананьня пляну нарыхтовак. Для ўсіх іншых пытаньняў ёсьць сельсавет.

Іншыя віды ўлады (участковы, дэпутат, пракурор, «зялёныя»[2] ) — шчупалкі кантрольных ды карных органаў, што заселі дзе-небудзь у Полацку ці Віцебску. Іхняя (як правіла раптоўная) актыўнасьць ніяк не зьвязаная зь мясцовым жыцьцём, а прадвызначаецца прэзыдэнцкімі ці якімісьці там «абласнымі» спазмамі й заўсёды творыць унізе вусьціш ды фантастычныя чуткі.

Вось чаму тутэйшыя жыхары ўспрымаюць уладу ня проста як нешта іншароднае, чужое, а як варожае. «Наша ўлада», «свая ўлада», «мая ўлада» — гэтага ня кажуць нават пэнсіянэры пра Лукашэнку. Але ж галоўны сэнс мясцовай улады — каб яна была свойская. Сіценская. Полацкая. Серабранская. Беларуская!

Як жа мусіць выглядаць такая беларуская ўлада ў Малым Сітне?

---

[2] Дзяржаўная ахова лесу

У будынку вясковага клюбу, па-над якім ужо ўзьняты бел-чырвона-белы сьцяг, зьбіраецца ўся грамада. На штогадовым сходзе абіраюцца староста і некалькі ўпраўцаў — канцлер (сакратар), скарбнік, адказныя за сельскую гаспадарку, лес, рэлігійныя дачыненьні, адукацыю й культуру. Полацак ужо вылучыў у муніцыпальную ўласнасьць Малога Сітна колькісот гектараў ворыва, лесу, зямлі, прылеглай да вёскі, разбураныя будынкі «Вымяральніка», а таксама вызначыў долю Ўправы з падаткаў леспрамгасу. Управа вырашае, як наладзіць гаспадарку ды сацыяльную сфэру, як разьмеркаваць «сіценскія грошы». На Ўправу прыяджае полацкі войт, шумілінскі фэрмэр, наваполацкі бізнэсовец, гандляр зь Невелю, прадстаўнік швэдзкай дрэваапрацоўчай кампаніі, зацікаўленай у будаўніцтве невялікай мэблявай фабрыкі — і, натуральна, штодня заходзяць па сваіх патрэбах самі жыхары.

Управа наймае мясцовую варту, што выконвала б у навакольлі функцыі і ўчастковага, і егера, і «зялёных»: у Полацку ім афармляюцца пасьведчаньні, выдаецца зброя ды шэрыфскія значкі. Адна зь першых пастановаў Управы — запрашэньне ў Сітна праваслаўных, каталікоў, эвангелікаў з дабрачыннымі місіямі: пад міжканфэсійны сацыяльны цэнтар аддаецца закінуты будынак інтэрнату, якраз трохпавярховы.

У нацыянальнай уласнасьці застаюцца хіба чыгунка, велізарныя масівы лесу, заказьнікі, лініі электраперадачаў, пошта…

Цяпер людзі самі будуць вырашаць, як распараджацца сіценскай зямлёй, сіценскім лесам, сіценскімі грашыма. Людзі самі на сходзе акцыянэраў ці незалежнага прафсаюзу вызначаць мінімальныя тарыфы й заробкі ў леспрамгасе. Людзі самі аддадуць дзяцей на вучобу ў царкву ці касьцёл, калі не давяраюць школе, і самі праз год пераабяруць старасту, калі той ня даў рады.

Мясцовае самакіраваньне — фундамэнтальная аснова самое дэмакратыі. Гістарычна менавіта ў самакіраваных мястэчках і магдэбурскіх гарадох, рэгіянальных урадах і вольных унівэрсытэтах узьнікла, пашыралася й набыло ўсеагульны характар народаўладзьдзе як палітычны стандарт. Якраз на магутных падмурках мясцовага самакіраваньня (закладзеных у Беларусі ў часы ВКЛ і гвалтоўна выкараненых разам са Статутам у XIX ст.) збудаваныя грамадзтва, культура й палітыка Эўропы ды Амэрыкі. Мясцовае самакіраваньне фармуе й задзіночвае нацыю «зьнізу» настолькі ж пасьпяхова, наколькі патрыятычны ўрад, мова і нацыянальныя сымбалі яднаюць яе «згары».

Ключавы прынцып мясцовага самакіраваньня сфармуляваны і ўзьняты на сьцяг хрысьціянска-дэмакратычным рухам ХХ стагодзьдзя — правіла субсыдыярнасьці: рашэньні мусяць прымацца на тым узроўні, на якім яны найбольш эфэктыўна выконваюцца. Мясцовым уладам, сям'і, царкве, недзяржаўным арганізацыям ды прафэсійным асацыяцыям перадаецца львіная доля паўнамоцтваў, зь якімі ніколі ня здолее справіцца цэнтральны ўрад.

Таму зьмена прэзыдэнта й усёй вярхоўкі рэжыму — гэта толькі пачатак пераменаў. Сапраўдныя перамены нацыянальнага маштабу чакаюць нас у глыбіні, у гарадзкіх кварталах ды на вясковых вуліцах. Бязьвер'е, калгасная разруха, нацыянальная млявасьць і абыякавасьць па месцы жыхарства, месцы працы, месцы вучобы — галоўная спадчына злашчаснае эпохі Лукашэнкі.

...Вось чаму ў той момант, калі тысячы й тысячы беларусаў на сталічных плошчах патрабуюць свабоды, праўды й справядлівасьці — гарадзкія шматпавярхоўкі, местачковыя кірмашы й вясковыя хаты скаланае водгульле сапраўднай беларускай улады, якая рана ці позна, нягледзячы ні на што, па ўсёй Беларусі пераможа.

Малое Сітна

## Выбарчы кодэкс Малога Сітна

«…Галасуйце за Аляксандра… — твар 70-гадовай бабулькі расьцьвітае, — …Мілінкевіча!» Спалоханая старая жахаецца. Як?! Прэзыдэнт Аляксандар — не-Лукашэнка?..«…Галасуйце за Аляксандра… — твар 70-гадовай бабулькі расьцьвітае, — …Мілінкевіча!» Спалоханая старая жахаецца. Як?! Прэзыдэнт Аляксандар — не-Лукашэнка?..

«Ці дасьць Мілінкевіч разгарнуцца фэрмэрам?» — зморана, але з надзеяй пытае кабета гадоў 40, якой ля Сітна вылучылі 20 га пяску і цяпер абдзіраюць бы ліпку.

«Толькі за Лукашэнку!» — ледзь адчыніўшы дзьверы, заяўляе немаладая жанчына з палаючымі чорнымі вачыма. З-за яе сьпіны высоўваецца мужык: «Давай сюды, мы будзем за Мілінкевіча». «За Лукашэнку…» — не здаецца кабета. «Муж сказаў за Мілінкевіча, значыць — за Мілінкевіча!» — нават хлопаньне дзьвярэй не заглушае раптоўнай сямейнай сваркі.

«Дык што, цяпер усе галасуем за яго? — прастадушна пытае бабуля веку Кастрычніцкае рэвалюцыі. — А ці зьменіцца яно да лепшага?» «Зьменіцца, абавязкова зьменіцца!» «Ой, мы ўжо не дажывём» — сумняецца бабулька. «Дай вам Божа здароўя — дажывём!» «Дай Божа…» — зь нечаканай цеплынёй прыгортвае бабулька да грудзей «Мілінкевіча» і ўсьміхаецца амаль дзіцячай усьмешкай.

«За Мілінкевіча? Паша, бутэлька — і хоць за чорта лысага!» Не, мы ня ўдзельнічаем у спойваньні беларускага народу.

Кампанія «ад дзьвярэй да дзьвярэй» мэтадычна, хата за хатай, прасоўваецца па Малым Сітне. Сабакі шалеюць, брэшуць, рвуцца на ланцугах і ашчэрваюцца так шчыра, быццам іх нацкоўвалі адмыслова на нацыяналістаў.

«Колькі табе за гэта даюць?» — ківае на агітацыю магутны лясьнік, выразным жэстам паціраючы пальцы ў шчэпці. «Два гады «хіміі», — адказваю, — а нашым маладафронтаўцам зараз даюць яшчэ больш».

У чацьвер, 16 сакавіка, увечары ў інтэрнат зьяўляецца ўчастковы й тры міліцыянты з раёну (зусім ня простыя — кіраўнік полацкага крымінальнага вышуку, начальнік ДАІ і нейкі чын у цывільным, які камандуе парадам). «У Сітне ўчынена злачынства. Правяраем увесь кантынгент. Севярынец і Яхімовіч [мой сусед], едзем у сельсавет разьбірацца». Іншыя тры «хімікі» гасьцей чамусьці не цікавяць. Майго суседа пакідаюць у машыне, мяне заводзяць на прахадную леспрамгасу, дзе прысутнічае адно незнаёмы мне мужык

«пад градусам». Міліцыянты час ад часу водзяць мужыка за дзьверы, пэўна, на інструктаж, і ўрэшце той заходзіць ды заяўляе мне: «Прапала бэнзапіла. Прызнавайся, а то будзе горш!..» Ясна, правакацыя. «У аддзел!» — коратка распараджаецца незнаёмец у цывільным, і мяне цягнуць у машыну.

У Полацкім райаддзеле складаецца пратакол па «хуліганцы»: «Размахваў рукамі, нецэнзурна лаяўся, спрабаваў учыніць бойку». Адмаўляюся што-небудзь падпісваць. Вязуць у гарадзкі ізалятар. І міліцыянты-ахоўнікі, і люд, што сядзіць на «сутках», абмяркоўваюць «выбары», згаджаюцца, што налічаць, як мае быць, кажуць: сыстэму абавязкова трэба мяняць.

Назаўтра ў судзе мужык, які нібыта згубіў пілу, блытаецца ў паказаньнях: «Ён нешта казаў па-беларуску… Можа, лаяўся так… матам». «У беларускай мове мату няма», — адказваю. Судзьдзя (між іншым, з Вушаччыны) нечакана згаджаецца, і — першы выпадак за 10 гадоў! — мяне вызваляе. Але за дзьвярыма ўжо стаіць начальнік спэцкамэндатуры з брыгадай. Вязуць у Ветрына, дзе дзьве гадзіны чакаюць указаньняў «з вышыні». Нарэшце адбіраюць у мяне пасьведчаньне даверанай асобы Мілінкевіча, забараняюць назіраць на выбарах і пад канвоем двух супрацоўнікаў вязуць у Сітна. Селяць у пакой зь міліцыянтамі: цяпер любы выхад на вуліцу — толькі ўтрох. Даведваюся — пакуль я быў у Полацку, з пакою зьніклі ўсе грошы.

У леспрамгасе пярэпалах. Убачыўшы настрой галасаваць за Мілінкевіча, начальства распускае чуткі: маўляў, Севярынец падкупае людзей, частуе іх «максімкай» і цукеркамі. Люд абурана абвяргае «дэзу» перад міліцыянтамі.

А 8-й раніцы 19 сакавіка ў інтэрнат прыбывае «падмацаваньне»: абласны кіраўнік камітэту выкананьня пакараньня са сьвітай і начальнік камэндатуры. Шасьцёра чыноў вартуюць аднаго «хіміка»! Галасаваньне — пад канвоем. Кіраўнік камісіі адмаўляецца даць інфармацыю пра датэрміновае галасаваньне (хаця мне ўжо паведамілі — каля 40%).

Пасьля таго, як у Менску дзясяткі тысячаў людзей выходзяць на плошчу, «варта» атрымлівае тэлефонны загад: сядзець у Сітне і ў панядзелак, і ў аўторак, і ў сераду…

Заявам сіценскай камісіі пра тое, што за Мілінкевіча ў вёсцы прагаласавала ўсяго 22 чалавекі, людзі ня вераць: «А чаго тады Пашу назіраць не пусьцілі?!» «Менск бушуе!» — задаволена кажуць вяскоўцы і паказваюць, каб міліцыянты ня бачылі: трымайся!

Штовечар па тэлевізіі разам з «вартаўнікамі» бачым шматтысячныя аграмады пад бел-чырвона-белымі сьцягамі Хрыста. Рух Божае волі апаноўвае сэрца Беларусі!

Гэта не Майдан. Гэта беларуская Плошча. Плошча Перамогі.

в.Малое Сітна

## Сьвітаньне па тэлевізары

Сьвітанак, які мужная моладзь на Кастрычніцкай плошчы штодня сустракала сьпевам «Магутны Божа», зрабіўся сыгналам для ўсёй краіны. Званком будзільніка. Пара ўставаць! Ад самага пачатку дарог у Беларусі рушыла Нацыянальнае Абуджэньне.Дзіўная рэч: дзесяць дзён сядзіш бязвылазна ў інтэрнацкім пакоі пад вартай двух, а часам і трох міліцыянтаў (любы выхад на вуліцу — пад канвоем), вакол — занядбаная беларуская вёска, аточаная лесам, укрытая сьнягамі, і ў цэнтры гэтага адасобленага дрымучага сусьвету — маленькі чорна-белы тэлевізар, які ловіць БТ, АНТ і расейскае ОРТ і па якім вось ужо каторы дзень паказваюць маніфэстацыі пад бел-чырвона-белымі сьцягамі… Не пакідае ўражаньне: сярод холаду, цемры й прымусу ў гэтым цяпельцы нараджаецца нешта новае. Сьветлае-сьветлае. Цудоўнае.

Кожная раніца пачынаецца зь першым выпускам навінаў, яшчэ зацемна. Сьвітаньне прыходзіць разам зь бела-чорна-белымі азарэньнямі на экране. Камэнтар ня мае значэньня — кадры ясныя як дзень. Здаецца, краіна, што даўно заглыбілася ў змрок забыцьця, у цяжкі сон і нават пачала пахропваць, нечакана ачомалася.

Молісься за тых, хто на плошчы, на сутках, пад крымінальнымі, за выключаных з унівэрсытэтаў і выкліканых у ваенкаматы, за зьбітых у лякарнях, за тых, хто на волі й рыхтуецца выйсьці зноў — і раптам удыхаеш на поўныя грудзі: упершыню за апошнія гады пахне сапраўднай вясной.

Тое, што мне давялося назіраць па тэлевізары за некалькі дзён гарачага сакавіка-2006, нагадала бачанае роўна дзесяць гадоў таму ўжывую: менскую вясну-96. Маніфэстацыі вясны-2006 неспадзявана аказаліся куды больш шматлюднымі, больш арганізаванымі, больш рашучымі за Кастрычніцкую плошчу 2001-га й пратэсты пасьля рэфэрэндуму 2004-га. Насуперак дзясяткам крымінальных справаў, сотням арыштаў, тысячам затрыманьняў, вынішчэньню незалежнай прэсы й папраўкам у кодэксы, беларускія вуліцы 19-25 сакавіка грымотнымі воклічамі канстатавалі гістарычны факт: «Жыве Беларусь!»

Такое й шумавымі гранатамі не заглушыш — рэха даходзіць аж да Малога Сітна.

«Магутны Божа» як пачатак кожнага дня для намётавага мястэчка; малітва на шматтысячнай плошчы; тысячы вернікаў розных канфэсіяў поплеч з заўсёднікамі вулічных акцыяў. Адзіны кандыдат — беларускі патрыёт, які ў дзень галасаваньня моліцца і ў

праваслаўным храме, і ў касьцёле, які зьяўляецца на людзях з жонкай і якога прымаюць канцлер Нямеччыны, міністар замежных справаў Францыі, прэзыдэнты Польшчы й Літвы. Агучаная для мільёнаў праграма рэформаў, грунтаваная на прыватнай уласнасьці, інавацыях і мясцовым самакіраваньні. Пасьля ўсяго гэтага, упершыню за колькі часу, адчуваеш пад нагамі краіну!

І ў кампаніі, і пасьля яе муляла вока: рэжым высільваецца, каб абаперціся на гэты ж самы, добра зацьвярдзелы за 15 гадоў, падмурак незалежнасьці. Але бясконцыя закляцьці «За Беларусь!», пустаслоўе пра «государственный суверенитет в союзе с Россией» і «интернациональную белорусскую нацию» сьведчаць: пераадолець мяжу, якая аддзяляе самобытную Беларусь ад адроджанай Беларусі, Лукашэнка ня можа. І, згодна зь непазьбежнай лёгікай гісторыі, гэта зробіць ужо іншы. Не аддадзеная ані Крамлю, ані алігархам маёмасьць, пераключаныя тэлеканалы, апрацаваная па пэрымэтры ўсіх дзяржаўных межаў масавая сьвядомасьць — усё чакае, каб стаць апірышчам сапраўднае Беларусі. І галоўная задача беларускага руху пасьля вясны-2006 — дабрацца да кожнага зь дзесяці мільёнаў беларускіх сэрцаў, каб на грубых і шэрых камянях апошніх дванаццаці гадоў збудаваць нацыянальны дом, напоўніць яго нацыянальнай сьвядомасьцю і нарэшце ўзьняць па-над ім нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг.

Калі 24 гадзіны ў суткі сядзіш у чатырох сьценах зь міліцыянтамі (а яны жартуюць — «гэта ня вас пад варту ўзялі, а нам суткі далі»), бясконца спрачаесься, даводзіш, выкладаеш — пачынаеш разумець, што і тыя ж хлопцы ў форме — ужо не саўковыя жаўнерыкі імпэрыі. Так, яны абараняюць Лукашэнку, бо «трэба парадак», яны супраць Захаду, бо «Штаты хочуць усім кіраваць», а «з Эўропы сюды ідзе бардак, нарката й вычварэньні» — але раз-пораз спрабуюць размаўляць з табою па-беларуску, не супярэчаць, што Пётар І і Сувораў у гісторыі Беларусі — героі адмоўныя, з задавальненьнем слухаюць «Песьні Свабоды» ды згаджаюцца, што трэба адраджаць традыцыі полацкага праваслаўя, а не капіяваць заснаваную на 300 гадоў пазьней Маскву.

У сакавіку 2006-га Беларусь усё-такі адштурхнулася ад дна. Калі пасьля 2001 г. становішча няўхільна пагаршалася, рэпрэсіі былі ўсё больш балючымі, а дэпрэсіі ўсё больш глыбокімі — пачынаючы зь вясны 2006-га сьцятая спружына нацыянальнага руху пачала імкліва выпроствацца. І відавочным доказам гэтаму стала проста д’ябальская гістэрыя рэжыму, бачная кожнаму, у чыёй хаце ідуць БТ і АНТ. Ашалелае галёканьне, сьвіст, ванітоўная хлусьня й рагаты рогат

тэлевядучых, «сілавікоў» ды задураных абываталяў, прыпадкі палітычнае эпілепсіі з кожным кадрам, дзе палымнее бел-чырвона-белае, раптоўна агалілі панічны страх апошняе дыктатуры Эўропы перад крыжам на плошчы, перад сьцягам Хрыста, перад нечаканым нацыянальным абуджэньнем. Кругласуткавая вахта нават некалькіх соцень чалавек зь бел-чырвона-белымі сьцягамі ў самым цэнтры сталіцы выклікала эфэкт асінавага кала, з размаху загнанага ў сэрца нячыстага.

Магчыма, сакавіку-2006 не хапіла духу, руху, зуху, каб перамяніць Беларусь адным рыўком. Але пераможны прарыў — празь ператрусы й арышты, праз крывыя люстэркі тэлеэкранаў, праз здушаныя страхам душы — ужо зроблены. Дзясяткі сіценцаў, што галасавалі за Мілінкевіча, заўважалі вусьціш мясцовага начальства й жах сталічнага афіцыёзу, назіралі за камічным міліцэйскім канваяваньнем да прыбіральні небясьпечнага «хіміка» й бачылі бел-чырвона-белыя ўспышкі на паўсьвету, ужо прачулі сваю еднасьць зь дзясяткамі тысячаў менчукоў. Адчулі сябе нацыяй!

Сьвітанак, які мужная моладзь на Кастрычніцкай плошчы штодня сустракала сьпевам «Магутны Божа», зрабіўся сыгналам для ўсёй краіны. Званком будзільніка. Пара ўставаць! Ад самага пачатку дарог у Беларусі рушыла Нацыянальнае Абуджэньне.

в.Малое Сітна

## Стасік, які бачыў Шушкевіча

Наведнікаў Малога Сітна на аўтобусным прыпынку сустракае маляваны вырай. Аазіс у пустэльні, лебядзіная пара ў возеры, адзіная на ўсё навакольле царква пад блакітным небам упрыгожвае белыя цагляныя сьценкі з надпісам «М. Сітна». Ёсьць тут нават самотны воўк — герб партызанскай Ічкерыі, якая, дарэчы, складае менш як палову тэрыторыі Віцебшчыны. Глядзіш на просьценькія, але мілыя карцінкі — і згаджаесься: магло Сітна заняць 2-е месца на конкурсе вясковых аўтобусных прыпынкаў.Наведнікаў Малога Сітна на аўтобусным прыпынку сустракае маляваны вырай. Аазіс у пустэльні, лебядзіная пара ў возеры, адзіная на ўсё навакольле царква пад блакітным небам упрыгожвае белыя цагляныя сьценкі з надпісам «М. Сітна». Ёсьць тут нават самотны воўк — герб партызанскай Ічкерыі, якая, дарэчы, складае менш як палову тэрыторыі Віцебшчыны. Глядзіш на просьценькія, але мілыя карцінкі — і згаджаесься: магло Сітна заняць 2-е месца на конкурсе вясковых аўтобусных прыпынкаў.

Мастака-самавучку вёска кліча Стасікам. А так ён Станіслаў Генадзевіч Круглоў. Яму даўно за 30. Але невялічкаму ўсьмешліваму мастаку зь дзіцячым тварам і голасам школьніка імя «Стасік» пасуе надзвычай. Мне, выпускніку віцебскай мастацкай школы, з самага пачатку карцела пазнаёміцца з калегам. І аказалася, што Стасік працуе ў суседняй брыгадзе сукарубам.

Стасікава брыгада — перадавая. Ці, як напісалі б у «Полацкім весьніку», правафлянговая.

Выконвае норму штомесяц. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы Стасіку: і сячэ, бы завадны, і кожны сук у волак укладзе, і дроваў для буржуйкі ў вахтоўцы заўжды наколе. Ціхі. Сьціплы... Вядома, калі цьвярозы.

Да мяне ў госьці Стасік завітаў няціхі й нясьціплы, але шчыры.

- Цёмны народ у нас, Паша! — прысеўшы на зэдлік і роспачна зьвесіўшы голаў, біў сябе па калене. — Нічога ў жыцьці яны ня бачылі і нічога ня хочуць. А мне гэта баліць! Маю карціну зь лесавозам на прахадной бачыў?.. Па памяці маляваў. Я ж нідзе не вучыўся. Паша, яны мяне не разумеюць, ня вераць мне, ня вераць. А я... я Шушкевіча бачыў!

У пачатку 1990-х Стасік служыў у Менску, ва Ўруччы. Аднойчы да іх прыехаў старшыня Вярхоўнага Савету. Аўрал быў такі, што для салдатаў гэты прыезд застаўся галоўнай падзеяй на ўсе два гады. Ноч гатавалі дранікі на тысячу асобаў. Парцалянавы посуд. Урачыстае шыхтаваньне...

Для цёзкі Станіслава Станіслававіча тая сустрэча дагэтуль застаецца галоўным прадметам гонару перад вяскоўцамі. Што там вяскоўцы! Першы кіраўнік незалежнае Беларусі й разбуральнік сусьветнай імпэрыі зла — асоба, пра якую і ў Токіё, і ў Кембрыджы, і ў Антананарыву можаш сказаць з пачуцьцём уласнае годнасьці: «Я Шушкевіча бачыў!»

Шушкевічаў зорны час, пачатак 1990-х... Старэйшыя ўздыхнуць: якая была адліга! Якія далягляды перад Беларусьсю! Які вольны дух! Стасіку пашчасьціла, хай сабе з-за вайсковага плоту, дыхаць тым духам у самым эпіцэнтры. Згадваю сябе ў 1992-м. Не, убачыць Шушкевіча я ня марыў, хоць і лічыў яго найлепшым беларускім палітыкам. Тады мяне, звычайнага правінцыйнага школьніка, займала галоўная мара любога савецкага выдатніка — залаты мэдаль, каменьчыкі ў віцебскіх кар’ерах, калекцыянаваньне якіх завяршылася паступленьнем на геалёгію БДУ, і пытаньне: што за дзівакі напісалі крэйдай на іржавым гаражы ў нашым двары «Не Саюз, а вольная Беларусь!»?

Поўную залю такіх дзівакоў я ўбачыў у пачатку 1994 г. у Віцебскім тэатры імя Я.Коласа — бацька, рэпарцёр, узяў мяне з сабою на сустрэчу з кандыдатам у прэзыдэнты Зянонам Пазьняком. Пагадзіўшыся тры гадзіны запар слухаць радикального националиста, я й не падазраваў, што напрыканцы выступу буду стоячы пляскаць у ладкі, а выйду з залі зь цьвёрдым перакананьнем, што мой прэзыдэнт — Зянон Пазьняк.

Бацька і зараз, перасылаючы мне газэты або размаўляючы па тэлефоне, асобна згадвае, як лічыць Пазьняк. А вось Стасікаў бацька не дажыў. Павесіўся. Сын сьвятара зь Дзісны захлынуўся ад безнадзёгі.

- О, вы б з бацькам паразумеліся! — кажа Стасік. — Бацька быў шчыры беларус, паўсюль толькі па-беларуску... І нас вучыў, а мы гэтага не разумелі. Камуністаў ненавідзеў. І заўжды паўтараў: «Вось паглядзіце — хутка калыхнецца!..»

Цяпер сяджу пад міліцэйскай вартай, гляджу, як калыхаецца ў цэнтры Менску людзкое мора пад бел-чырвона-белымі сьцягамі, і шкадую: як жа так, дзядзька... Не дачакаўся, каб пабачыць поўную народу Плошчу Каліноўскага, намётавы гарадок і Дзень Волі — 2006...

Такія, як калісьці Стасік, салдаты тэрміновай службы распавядуць потым у сваіх вёсках, як сядзелі ў вайсковых машынах, трымцелі, чакаючы загаду, і чулі грымоты «Жыве Беларусь!» на паўгораду.

…Вы спытаеце, якая ж высокая мараль можа высноўвацца з такое прыземленае, нават падножнае тэмы?

Ашчаджаць дар тварэньня, даручаны нам разам зь зямлёю, і бачыць Боскі цуд у звыклым, чаго не заўважаем, чым грэбуем, – адна з самых яскравых прыкметаў нацыянальнага абуджэньня.

в.Малое Сітна

## Малое Сітна ад Рагвалода да Мілінкевіча

Верасень. Са школьных гадоў падхлынае падсьвядома настрой: «вучыцца, вучыцца й яшчэ раз вучыцца».

Новы навучальны год арганізавалі мне і ў спэцкамэндатуры – ва ўмоўна-датэрміновым вызваленьні адмоўлена («ня стаў на шлях раскаяньня і супрацоўніцтва з адміністрацыяй»). Значыць, Богу ўгодна, каб Сітна навучыла мяне яшчэ нечаму.Верасень. Са школьных гадоў падхлынае падсьвядома настрой: «вучыцца, вучыцца й яшчэ раз вучыцца».

Новы навучальны год арганізавалі мне і ў спэцкамэндатуры – ва ўмоўна-датэрміновым вызваленьні адмоўлена («ня стаў на шлях раскаяньня і супрацоўніцтва з адміністрацыяй»). Значыць, Богу ўгодна, каб Сітна навучыла мяне яшчэ нечаму.

З новага навучальнага году «Гісторыю Беларусі» пачынаюць пераводзіць на расейскую. У Сітне гэтыя падручнікі пакуль што па-беларуску, хаця й платна – кошты за год карыстаньня расьпісаныя для кожнае клясы й расклееныя ў абвестках па леспрамгасе. Зрэшты, калі добра пакапацца, любая беларуская вёсачка – самы жывы й бясплатны падручнік па гісторыі Беларусі.

Вось, прыкладам, тое ж Малое Сітна з навакольлем….

Разьмешчаная ля вытоку Палаты з возера Ізмок, у нейкай паўсотні кілямэтраў ад Полацку, вёска так і просіцца ў сьпіс старажытных паселішчаў палачанаў. Тысячагодзьдзе таму, калі галоўнымі шляхамі ў гэтым лясным ды балоцістым краі былі рэчкі – ці мог Рагвалод абмінуць гэткі выгодны стратэгічны пункт сваіх уладаньняў? За 10 км ад Сітна на лясных ручаях знойдзеныя дзіўныя вялікія колы, запоўненыя смалой. Вельмі падобна на прыкметы старажытнага волаку, калі ўлічыць, што Палата геаграфічна ўлучаецца ў адну з вэрсіяў шляху з «варагаў у грэкі»…

А калі дадаць, што праз Малое Сітна праходзіць яшчэ й стары гасьцінец з Полацку на Невель, і далей да Пскова ды Ноўгарада Вялікага – дык ці ня тут у 980-м ішоў на Полацак Уладзімер?.. І ці ня гэтай лясной дарогаю ўжо ў 1066-м Усяслаў Чарадзей вырушыў здымаць званы з Сафіі Наўгародзкай?..

Дзесьці ў гэтых мясьцінах – ваколіцах Полацку – паводле паданьня, на мяжы I і II тысячагодзьдзяў прапаведаваў і быў пахаваны славуты Торвальд Вандроўнік, адзін зь першых хрысьціянскіх місіянэраў у Беларусі. Гісторык Алесь Белы выслаў мне вытрымку зь «Беларускай энцыкляпэдыі», дзе як на адно зь верагодных месцаў

магілы Торвальда (высокая гара ў Дрофне) указваецца на Дрэтунь (8 км нацянькі ад Сітна).

Вось вам, калі ласка, і разгорнутая ілюстрацыя да тэмы пашырэньня хрысьціянства, заснаваньня беларускай дзяржаўнасьці й змаганьня за незалежнасьць – у адным асобна ўзятым сельсавеце.

У 1563-м, на пачатку Інфлянцкай вайны, стратэгічнае становішча Сітна ацаніў Іван Жахлівы – і пабудаваў на насыпаным узгор'і ля вытокаў Палаты, якраз насупраць вёскі, драўляную фартэцу. У 1566 вялікалітоўскі ваявада Біруля фартэцу спаліў. Маскавіты ізноў адбудавалі ўмацаваньне – але пасьля вяртаньня Полацку ў 1579 Сьцяпан Батура штурмам узяў Сітна і зьнішчыў стралецкую залогу.

Знаходка Андрэя Катлярчука, гісторыка з унівэрсытэту Стакгольму, які даведаўся пра кальвінісцкага шляхціца, высланага на пажыцьцёвую службу ў «Замак Сітна на мяжы з Расеяй» у сярэдзіне XVIII ст. пераконвае, што зруйнаваная Батурам фартэца была адноўленая як памежны замак (найверагодней, пасьля Андрусаўскага міру 1667 г.) і функцыянавала, падобна, да самага 1-га падзелу Рэчы Паспалітай 1772 г.

Сіценскія карані ўгадваюцца і ў прозьвішчы Сімяона Полацкага – « Пятроўскі-Сітняновіч». І хаця Сітняновічам звалі айчыма Сімяона, а сапраўдны ягоны бацька меў прозьвішча Пятроўскі, але ля той жа Дрэтуні, па дарозе з Полацку да Сітна, знаходзім і вёсачку Пятроўшчына.

У 1812-м па дарозе Полацак–Невель на Пецярбург наступаў корпус напалеонаўскага маршала Сэн-Сіра. Не даяжджаючы Дрэтуні, падарожнік з Полацку заўважыць указальнік: «Конны Бор. 2 км». Тады, два стагодзьдзі таму, у гэтым месцы стаяла кавалерыя Сэн-Сіра. Корпус, спынены расейцамі ў бітве пад Клясьціцамі (каля 7 км ад Сітна, на мяжы з Расеяй) заняў пазыцыі й зрабіў фартыфікацыйныя ўмацаваньні якраз у раёне Алешчы – Сітна. Расказваюць, што яшчэ ў 70-я гады мінулага стагодзьдзя сюды, на хутар Асоўцы, што ў 3 км ад Сітна, прыяжджала піцерская экспэдыцыя з мэталашукальнікамі, спрабуючы знайсьці шматпакутныя «напалеонаўскія скарбы».

Сітна тройчы згадваецца ў «Шляхціцу Завальні» Яна Баршчэўскага…

Перакананы: ніякая Лінія Сталіна ня вытрымае прамое канкурэнцыі з маласіценскім турысцкім маршрутам. Тым больш, што ў 1944-м, падчас савецкай апэрацыі «Багратыён» на паўднёвай ускраіне Сітна (хутар Мураўішча) знаходзіўся штаб І Прыбалтыйскага фронту. Вяскоўцы, паказваючы былы будынак штабу, зьездліва камэнтуюць: «Бач, генэрал Баграмян спрытны быў – хату заняў самую

маленькую, але ж каля лесу. Чуць нямецкі налёт, скокнуў з парога – і адразу ў хмызьняк».

Лукашэнка за ўсе 12 гадоў у сіценскім сельсавеце так і не падбываў – таму й ягонага сьледу ў нашым падручніку гісторыі не застанецца. Затое і Алешчу, і Малое Сітна ў 2005-2006 гг наведваў Аляксандар Мілінкевіч...

У Новай Беларусі – Беларусі Адраджэньня, эўрапейскай адукацыі й моцнага мясцовага самакіраваньня – кожная вёсачка й кожны горад будуць на правох школьнага прадмету вывучаць побач з нацыянальнай гісторыяй і сваю ўласную гісторыю на сваёй роднай мове.

Бо ці ж не з усьведамленьня, хто мы, адкуль мы й куды мы ідзем, пачынаецца нацыянальнае абуджэньне?

в.Малое Сітна

## Трэскі лятуць

Выкліканы да начальніка лесапункту пасьля алёшчынскіх праймэрыз, ужо на парозе я пачуў кароткі вырак: «У лес!» У Малым Сітне адпраўкай на лесапавал ганаруюць тых, хто праштрафіўся, надэбашырыў ці раззлаваў начальства.Выкліканы да начальніка лесапункту пасьля алёшчынскіх праймэрыз, ужо на парозе я пачуў кароткі вырак: «У лес!» У Малым Сітне адпраўкай на лесапавал ганаруюць тых, хто праштрафіўся, надэбашырыў ці раззлаваў начальства. «У лес» — праца аўтаматычна падаўжаецца на гадзіну-паўтары, бо да дзялянкі колькідзесят кілямэтраў. «У лес» — значыць, заробак ніжэйшы, а ўмовы цяжэйшыя. «У лес» — значыць, зусім бяз сувязі (у Алёшчу бацькі яшчэ маглі датэлефанавацца, а тут навокал гушчары, дый да мяне на працу наўрад хто дабярэцца).

Лесапавал — скрозь у радыюсе 60 км ад Сітна. За месяц-другі тут узьнікае чарговая плеш, усеяная вываратамі ды раструшчаным суччам. Лес высякаюць па-барбарску, зьбіраючы толькі спраўную драўніну, прыдатную на экспарт сырым кругляком. Вялізная маса танкамеру, які ў Эўропе выкарыстоўваюць да апошняга сучка, застаецца гніць у лесе або спальваецца.

Лес валяць па 4—5 чалавек. Пільшчык з бэнзапілой падпільвае дрэвы, вальшчык з 4-мэтровай вілкай піхае, каб падалі, куды трэба, сукаруб зь сякерай парадкуе суčча, а трактарыст чапляе й тралюе пачку ў 10—12 ствалоў у гарадок (расчышчаная ў лесе пляцоўка), дзе сківічнік (машына зь вялізнымі клешнямі) грузіць іх на лесавозы.

Працуюць у касках. Галоўная небясьпека — сукі, што завісаюць на дрэвах: парыў ветру можа шпурнуць такую піку з вышыні 20 м і забіць напавал. Часам няўдала кладзецца дрэва (асабліва калі валяць у канадзкі спосаб, з эфэктам даміно) — тады не ўратуе і каска. Трэба пільнавацца і ля тралёвачнага трактара: іншы раз папярочны хлыст у 10—15 м, падцягваны ў пачку за трос лябёдкай, упрэцца ў пень і з трэскам, як гіганцкі бізун, выпісвае ў паветры самыя нечаканыя траекторыі.

У працы сукаруба няма нічога складанага. Цярэбіш направа ды налева суčча даўгой сякераю, стараесься цераз ствол, каб ня трапіць выпадкам сабе па назе, беражэш вочы ад пырскаў трэсак, абсякаеш верхавіны. Калі трактар валачэ апрацаваныя хлысты прэч, таўсьцейшыя сукі ды верхавіны ўкладваеш упоперак каляінаў (утвараецца волак — своеасаблівая гаць, каб на балацявінах, дзе застаўся прамысловы лес, трактар не праваліўся), а драбнейшыя зносіш у вогнішчы ды паліш.

На абедзенным перапынку лесарубы ідуць у будку — вагончык на колах, дзе топіцца буржуйка. Нават дзьве брыгады разам у будцы не зьмяшчаюцца — таму абедаюць пазьменна. Першая й другая стравы ў алюміневых бітонах зь леспрамгасаўскай сталоўкі ранкам загружаюць у вахтоўку — разаграецца на буржуйцы; хлеб з салам, гарбату й да гарбаты трэба браць самім. У Сітна вахтоўка вяртаецца паміж пятай і шостай вечара. Час пасьля вячэры — 3,5—4 гадзіны да адбою — гэта ўсё, што застаецца на адпісваньне лістоў, працу над кнігай, чытаньне, тэленавіны, палітыку, Біблію. Раз-пораз адчуваю сябе маленькай трэскай, што далекавата адляцела з-пад сякеры найлепшага сябра ўсіх беларускіх лесарубаў. Што ж, за Сталіна тое, чым мы займаемся, калісьці каштавала людзям 25 гадоў бяз права перапіскі, ды на Калыме, а то й расстрэлу ў Курапатах. А цяпер… Бог дасьць — прарвёмся.

Але каб лесапавалы Беларусі за бліжэйшыя 5 гадоў не ператварыліся ў ГУЛАГ або каб перад наступнай прэзыдэнцкай кампаніяй дысыдэнтаў не павысылалі ў далёкія ўладаньні нашчадка беларускіх магнатаў Абрамовіча пісаць чарговы таежны раман Беларусі з Расеяй — 19 сакавіка мы мусім абавязкова перамагаць.

Малое Сітна

## Калёнія звычайнага рэжыму

Бо Беларусь атрымала незалежнасьць ня дзеля таго, каб быць калёніяй-пасяленьнем на 10 мільёнаў асуджаных да абмежаваньня волі.Афіцыйна Малое Сітна – калёнія-пасяленьне пры Ветрынскай спэцкамэндатуры №15. Межамі калёніі лічацца межы вёскі, і пакідаць іх без распараджэньня начальніка камэндатуры забаронена: парушэньне рэжыму. Такім чынам, купацца ў бліжэйшым возеры, лавіць рыбу або зьбіраць у лесе грыбы ды ягады «хімікі» могуць толькі пад пагрозай арт.415 Крымінальнага кодэксу: замена «абмежаваньня волі» на пазбаўленьне волі («зону» або калёнію агульнага рэжыму).

«Хімічных» спэцкамэндатураў у Беларусі больш як паўсотні. У кожнай зь іх па некалькі працоўных філіяў. Гэтак, кантынгент Ветрына, апроч Сітна, могуць адпраўляць у калгас у вёсцы Нача, на склады ў Вітаржы або на абслугоўваньне «зоны» ў Наваполацку. Калі прыглядзецца, уся Беларусь аблытаная сеткай «калёніяў-пасяленьняў» – і сама пацiху ператвараецца ў адну вялікую калёнію.

«Хімікі» трапляюць сюды за тое, да чаго ў нас дапускаецца бальшыня насельніцтва. Бытавыя п’янкі з распусканьнем рук, нявыплата алімэнтаў, пашкоджаньне маёмасьці ці неасьцярожнае прычыненьне шкоды чалавеку. Калі строга (як у Эўропе ці ЗША) датрымлівацца закону, у калёніях-пасяленьнях мусяць пастаянна знаходзіцца некалькі мільёнаў беларусаў. Гэткі мэханізм працуе на ўладу. Нязгодныя з палітыкай дзяржавы баяцца пераступіць пэўныя межы (адкрыта выказацца, паставіць подпіс, узяць удзел у маніфэстацыі), бо асабіста ім гэта пагражае «ўзмацненьнем рэжыму». Калёнія рабскага, генэтычнага саўковага страху, гэткі невялікі свойскі архіпэляг ГУЛАГ, займае ладную частку душы сярэдняга беларуса. Увогуле, каляніяльная сьвядомасьць – спадчына дзьвюхсотгадовага панаваньня тут расейскага імпэрыялізму. Вяскоўцы ў Сітне, дый гараджане ў Віцебску ці Менску дагэтуль жывуць як не на сваёй зямлі, і задавальняюцца зьбіральніцтвам, дробным крадзяжом ды спажывецтвам – быццам чорныя тубыльцы, вывезеныя кудысьці на пасяленьне. У стане пастаяннага страху пакараньня прасьвядомасьць лёгка выцясьняецца масавай крымінальнай сьвядомасьцю. І мы прызвычайваемся. Звычайны страх. Звычайны прэзыдэнт. Звычайны рэжым.

Між тым, калёнія пашыраецца. Паводле колькасьці вязьняў на душу насельніцтва Беларусь у сьвеце саступае ўжо толькі Расеі ды Амэрыцы. А дзяржава вынаходзіць усё новыя віды крымінальна караных дзеяньняў.

Міхаіл Марыніч адседзеў у турме за тое, што прыняў у падарунак ад пасольства ЗША некалькі кампутараў.

Сяргей Скрабец сядзіць дагэтуль, бо калісьці быў вылучыўся ў прэзыдэнты.

Андрэй Клімаў – на «хіміі» за тое, што заклікаў людзей адсьвяткаваць Дзень Волі й выйшаў на плошчу з мэгафонам.

Мікалай Статкевіч – там жа: не паверыў афіцыйным вынікам рэфэрэндуму.

Аляксандар Казулін адбывае 5,5 году калёніі, бо нагаварыў па тэлевізіі замнога праўды й разьбіў шкло на партрэце Лукашэнкі.

Артур Фінькевіч – у спэцкамэндатуры за надпіс «Мы хочам новага!».

Вячаслаў Сіўчык – пад «крыміналкай», бо пад ягоным кіраўніцтвам у намётавым гарадку на плошчы Каліноўскага не аказалася ані выбухоўкі, ані гарэлкі, ані наркотыкаў, ані нават дохлых пацукоў.

Мікалай Аўтуховіч – у ізалятары: сумленна займаўся бізнэсам.

Мікалай Астрэйка, Цімох Дранчук, Эніра Браніцкая й Аляксандар Шалайка зьняволеныя за ўдзел у «незарэгістраванай арганізацыі», зарэгістраваць якую ў законным парадку не дазволіла сама дзяржава.

Цяпер суду за тое ж самае чакаюць маладафронтаўцы – а БТ на ўсялякі выпадак распавядае пэнсіянэрам, што насамрэч у летніках з дапамогаю «аўганцаў» «МФ» рыхтуе баевікоў.

Працэсы паказальныя. Больш за тое, паказальна абсурдныя. Маўляў, было б за што саджаць – увогуле б забілі.

І люд баіцца.

Што ж можна супрацьпаставіць страху?

Толькі веру. Вера зьнішчае страх.

Тыя, каму Бог прадугледзеў прайсьці праз зьняволеньне, павінныя памятаць словы Бібліі: «Зь вялікай радасьцю прымайце, браты мае, калі ўпадаеце ў розныя выпрабаваньні, ведаючы, што выпрабаваньне вашай веры робіцца цярплівасьцю, а цярплівасьць павінна мець дасканалае дзеяньне, каб вы былі дасканалыя ва ўсёй паўнаце, безь ніякай пахібы» (Якуба 1:2–4).

Адбыцьцё сутак у спэцпрымальніках, месяцаў у ізалятарах, гадоў на «хіміі» ці ў турме кшталтуе ды гартуе змагароў. Дае час на роздум, грунтоўную адукацыю, духовае ўдасканальваньне. Паверце, дарагія Аляксандар і Артур, Цімох і Мікалай, Сяргей і Андрэй – Госпад Бог лепш за ўсіх ведае, дзе нам у гэты момант трэба быць. І ў вырашальную хвіліну, калі Беларусі спатрэбяцца найвялікшая

цьвёрдасьць, бязьмежнае трываньне, рэдкая адвага – гэты гарт дасьць плён, і мы зробімся кропкамі апірышча для рычага, што пераверне краіну.

«Шчасьлівыя тыя, каго гоняць за праўду, бо іх ёсьць Валадарства Нябеснае!» (Мацьвея 5:10).

Што ж да спробаў запалохаць судзілішчамі ўвесь народ… Беларусам няма чаго баяцца. Насамрэч, калёнія звычайнага рэжыму – у галовах. Як і ў выпадку зь Сітнам, мяжа забароны ўмоўная. Зямля беларуская. Людзі нашыя. Параза рэжыму непазьбежная. Калі зразумець гэта, страх проста зьнікае.

Бо Беларусь атрымала незалежнасьць ня дзеля таго, каб быць калёніяй-пасяленьнем на 10 мільёнаў асуджаных да абмежаваньня волі. Божая воля для сучаснае Беларусі – гэта нацыянальнае абуджэньне.

в.Малое Сітна

## Беларускі народ і цар гары

«Нічога ня выйдзе – народ у нас такі». Яшчэ год таму мне здавалася, што гэта была каронная фраза тыповага беларускага апазыцыянэра, якая толькі падкрэсьлівае адасобленасьць партыйцаў ад памянёнага вышэй народу. Але ў Сітне мне давялося пачуць дакладна гэткае ж спавяданьне ўжо ад стольскіх простых людзей – работнікаў, пэнсіянэраў, настаўнікаў, майстроў – што зь іх акурат было б скласьці гэты самы праславуты народ.«Нічога ня выйдзе – народ у нас такі». Яшчэ год таму мне здавалася, што гэта была каронная фраза тыповага беларускага апазыцыянэра, якая толькі падкрэсьлівае адасобленасьць партыйцаў ад памянёнага вышэй народу. Але ў Сітне мне давялося пачуць дакладна гэткае ж спавяданьне ўжо ад стольскіх простых людзей – работнікаў, пэнсіянэраў, настаўнікаў, майстроў – што зь іх акурат было б скласьці гэты самы праславуты народ.

Ёсьць у сучаснага беларуса дзіўная схільнасьць – сьпісваць усё, што мог бы зрабіць сам, на народ. Брудна каля хаты – «народ такі». Ніхто не пярэчыць начальству на сходзе (усе лаюць, панізіўшы голас, на перакуры) – «ну, ты ж у курсе, які ў нас народ…». Не размаўляюць па-беларуску: «Да им ничего, кроме колбасы, не надо… Во народ!» Што ж за народ такі? Вядома, землякі.

Асабістая адказнасьць цалкам распушчаецца і патанае ў калектыўнай. Здавалася б, менавіта калектывізм можа стаць найпершай крыніцай такога дэфіцытнага ў нас патрыятызму – але Беларусь даводзіць: наадварот. Дэспатызм заўжды культываваў безаблічную біямасу дзеля патрэбаў імпэрыі. Адсюль – страта ўсьведамленьня сваёй унікальнасьці і як асобы, і як прадстаўніка народу.

Вось Алесь – лепшы вальшчык лесу ў сіценскім сельсавеце, рыбак і паляўнічы, гуляка з сэрцам Тыля Ўленшпігеля. Вось Валянціна – улюбёная настаўніца сіценскіх дзяцей, знаўца клясычнае літаратуры й замежных моваў. Алег – малады работнік, жывая энцыкляпэдыя з фэнамэнальнай памяцьцю, што шчоўкае крыжаванкі, быццам гарэшкі. Уладзімер – пэнсіянэр, які ўсё жыцьцё праводзіць на сотках, урабляючы бульбу; заўсёды павітаецца, пачастуе яблыкам, распавядзе пра надвор’е.

Для рэжыму – насельніцтва, для апазыцыі – электарат. Так, усе яны галасавалі за Лукашэнку ў 1994-м, 2001-м ды 2004-м… да тае пары, пакуль зь імі не пагаварылі па шчырасьці, не далі пачытаць

«Нашай Нівы», не падказалі, якія правы яны маюць. І людзі адчулі сябе людзьмі. Больш за тое – беларусамі.

Усю сваю 100-гадовую гісторыю Беларусь паміж калектывісцкім Усходам і індывідуалістычным Захадам фармулявала залатую, сутнасна хрысьціянскую й дэмакратычную раўнавагу пэрсаналізму. Пэрсаналізм надае першачарговую ўвагу ня «масе» й не безасабоваму «індывіду», але ўнікальнай асобе й тым супольнасьцям, дзе асоба раскрываецца найпаўней. Сям'і. Царкве. Сябрам. Свойскаму колу супрацоўнікаў. Пэрсаналізм – вяршыня асабістае адказнасьці. Народ у такім разуменьні – мэгаструктура дзеля суцэльнай самарэалізацыі людзей.

«Людзьмі звацца!» – гэта нацыянальны заклік да яднаньня асобаў. «Нелюдзь!» – самы страшны беларускі праклён.

У сёньняшнім Сітне навідавоку бачыш, як людзі губляюць сваю асабістую ўнікальнасьць – за 2–3 гады рэгулярнага ўжываньня «максімкі» крывіцкія аблічча ператвараюцца ў шэраг невыразных, аднолькава сьпітых твараў. Мяшкі пад вачыма. Чырвона-шызы нос. Бессэнсоўны позірк.

Дзяржаве што – яна спансаруе. Адказнасьць за захаваньне беларускай унікальнасьці – на нас з вамі. Раскрыць значэньне кожнай асобы для сваёй краіны, растлумачыць кожнаму беларусу, зь якім ты побач, неверагодную каштоўнасьць ягонае душы, ягоную вартасьць перад Богам, ягоную місію ў Беларусі – адзінае выйсьце з абыякавага, сьпітага й зьняверанага калектыўнага бесьсьвядомага, навязанага і Сітну, і Менску.

Але ж замест таго, каб абыходзіць адну за адной мільёны беларускіх асобаў, сякія-такія адмыслоўцы лічаць за лепшае па некалькі разоў на год выбраць са свайго асяродзьдзя найлепшую асобу, за якой бы пайшоў народ. Цара гары. Ёсьць такая дзіцячая гульня: аблюбаваць сабе горку, штурмаваць, скідаць адзін аднаго, каб на момант ускінуць рукі, пераможным воклічам абвесьціць сябе царом – і паляцець дагары нагамі ад кухталя чарговага прэтэндэнта пад ухвальныя выгукі партнэраў. Усім весела, усім цікава, толькі люду вакол ад гэтае валтузьні хіба сьмешна. Люд бачыць, што ў апазыцыі свая тусоўка, у рэжыму свая, і, уздыхнуўшы, пачынае займацца штодзённымі справамі, за якімі яго й засьпявае выпадкова агітатар з таго ці іншага боку.

А беларускі народ ня горшы за іншыя. У занядбанай вёсачцы Малое Сітна, у лясной глушы на мяжы з Расеяй, усяго за год зьявілася суполка ТБМ, два маладафронтаўцы, пяць падпісчыкаў «Народнай волі». Паўтара дзясятка вяскоўцаў носяць значкі «За свабоду» і

перадаюць з рук у рукі незалежную прэсу. Калі начальніка мясцовай участковай камісіі адразу пасьля сакавіцкіх выбараў прызначылі кіраўніком леспрамгасу, больш за сорак работнікаў пісьмова адмовіліся працаваць па суботах і нядзелях – і ў жніўні начальніка памянялі. Цяпер сямёра вяскоўцаў рыхтуюцца да мясцовых выбараў у сельсавет…

І справа тут не ў маёй палітычнай актыўнасьці: у мяне амаль увесь вольны час насамрэч заняты пісаньнем, чытаньнем ды сустрэчамі з прыежджымі наведнікамі. Вяскоўцы цікавяцца, падыходзяць, праяўляюць ініцыятыву самі. Людзі хочуць нешта зьмяніць – ім трэба адно інфармацыя, эмацыйны штуршок, тлумачэньне. Дзесьці тэлефонны нумар, дзесьці артыкул, дзесьці праўная кансультацыя. Простыя словы й простыя рэчы, якімі ў нас валодае кожны грамадзкі актывіст.

Скажаце, людзі баяцца? «У сьмеласьць майго народу я веру значна больш, чым у ягоную арганізаванасьць», – мае рацыю Вячаслаў Сіўчык.

Галоўнае пытаньне – ня ў страху. Знайсьці людзей, якія не баяцца размаўляць па-беларуску, не жахаюцца чытаць «Нашай Нівы»; выказваюць праўду ўголас або ўдзельнічаюць у кампаніях – не праблема. «Грукайцеся – і адчыняць вам, прасеце – і дасца вам, шукайце – і знойдзеце!» (Мацьвея 7:7). Галоўнае пытаньне – у веры.

Ці верым мы ў тое, што робім? Ці верым, што пераможам? Ці верыць кожны з нас у сваё пакліканьне? У сваю краіну? У тое, што беларускі народ сапраўды годны свабоды, праўды й справядлівасьці?

Вера – паняцьце ўнівэрсальнае. Калі верыць толькі ў тое, што бачыш – зло непераможнае, мафія несьмяротная, а Беларусь безнадзейная. Але калі верыш у Бога, Які стварыў гэтую краіну й аддаў Сваё жыцьцё за гэты народ, калі верыш, што кожны з 10 мільёнаў беларусаў – гэта вобраз і падабенства Ягонья, што ахвяраваньні, пакуты й нават сьмерць абарочваюцца ўваскрашэньнем – тады твая вера ператвараецца ў дзеяньне.

А вера, якая дзейнічае любоўю (Да Галятаў 5:6) – гэта і ёсьць нацыянальнае абуджэньне.

в.Малое Сітна

## ГОЛАС НАРОДУ СУПРАЦЬ РЭЖЫМУ: ГАРАЧАЯ ДЗЯСЯТКА

І галоўнае: нягледзячы на ўсё разуменьне становішча і пратэстныя настроі, людзі лічаць, што «нічога ня зьменіцца».Калі працоўны люд у Алёшчы зьбіраецца ў бытоўку пагрэцца ці ў абедзенны перапынак, калі апошнія вясковыя навіны абсмактаны да астатняй костачкі, а дзяжурны анэкдот ужо не выклікае ўсьмешак, запаноўвае шматзначная ціша. Тады хто-небудзь з рабочых абавязкова запаліць цыгарэціну, агледзіць прысутных і рашуча кракне:

— Ну, Паша, давай пра палітыку.

Пра яе тут гавораць ахвотна. Слухаюць уважліва, аднак любое сцьверджаньне патрабуюць падмацаваць фактамі. Жывая гутарка — не палітынфармацыя: народ хоча, каб яго пераканалі, а не «загрузілі».

Шмат чаго люд ня ведае, але ў нежаданьні ведаць іх не абвінаваціш.

Аднак залатое правіла агітацыі спрацоўвае і тут: паведамленьне ўспрымаецца настолькі эфэктыўна, наколькі яно пацьвярджае існыя меркаваньні. Напрыклад, сярод некалькіх тузінаў тэм вакол кандыдатуры «ўсенароднаабранага», якія абмяркоўваліся падчас гутарак, гітамі тутэйшае масавае сьвядомасьці можна лічыць ня больш за дзясятак:

1. «Хопіць. За 12 гадоў можна было памяняць усё да лепшага, а яно ўсё горш ды горш… Куды яшчэ пяць гадоў!..»

2. «БТ і АНТ хлусяць. Кажуць, усё добра. А мы што, ня бачым, як насамрэч?»

3. «Чыноўнікі твораць, што хочуць. Крадуць, выціраюць аб цябе ногі, зьдзекуюцца, дзяцей сваіх забясьпечваюць. Ну пасадзіў ён аднаго, ну хай дзесяць — дык іх жа тысячы! Мафія. А хто ёй кіруе?..»

4. «Усе прэзыдэнты як прэзыдэнты, вунь паказваюць, з жонкамі, а гэты адзін як воўк». (Забойна гучыць абурэньне «жанок»: «Сыноў вунь хоць з сабою бярэ, а іхнюю маці ў вёсцы кінуў».)

5. «Сын старэйшы зь ім езьдзіць. Відаць, пераемніка рыхтуе».

6. «З усімі ў замежжы перасварыўся. У Эўропу ўжо не пускаюць. З суседзямі трэба ў міры жыць».

7. «250 даляраў заробак. Ты чуў?! У каго ў нашых такія заробкі?».

8. «Гарэлка таньнейшая за закуску. Нават за камуністамі было наадварот. Спойваюць!»

9. «Панаствараў сабе міліцыі, войска, КДБ, спэцслужбаў. Усё, каб утрымаць уладу. Чулі, колькі ён ім плаціць?»

10. Нарэшце, мясцовыя праблемы — пачынаючы ад разваленага калгасу ды зношанага савецкага абсталяваньня на вытворчасьці і

канчаючы кепскімі дарогамі, адсутнасьцю водаправоду й «ніякім» сельсаветам, — зьвязаныя з агульнай палітыкай дзяржавы й хлусьнёй афіцыйных СМІ, ператвараюцца ў зброю ці ня самую эфэктыўную.

Аналізуеш маласіценскі палітычны гіт-парад — і пераконваесься, што добрая яго палова ў масавых кампаніях дэмакратамі не выкарыстоўваецца.

Зь іншага боку, шэраг казырных апазыцыйных «мэсыджаў» проста не ўспрымаюцца тут:

1. На размовы пра рынак, прыватызацыю, рэформы Эўразьвяз народ практычна не рэагуе.

2. Лёзунг «Незалежнасьць!» выклікае зьдзіўленьне: мы і так незалежныя далей няма куды.

3. Што цікава, людзі не перакананыя, што нашыя суседзі жывуць лепей.

4. Пра зьніклых палітыкаў ці перайменаваньні праспэктаў проста ня ведаюць.

І галоўнае: нягледзячы на ўсё разуменьне становішча і пратэстныя настроі, людзі лічаць, што «нічога ня зьменіцца».

Пераканаць іх у адваротным можа толькі адно. Наша перамога ў 2006-м, у якой яны паўдзельнічаюць.

[7 сьнежня 2005]
Павал Севярынец, Малое Сітна

## Табліца Мендзялеева

Дзед з Полацку ў гасьцях у сіценцаў цікавіцца, хто пасяліўся ў інтэрнаце. «Хімік» – адказваюць вяскоўцы. «А, вучоныя прыехалі», – з разуменьнем хітае галавою дзед.Дзед з Полацку ў гасьцях у сіценцаў цікавіцца, хто пасяліўся ў інтэрнаце. «Хімік» – адказваюць вяскоўцы. «А, вучоныя прыехалі», – з разуменьнем хітае галавою дзед.

«Зычу табе хутчэй адолець гэтую табліцу Мендзялеева», – завяршае свой ліст чытачка «Нашай Нівы» зь Пінску.

«Хімія» – гэта насамрэч пэрыядычная сыстэма элемэнтаў. Крымінальныя й паўкрымінальныя элемэнты, што пэрыядычна трапляюць у Сыстэму «абмежаваньня волі», складаюць упарадкаваную заканамернасьць сучаснага грамадзка-палітычнага жыцьця. Як спадчына разьвітага сацыялізму, «хімію» ў Расеі й большасьці постсавецкіх краінаў ужо скасавалі. Але ж вось у Беларусі саўковую «табліцу Мендзялеева» дагэтуль штудыююць тысячы.

Сучасная беларуская «хімія» – кляндайк для крымінальніка-навучэнца. Тут прафэсійныя выкладчыкі дадуць яму поўнае ўяўленьне пра мэтады сымуляцыі з дапамогаю ёду, жалезныя паняцьці турмы й значэньні цынку (прастукваньне праз сьцяну). Тут навучаць, як перакрываць кісларод адміністрацыі ўстановы, як пазьбягаць ужываньня брому (дадаецца ў пітво ў ізалятарах і калёніях дзеля падаўленьня лібіда) і здабываць высакародныя мэталы ў кватэрах даверлівых грамадзянаў.

Сэрца крывёю абліваецца, калі бачыш гэтых хлопцаў, аднагодкаў ці крыху маладзейшых, – Пакаленьне Маладога Фронту! – якія днямі слухаюць «блатны шансон» ды «таганку», размаўляюць на сумесі турэмнага жаргону й расейскага мату і лічаць гэта найвышэйшай рамантыкай. Іхняя сьвядомасьць ужо скалечаная дашчэнту. Мой 22-гадовы сусед з Новалукомлю шчыра абураўся: «Угон аўтамабіляў – гэта мой хлеб, мая праца, разумееш. Я працую ня менш за іншых – дык за што мяне пасадзілі?!»

Злосны неплацельшчык алімэнтаў зь недалёкае вёскі; полацкі нумізмат, у якога на выставе паспрабавалі скрасьці ягоныя манэты (крыўдзіцель апынуўся ў рэанімацыі, калекцыянэр – у Сітне); малады кіроўца, што зьбіў хлопчыка з роварам; жыхар Наваполацку, які ўтапіў у балоце дыплямат зь міліцэйскімі дакумэнтамі; лепельскі мужык, які на глебе рэўнасьці «вынес санкі» (зламаў сківіцу) жонцы; здаровы хуліган, на якога пасьля чарговае бойкі суседзі-пацярпелыя падалі заяву… Як і ў пэрыядычнай сыстэме элемэнтаў, тут ёсьць артыкулы лёгкія (алімэнты, махлярства, п’янкі, выпадковы ўшчэрбак)

і цяжкія (цяжкія цялесныя пашкоджаньні, ненаўмысныя забойствы): першыя часьцей падпадаюць пад амністыю ці ўмоўна-датэрміновае вызваленьне.

Мая «арганізацыя масавых беспарадкаў» робіць на «калегаў» моцнае ўражаньне. Даведаўшыся, што ў «беспарадках» на галоўнай плошчы сталіцы ўдзельнічала некалькі тысячаў чалавек, паглядзеўшы на машыны наведнікаў і пераканаўшыся, што паслабленьняў ў камэндатуры не даюць, яны прысьвістваюць і па-змоўніцку ціснуць руку: «Трымайся!»

Ужо неаднойчы пераканаўся на «сутках», у ізалятарах, «адстойніках» на той жа «хіміі»: да «палітычных» у месцах пазбаўленьня ці абмежаваньня волі ставяцца з выключнай павагай. Прынцыповасьць, адукаванасьць і беларуская мова – візытоўка «палітычных» – вітаецца зваротна прапарцыйна непрыязнасьці да гэтых рысаў у афіцыйных установах навукі, культуры й адукацыі. Прыхільнікаў Лукашэнкі сярод сядзельцаў не сустракаў: тут улада – ненавісны апарат падаўленьня. Слова «рэжым» выклікае тыповую хімічную рэакцыю. У крымінальнага інтэрнацыяналу ёсьць нават адпаведная клясыфікацыя РБ – «чырвоная (г.зн. кантраляваная адміністрацыяй) рэспубліка». Дзіва што сымпатыяў да міліцыі тут яшчэ меней, чым сярод удзельнікаў вулічных маніфэстацыяў. Можаце сабе ўявіць, якім попытам карыстаюцца ў «мясьцінах ня надта аддаленых» значкі «За свабоду!».

Разам з тым «папраўчая ўстанова адкрытага тыпу», як ніводная іншая структура пэнітэнцыярнай сыстэмы, не папраўляе, а горшыць чалавека. Для «новенькіх» гэта асяродак страшэннага разлажэньня, а для злачынцаў – паўсюдная спакуса: за мінімальным кантролем выпіць, пабалдзець, а заадно і «выхаваць маладняк» – не праблема. І канвэер працуе: «Скраў, выпіў – у турму».

За год у Малым Сітне праз мой інтэрнацкі пакой прайшло 14 «хімікаў». Чацьвёра зь іх сустрэліся ў адной камэры ў Віцебскай калёніі (даведалася тутэйшая жанчына, якая возіць перадачы майму былому суседу). Здавалася б, чаму б тым небаракам не адбыць свой тэрмін ціха й спакойна… Але сыстэма працуе, як гадзіньнік: прымусовая праца зранку + адносна вольны вечар = начная п’янка + пахмельле назаўтра. Пошукі выпіўкі, хованкі на працоўным месцы, сваркі й скандалы працягваюцца да тае пары, пакуль камэндантка інтэрнату ці майстры на працы ня выклічуць «эвакуатараў» з камэндатуры. «Хімікі» добра ведаюць, што Мендзялееў вынайшаў ня толькі пэрыядычную сыстэму, але й рэцэпт расейскае гарэлкі.

Пасьлядоўнікі вялікага хіміка экспэрымэнтуюць з усім, што гарыць, ужываючы ці ня ўсю згаданую табліцу.

Многія, дабыўшы «да званка», застаюцца ў Сітне на ўсё астатняе жыцьцё: знаходзяць сужыцельку, уладкоўваюцца ў лееспрамгас, падсаджваюцца на «максімку»... Так абмежаваньне волі ператвараецца ў пажыцьцёвы прысуд.

У Новай Беларусі ніякіх «хіміяў» ня будзе. Тыя, хто парушыў закон ненаўмысна, будуць плаціць вялікі заклад (а не даваць хабар «каму трэба»). Эканамічныя злачынцы будуць карацца, адпаведна, эканамічна. Забойцы ж, гвалтаўнікі й падлеткі-хуліганы будуць адбываць свой тэрмін не ў рассадніках крымінальнае сьвядомасьці й міліцэйскага садызму, а сам-насам з уласным сумленьнем і Бібліяй, пад гутаркі са сьвятаром.

Бо насамрэч ідэальныя дачыненьні чалавека й усяго грамадзтва выяўляе ня хімія й ня фізыка, а нацыянальнае абуджэньне.

## Кіслая глеба

У самы разгар эпахальнай для кожнага беларуса пары капаньня бульбы ў сіценскіх ваколіцах бязьлюдна. Вяскоўцы ў лесе – хто ў лісічках, хто ў брусьніцах, хто ў журавінах. Калі запытваесься ў народу, які выстройваецца ў чаргу ў краме па прывазную бульбу, чаму сіценцы не саджаюць самі, адмахваюцца: «Ай… Не расьце нічога. Глеба кіслая».У самы разгар эпахальнай для кожнага беларуса пары капаньня бульбы ў сіценскіх ваколіцах бязьлюдна. Вяскоўцы ў лесе – хто ў лісічках, хто ў брусьніцах, хто ў журавінах. Калі запытваесься ў народу, які выстройваецца ў чаргу ў краме па прывазную бульбу, чаму сіценцы не саджаюць самі, адмахваюцца: «Ай… Не расьце нічога. Глеба кіслая».

Глеба ў Сітне і праўда кіслая – пераўвільготненая. Ападкі перавышаюць сьцёк. Вакол балоты. Але, вось дзіва, ля хаты дзеда Роберта (таго самага, які больш за паўстагодзьдзя слухае «Свабоду») – і бульба, і гуркі, і перцы, і морква, ды дабрэнныя, ды яшчэ клубніцы, ды вінаград… «У вас што, – пытаюся, – мясцовая анамалія?»

«Так, анамалія, – сьмяецца дзед. – Во, прывязу вапны воз… кіслую ж глебу вапнаваць трэба, ну і гною, вядома, колькі тачак… Вось і родзіць. Калі вапны няма – можна попелу зь печы».

Пэўна ж, нездарма Госпад Бог даў Паазер'ю, апроч кіслых глебаў, яшчэ й найбуйнейшае ў Эўропе радовішча даляміту ў Рубе пад Віцебскам – далямітавая мука акурат і прызначаная дзеля таго самага вапнаваньня!

Але вяскоўцы штовосені, як манны нябеснай, чакаюць машыны, што завозіць у сельпо дзясяткі мяхоў гародніны. Купляюць малако – заводзкае, у пакетах – кефір, тварог. Па мяса едуць у Полацак на кірмаш…

На тэрыторыі сельсавету 10 гадоў таму было тры калгасы. Цяпер не засталося ніводнага. Ворыва засеялі… лесам. (Во зьдзівіліся б продкі-палачане часу Ўсяслава, што гэты лес немалою сілаю калісь карчавалі пад палі!..)

Гародзікі ў саміх вяскоўцаў зусім сьціплыя. Лапінка ля хаты, колькі яблыняў. Трактара ці камбайна на людзкіх «сотках» тут і ня ўбачыш – не разьвернуцца. Аруць канём ці матаблёкам. Зямля вакол вёскі ўвогуле пустуе.

Ну, добра, няхай і праўда, як той сьпяваў, не расьце какос… Але ж травы ў сіценскіх ваколіцах – мора. Жывёле – раскоша. Дзе ж жывёлагадоўля? У Сітне адна карова прыпадае на… 20 жыхароў. Сьмешна глядзець, як «статак» зь некалькіх мілкаў шпацыруе

цэнтральнай вуліцай. «Каровы ідуць!» – тут ужо не падзея, а нейкая недарэчнасьць. Паводле дзіцячых успамінаў, вырашыў быў, што ў бабулінай вёсачцы на Дняпры, пад Рэчыцай, справы лепшыя. Ані! Распытаўся – амаль тое самае. Старым трымаць карову ўжо й сілаў няма, а маладзейшыя п'юць, дык дзе яны тую худобу дагледзяць…

Тых, хто трымае сьвіньні, у Сітне можна пералічыць на пальцах. Відаць, парсюкі й тыя на кіслай глебе не растуць.

І гэта ня сіценскі «кулёр лякаль». Ва ўсёй Беларусі ўжо колькісот гадоў прагрэсуе паразытычная звычка. З кіслай мінай махаюць рукой на беларускую зямлю дзеячы, і робіцца зусім горка. Уздыхі й нараканьні на глебу чуюцца ў нас рэгулярна: гэтым звычайна апраўдваюць нежаданьне ды няўменьне працаваць – што на зямлі, што з грамадзтвам.

100 гадоў таму купка гэткіх жа, як і мы, беларусаў перасіліла ўнутраны стогн з прычыны несалодкае ды нятлустае глебы і пачала ўрабляць Нашу Ніву. Так, было цяжка, быў і пот, і сухоты, і кроў, і сьлёзы – але ж узаралі. І на гэтым не такім ужо вялікім кавалачку, бадай, вырасла ўсё беларускае нацыянальнае адраджэньне пачатку XX ст.: тут і БНР, і БССР, і беларусізацыя, і каранізацыя… Як у біблійнай прыпавесьці: «Узышло, і вырасла, і ўрадзіла: адно трыццаць, другое шэсьцьдзесят, трэцяе сто» (Марка 4:8).

На беларускай зямлі апошнія стагодзьдзі шмат хто спрабаваў жыць на дурняк. За кошт прыгоннага сялянства, калектывізацыі, мэліярацыі. Але Госпад, даручыўшы Адаму зямлю ў валоданьне, сказаў: «У поце твару твайго будзеш есьці хлеб, пакуль ня вернесься ў зямлю, зь якое ты ўзяты» (Быцьцё 3:19). Цяжка, укладваючы ўвесь час, усе высілкі, усю душу! – працаваць. Толькі тады тутэйшая глеба зьдзівіць сваёй плоднасьцю.

Няпростая беларуская зямля дадзеная беларусам дзеля выпрабаваньня іхняй хрэстаматыйнай цярплівасьці, руплівасьці, працавітасьці. Калі некаму хочацца есьці ананасы й жаваць рабчыкаў без асаблівых намаганьняў – ласкава просім на Канары. Патрыёт? Тады ўлягай, як за плугам, як у выбіраньне бульбы, як у штогадовае вапнаваньне, угнойваньне, баранаваньне кіслае глебы.

Ня будзем працаваць належным чынам ня зямлі – так і застанемся прыхаднямі-зьбіральнікамі.

За сто гадоў «Нашай Нівы», пэўна, гэта й ёсьць галоўным урокам для ўсіх беларусаў.

Толькі калі ўзаром, палепшым, акультурым грамадзкую глебу кожны на сваім кавалачку,ператрэм уласнымі рукамі кожны камячок беларускіх праблемаў, цяжкасьцяў, сумненьняў – пасеяныя слова, вера й любоў дадуць нацыянальнае абуджэньне.

## Камэндант і страх сьмерці

Усе клічуць яго Камэндантам. Зрэдчасу пачуеш – «Цімафеіч», а так усё Камэндант ды Камэндант. Такое ўражаньне, што сапраўднага ягонага прозьвішча ў Алёшчы ня ведае ніхто. Калі ж запытаесься, ён уважліва прасьвідруе цябе пільным позіркам празрыста-шэрых вачэй з прымружанага змаршчыньня: «А навошта табе?»Усе клічуць яго Камэндантам. Зрэдчасу пачуеш – «Цімафеіч», а так усё Камэндант ды Камэндант. Такое ўражаньне, што сапраўднага ягонага прозьвішча ў Алёшчы ня ведае ніхто. Калі ж запытаесься, ён уважліва прасьвідруе цябе пільным позіркам празрыста-шэрых вачэй з прымружанага змаршчыньня: «А навошта табе?»

Камэндант так і размаўляе – задае пытаньне й пранізьліва ўзіраецца, маўляў, я цябе наскрозь бачу. Ён амаль ніколі не падвышае голасу й ня лезе ў парожнія гутаркі. Трымаецца наводдаль. Назірае.

Камэндант, прынамсі афіцыйна, не зьвязаны ані са спэцкамэндатурай у Ветрына, ані з камэнданткай інтэрнату (хаця, пагадзецеся, замнога тут камэндантаў) і няўлоўна нагадвае хіба камандантэ Фідэля. Цімафеіч, праўда, маладзейшы, яму мо пад 65, і без барады, але вось гэты позірк, пільны й крыху шалёны, гэтая вайсковая пастава й манера пытаць суразмоўніка іх дужа прыпадабняе.

Ну і, вядома. Погляды.

Камэндант лічыць, што ён сумленна пражыў жыцьцё, служыў Радзіме, ахоўваючы зэкаў у «зоне» ў 1970–1980-я. Шчыра не даўмеецца, калі Сталіна назавуць тыранам, і скажа, што сёньняшняя ўлада слабаватая – «разбаўтаўся народ».

Чым займаецца Камэндант у Алёшчы, наўрад ці хто скажа пэўна. «Парадак наводзіць», – пацісьне плячыма брыгадзір. Нейкі час ён вастрыў сякеры, правіў вілы, рыдлёўкі й кручкі для адкаткі. Але як што снадзіва на эстакадзе ўвесь час кралі ды прапівалі (нат не заставалася чаго вастрыць і рамантаваць) – ён кінуў гэты занятак ды перабраўся за эстакаду, куды кранамі ў вялізныя горы адносяць вецьце ды сьмецьце.

І пачаў паліць вогнішчы.

Калі Камэндант утылізуе тое вецьце – усю Алёшчу, бы туманам, зацягвае дымам. Яловае гольле разгараецца, дае полымя на некалькі мэтраў і час ад часу трэскае агромністымі фаервэркамі – тады здаецца, што за эстакадай прарвала жарало невядомага вулькана.

Сам са Смаленшчыны, у 1960-х Цімафеіч скончыў школу; адслужыўшы на Ўрале, застаўся наглядчыкам у тамтэйшай калёніі, і з часам вырас да загадчыка ўчастку, дзе адбывала пакараньне 2,5 тысячы зэкаў. Выйшаў на пэнсію, пасяліўся у Алёшчы, і з тых пор ягоная

прывідна-шэрая постаць за эстакадай – неад’емная частка тутэйшага краявіду.

«Бачыш, які развал? – ківае Камэндант на алёшчынскі склад, дзе некалькі п’яных рабочых ужо каторую гадзіну «перакурваюць». – А ведаеш, чаму? – і не даючы сказаць чаму, адказвае сам. – Бо вашая дэмакратыя добрая ў іншым месцы. А нашаму чалавеку трэба пуга. Так-так, не матляй галавой, пуга. І страх сьмерці. Інакш працаваць ня будуць».

Камэндант спрытна цыркае сьлінай, уладным рухам рукі спыняе мае пярэчаньні й працягвае: «Галоўнае – абнесьці тэрыторыю калючым дротам. Стралкоў на вышкі. Страх сьмерці патрэбны, разумееш? Тады ты кантралюеш сытуацыю. А там, унутры, ужо справа тэхнікі. Падзяліць, каб не групаваліся самі, дзесьці пасварыць, асьведаміцеляў там… І парадак».

«Ага, парадак, – не вытрымлівае хтосьці з рабочых, – такім, як ты, дай волю, вы ўсю Беларусь па пэрымэтры абгародзіце».

Мне згадаліся гэтыя словы Камэнданта, калі пасьля выпадку зь сіратою Вікцяй Мароз, навучэнкай Вялейскага інтэрнату, сотням беларускіх дзетак было забаронена выяжджаць на аздараўленьне ў Італію.

Тая ж прамова Камэнданта пра страх сьмерці ўзьнікла ў памяці, калі аднаго зь лідэраў «Маладога фронту», Паўла Красоўскага, арыштавалі паводле падазрэньняў ва ўчыненьні віцебскіх выбухаў (маўляў, падобны да фатаробата): згодна з гэтым артыкулам Крымінальнага кодэксу ўжо можна асудзіць да пакараньня сьмерцю. Баючыся размаху маладафронтаўскай справы й сьведкаў салідарнасьці на судзе, рэжым падае сыгнал сапраўдным злачынцам, якіх так і не знайшлі: «Узрывайце далей – замест вас пасадзім палітычных!»

Вялізная постаць Камэнданта вырастае цяпер па-над сотнямі менскіх галадоўнікаў-хрысьціянаў з царквы «Новае Жыцьцё», якіх пазбаўляюць іхняга дому малітвы.

Але хрысьціяне не баяцца сьмерці. Яны баяцца толькі Бога, Які ўладны і над сьмерцю, і над жыцьцём. «Новае Жыцьцё» – назва тут зусім не выпадковая. Вось чаму страх сьмерці не ўратаваў ад краху ані Рымскую імпэрыю, ані Трэці Райх, ані Савецкі Саюз. Былі тыя, хто не баяўся сьмерці – і гэта азначала, што калючы дрот, стральцы на вышках і нават камэнданты бясьсільныя.

Для Цімафеіча такое непамысна.

А хрысьціяне й маладафронтаўцы ведаюць: працаваць, падтрымліваць парадак і жыць шчасьліва беларусам дасьць ня страх сьмерці, а нацыянальнае абуджэньне.

в.Малое Сітна

## Мова свабоды

Малое Сітна – надзвычай маўклівая вёска. Жывую гаворку ці сьмех пачуеш рэдка. Постаці вяскоўцаў прыгорбленыя, вочы амаль заўжды долу, вусны падцятыя. Справы такія, што казаць няма чаго. Ціхарацца тут дзеля прыгнечанасьці, страху ды замаскаванага пад абыякавасьць адчаю.Малое Сітна – надзвычай маўклівая вёска. Жывую гаворку ці сьмех пачуеш рэдка. Постаці вяскоўцаў прыгорбленыя, вочы амаль заўжды долу, вусны падцятыя. Справы такія, што казаць няма чаго. Ціхарацца тут дзеля прыгнечанасьці, страху ды замаскаванага пад абыякавасьць адчаю.

Умовы, праца і звычкі ў сіценцаў рабскія. Прыкрыкне на іх начальства, бы пугай хвастане, плацяць капейкі, і возяць на працу то ў вахтоўцы без тармазоў, то ў адкрытым кузаве грузавіка, то ўвогуле ў закратаванай «тэхдапамозе», што ўзімку прамярзае да шэрані на сьценах. Вось Сітна й маўчыць.

Але, калі прыслухацца, з амаль магільнае цішы точацца гукі свабоды.

Свабода гучыць у тых сама менш чатырох сіценскіх хатах, дзе настройваюць радыё «Свабода», і ў работніцкай бытоўцы, дзе зьмена сядае вакол прывезенага Вінцэсем Мудровым прымача, каб паслухаць «Праскі акцэнт».

Свабода гамоніць у Белым Доме (так тут называюць васьмікватэрны леспрамгасаўскі інтэрнат зь белае цэглы), дзе ў вітальні ў лесавіка Аляксандра наведнікаў сустракае плякат пачатку 1990-х са статуяй Свабоды й дзе насельнікі абмяркоўваюць, як памяняць мясцовую ўладу, што не рамантуе жытла, ня чысьціць студняў і не вывозіць сьмецьця.

Свабода вітае цябе пры сустрэчы зь сіценцамі дарослымі й дзецьмі, якія носяць белыя й чырвоныя значкі з крыламі «Я за свабоду!» – нягледзячы на заўвагі ўчастковага («ужо ў апазіцыю паўступалі?..») або дырэктаркі ў школе («што гэта за анцігасударсьцьвенная паліціка?!»).

Свабода сьпявае ў кампутарах ды плэерах тутэйшай маладафронтаўкі й хлопцаў зь лясьніцтва, што ўпадабалі «Песьні Свабоды»…

Па ўсёй краіне рух «За Свабоду» пакуль яшчэ не грыміць, не скандуе, не ракоча хорам – але ўжо растрэсквае тоўшчу немасьці дзясяткамі й сотнямі тысячаў пазыўных.

Свабода сыгналіць з тых вокнаў, дзе 16 дня кожнага месяца ўвечары запальваюцца сьвечкі. Свабода адгукаецца ў сэрцах тых

беларусаў, хто зьбіраецца прыйсьці на суд па справе «Маладога фронту» ў якасьці сьведкаў салідарнасьці. Свабода падае голас нават з камэраў Зьмітра Дашкевіча, куды лідэра беларускай моладзі зьмясьцілі разам з хворымі на СНІД ды сухоты, Міколы Астрэйкі, у якога нарадзілася дзіця, Аляксандра Казуліна, які пачаў галадоўку пратэсту.

Але самая вялікая й розгаласная плошча Свабоды ў Беларусі (больш за 1500 квадратных мэтраў) цяпер знаходзіцца ў менскім мікрараёне Сухарава ў будынку Эвангельскай царквы «Новае жыцьцё». Былы калгасны кароўнік, перароблены хрысьціянамі праз эўрарамонт у дом малітвы, які рэжым хоча адабраць і ў якім людзі мусяць трымаць галадоўку-пост, – вось сымбаль твой, забыты краю родны! І зьвярніце ўвагу, на якой мове выраблены галоўны плякат акцыі, на якой удзельнікі галадоўкі ўсё часьцей даюць інтэрвію, на якой пачынаюць маліцца. На мове свабоды – па-беларуску.

На гэтай мове сьпяваюць музыкі-пачаткоўцы, друкуюцца значкі, саколкі ды ўлёткі, на гэтай мове гамоніць Інтэрнэт. Беларуская мова – ужо ня проста мова супраціву. Гэта мова свабоды. Мова мужнасьці. Мова веры.

Пэўна ж, калі Госпад Бог даў нам, беларусам, сваю мову – дык і зьвяртаецца Ён да нас па-беларуску.

Хто мае вушы, каб чуць – няхай чуе.

«Ня хлебам адзіным жыве чалавек…» – сьцьвярджаюць усе галадоўнікі 2006-га. «…А ўсякім словам, якое зыходзіць з вуснаў Божых», – удакладняе Эвангельле (Лукі 4:4).

Бо слова, мова – гэта тое, што найболей адрозьнівае чалавека аж жывёлы і наймацней выяўляе ў ім вобраз і падабенства Божае.

А свабода…

Свабода – найвялікшае пракляцьце для чалавека, але адначасна і найвялікшае дабраславеньне. Праз свабоду выбару, вольную волю, чалавецтва ўпала ў грэх – але маюць Ісуса Хрыста – і збаўляюцца. Разам са свабодай Магутны Бог даў нам права на памылку, разам з гэтым правам – магчымасьць пакаяньня. І разам з пакаяньнем – жыцьцё вечнае ў вечнай свабодзе.

Вось чаго больш, чым хлеба, прагнуць хрысьціяне з «Новага Жыцьця». Вось за што моліцца за кратамі Зьміцер Дашкевіч. Вось да чаго прыслухоўваюцца ў галасох свабоды сіценцы, віцьбічы, менчукі.

«Дзе Дух Гасподні – там Свабода!» – кажа Біблія. А дзе Дух Божы і Слова Божае – там нацыянальнае абуджэньне.

в.Малое Сітна

## Малады фронт

Калі пераконваеш сіценцаў, што яны здольныя наладзіць сваё жыцьцё па-людзку, па-беларуску й па-эўрапейску, большасьць абыякава пацепае плячыма: «А мы і так дажывем. Хіба што маладыя…» Калі пераконваеш сіценцаў, што яны здольныя наладзіць сваё жыцьцё па-людзку, па-беларуску й па-эўрапейску, большасьць абыякава пацепае плячыма: «А мы і так дажывем. Хіба што маладыя…»

Што ж маладыя? У Сітне іх ня надта й мала – чалавек трыццаць пяць ад 15-ці да 30-ці гадоў веку.

Вось Аляксей, лясьнік са зламаным у вясковай бойцы носам, лічыць, што сапраўдны беларускі сьцяг – бел-чырона-белы, але апазыцыі ня верыць; быў моцна піў, але закадзіраваўся, каб зарабіць на сатэлітную талерку (далёкая мэта – францускі легкавік).

Вось Лявон, электрык з Чарнобыльскай зоны, прысланы сюды на разьмеркаваньне. Калісьці ў сёмай клясе праз фонд «Дзецям Чарнобылю» пабываў у Нямеччыне й ведае, што «там» жывуць на парадак лепш. Лявон кажа, што нам трэба хутчэй дамаўляцца з Эўропай ды Амэрыкай, «інакш мусульмане ды кітайцы пабяруць нас голымі рукамі».

Вось Віктар, стропальшчык, які ў 1996-м служыў ва ўнутраных войсках, стаяў у кардонах супраць маніфэстантаў Чарнобыльскага шляху; прызнаецца, што было вельмі страшна; цяпер просіць у мяне значку. На танцах б’е першым.

Вось Надзея, што нядаўна скончыла школу; нарадзіла дзіця ад сужыцеля, працуе на эстакадзе. Калі Надзея зацяжарыла ізноў, брыгада ўмаўляла яе ісьці ў адпачынак, кідаць паліць ды піць, ды дарма: тая надарвалася на працы і ў выніку – выкідыш. Галасавала супраць Лукашэнкі: «так далей нельга».

Вось Стасік, сірата, мастак-самавук, аўтар акварэлі ў леспрамгасаўскай сталоўцы й усіх надпісаў у Алёшчы – ад «ня ўлазь – заб’е» да інвэнтарных нумароў; робіць у лесе скурарубам і як пагарэлец жыве ў інтэрнаце з «хімікамі». Хваліць часы Шушкевіча, якога бачыў жыўцом, як служыў у Менску.

Вось Вікторыя, наша майстрыца, каталічка й змагарка з «максімкам»; разам з мужам-лесьнікам хочуць навесьці ў вёсцы парадак. Наракаюць: народ нічога ня хоча! – але штоазу пачынаюць усё зноў.

А вось і Воля, працуе на абутковай фабрыцы ў Віцебску; дахаты прыяжджае хіба пару разоў на месяц. Узімку Воля зьбірала подпісы ў ініцыятыўнай групе Мілінкевіча; цяпер слухае беларускі рок, чытае на памяць Хадановіча і, вядома, носіць «крылца» «За свабоду!».

Сіценская моладзь жывая, адкрытая й яшчэ поўная сілаў – нягледзячы на адчайнае асяродзьдзе. «Калгас назаўжды» не ўспрымаецца імі як наканаваньне. Воля марыць арганізаваць на сіценскіх азёрах люксовую турбазу. Віка з Раманам усё больш абмяркоўваюць мясцовае самакіраваньне ў вёсцы. Стасік прымерваецца да кіраўніцтва майстрэні, якая б выраблял драўляныя сувэніры, тыя ж кошыкі й рыштунак для агратурызму. Віктар мог бы зрабіцца шэрыфам усяго сіценскага памежжа; Лявон – фэрмэрам, Надзея – шматдзетнай маці ды паважанай хатняй гаспадыняй; Аляксей – першарадным эколягам.

У адрозьненьне ад старэйшых сіценская моладзь ня хоча гніць у дрыгве да таго самага дня, калі прыйдзе час адказваць чарговаму залётнаму агітатару: «А мы і так дажывем. Хіба што маладыя…»

Два мільёны сёньняшніх маладых беларусаў працуюць, мараць, вераць, кахаюць, хварэюць – і няўхільна сталеюць. І зь імі падымаецца, фармуе прастору, усё больш выяўнай робіцца новая Беларусь, у якой няма месца ані прывідам камунізму, ані гасударсьцьвеннай ідэалёгіі, ані масавым галадоўкам. Гэты малады фронт накатвае магутным узроставым валам і не пакідае ніякага гістарычнага шанцу застойнай старасьці. Кожная нацыя ад часу да часу адчувае такі прыліў маладое сілы – і тады глыбінныя межы ламаюць пакаленьні, і пасьля краіна не пазнае сябе.

У сакавіку на плошчы Каліноўскага малады фронт давёў, што не задаволіцца, як старэйшыя таварышы, працэсам або прамежкавымі міні-вынікамі, а будзе змагацца да перамогі. Давёў, што не зьбіраецца сьпівацца ад роспачы, а будзе займаць вуліцы й плошчы аж да тае пары, пакуль ня зойме ўсю краіну. Вось гэты настрой, гэты дух, гэтая маладая вера і спалохалі рэжым. Вось за гэта карная машына і абрынулася на лідэраў-маладафронтаўцаў. За гэта сядзіць Фінькевіч, за гэта высоўваюць жахлівыя абвінавачаньні Красоўскаму, за гэта рэпрэсуюць братоў ды бацькоў Шылаў, за гэта ўрэшце судзяць Дашкевіча.

Але спроба спыніць маладосьць, спыніць гісторыю сам час бессэнсоўная. Турмы, прапагандовыя ролікі й закрытыя суды робяць з маладафронтаўцаў нацыянальных герояў. Дзясяткі тысячаў падлеткаў, юнакоў, студэнтаў у пад'ездах, унівэрсытэцкіх аўдыторыях ды за кампутарамі абмяркоўваюць падзеі гэтае восені: «Ці чуў пра «Малады фронт»? Во крутыя хлопцы!» Карнікі сьсякаюць адну галаву, а замест яе вырастае тысяча.

Які б прысуд ні абвесьцілі Зьмітру Дашкевічу – немагчыма адтэрмінаваць нацыянальнае абуджэньне.

в.Малое Сітна

## Беларус паміж самагубствам ды самаахвярнасьцю

У Пскоўскай вобласьці Расеі – пяць кілямэтраў ад Сітна – днямі абвесьцілі надзвычайнае становішча. Эпідэмія таксычнага гепатыту. Калі па-простаму, люд дзясяткамі мрэ ад новага, надзвычай пякучага «максімкі».У Пскоўскай вобласьці Расеі – пяць кілямэтраў ад Сітна – днямі абвесьцілі надзвычайнае становішча. Эпідэмія таксычнага гепатыту. Калі па-простаму, люд дзясяткамі мрэ ад новага, надзвычай пякучага «максімкі». У мінулы чацьвер вечаровыя навіны ОРТ (у Сітна ідзе менавіта расейскі канал, не перакрыты кісялёўскім АНТ) пачаліся з гэтага рэпартажу. У кадры шэрагі каністраў з тэхнічным сьпіртам-шклоачышчальнікам і знаёмай этыкеткай. Адразу клічу суседзяў: «Максімку» па тэлеку паказваюць». «Хімікі» некалькі хвілінаў моўчкі глядзяць, як курчацца на ложках у пскоўскіх шпіталях атручаныя алькаголем, а потым пачынаюць згадваць: «Чуеш, а сёньня ж і праўда Юрка траванууўся, за жывот трымаўся, ледзь у ватоўку залез!..» «А там бачыў, хтось ганак зарыгаў...» «Гэта ж адтуль, з Пскоўшчыны. Да нас вязуць, халера!..»

Навіна разьляцелася па вёсцы імгненна.

Падумалася: ну хоць гэтыя выходныя абыдуцца бяз п’янкі.

Але калі тым жа вечарам аб 11-й у дзьверы пашкробся і на карачках запоўз нейкі шчасьлівы босы вясковец, зрабілася зразумела, што Сітна ніякім таксычным гепатытам не напалохаць. Ўік-энд быў ударны: апроч бяссоннае ночы зь пятніцы на суботу і трох каністраў «максімкі», сканфіскаваных майстрыцай у інтэрнаце ў нядзелю, паўз усю Лясную вуліцу на выходных былі шырока раскіданыя чыесьці сарочкі, нагавіцы, цяльняшкі ды шкарпэткі; двох «хімікаў» эвакуявалі ў камэндатуру, да паўсьмерці ўпілася ды застудзілася, лежачы на зямлі 70-гадовая бабуля, а леспрамгасаўскі кранаўшчык адправіў у рэанімацыю знаёмага субутэльніка-лесьніка.

«Чаму вы гэта п’яцё?! – жахаюся, прытрымліваючы аднаго з «гатовых» рабочых па дарозе да вахтоўкі. – Што, памерці так хочацца?» «А мы не баімся!» – нечакана выпроствaецца й выпінае грудзі той.

П’яны беларус, які не баіцца памерці: стоеная мужнасьць ці адчайнае вычварэньне?

Падобная ж гісторыя пару тыдняў таму адбылася ў Алёшчы з сухотамі. Там аб’явіўся хлопец, што ўцёк з сухотнага шпіталю ў Багушэўску. Бадзяўся, кашляў па ўсёй вёсцы. Пасьля тэлефанаваньня растрывожанай жыхаркі прыехалі полацкія мэдыкі і схапіліся за галаву. Толькі за дзень па хатах знайшлі тры асяродкі заражэньня; адправілі некалькіх алёшчынцаў у Полацак на аналізы, а таксама загадалі шчыльна забіць дошкамі студню ля эстакады й тэрмінова закапаць, ды паглыбей, агульныя вёдры ды кубкі, зь якіх пілі рабочыя.

Вядома, ніхто нічога закопваць ды забіваць ня стаў. Амаль уся брыгада, за выняткам двох-трох «чысьцюляў», дагэтуль п'е з тых вёдраў і кубкаў ваду забароненае студні. На папярэджаньні адказваюць зухавата: «Падумаеш, палачка Коха… У нас тут бервяно шпальніку, бывае, з эстакады як лясьне!..»

Уражвальнае геройства.

Але ж як розьніцца яно ад таго выкліку, што кідаюць сьмерці прафсаюзная актывістка з Бабруйску Алена Захожая, калі месяц галадае за права зарэгістраваць пярвічную суполку на «Белшыне», або Аляксандар Казулін, які дамагаецца разгляду беларускага пытаньня ў ААН; Павал Красоўскі, які працягвае змаганьне пасьля пачварных абвінавачваньняў у тэрарызьме й забойствах; вернікі «Новага Жыцьця», якіх аднаго пры адным адвозяць у рэанімацыю!

Беларускі супраціў за апошнія паўгоду абвастрыўся да самай мяжы жыцьця і сьмерці. Падобна, што столькі гатовых аддаць жыцьцё ў Беларусі не было нават падчас апошняе вайны. Прычым адныя лёгка, нават будзённа, зь нейкай д'ябальскай цягаю да самагубства, п'юць атруту ці ўдыхаюць сьмяротныя бацылы, а іншыя з хрысьціянскай самаахвярнасьцю ў масавым парадку адмаўляюцца ад ежы ці пагарджаюць пажыцьцёвымі турэмнымі кратамі – каб у канчатковым выніку ўратаваць ад павальнага суіцыду тых, першых.

Колькі разоў мы ўжо чулі, што правадыры рэжыму гатовыя насьмерць біцца за гэтую ўладу. Цяпер мы бачым гатовых аддаць жыцьцё, каб іх спыніць. І бачым народ, для якога лягчэй памерці, чым жыць гэтак.

Набліжэньне чаканьняў і настрояў да крытычнага роўню, да кульмінацыйнага піку «быць ці ня быць» – прадвесьце галоўнае бітвы і духоўнага пералому ў беларускім грамадзтве. Бо менавіта пытаньні жыцьця і сьмерці прыводзяць чалавека і нацыю да самых важных адкрыцьцяў. Пакаяньня. Адкупленьня. Веры ў Бога. «Ва ўладзе Госпада Ўладыкі брама сьмерці!» (Псальмы, 67:21).

Толькі ў такім экзыстэнцыйна-памежным стане народ здольны ўсьвядоміць, як Ісус Хрыстос аддаў жыцьцё за ўсіх і кожнага на крыжы – і толькі пасьля выпрабаваньня ахвярнасьцю можа прыняць Ягоны бел-чырвона-белы сьцяг як сымбаль найвышэйшай любові. Бо «Няма любові большае за тую, калі хто пакладзе душу сваю за сяброў сваіх», – сьцьвярджае Эвангельле паводле Яна, 15:13.

Беларусы з усё большай прагаю асвойваюць гэтую навуку Збаўцы – як аддаваць сябе за іншых. А значыць, рыхтуюцца перамагаць сёньняшнюю паўсюдную гатовасьць памерці нацыянальным абуджэньнем.

в.Малое Сітна

## Разарэньне рэжыму

Спойваньне народу — справа надзвычай выгодная. Апроч ладнае долі бюджэту, алькагалізацыя ўсяе краіны забясьпечвае грамадзкую пасіўнасьць.У першую ліпеньскую ноч у Малым Сітне адбылася чарговая п'яная сьмерць. Хлопцы, што папрыяжджалі з гораду на выходныя, паўпіваліся ў сельскім клюбе («максімку» прадаюць проста на дыскатэцы) ды наладзілі гонкі на матацыклах па вёсцы. 29-гадовы палачанін на «Яве» наляцеў на дзяўчыну, што працуе касіркай у канторы лесапрамгасу. Дзяўчыну зьвезла «хуткая»; апэрацыя ішла 6 гадзінаў, жыцьцё, дзякуй Богу, уратавалі. Хлопца, які з матацыклам праляцеў да бліжэйшых дрэваў, павезьлі хаваць у Полацак.

Вы слушна падумалі, што піць у вёсцы пасьля гэтага менш ня сталі. Такая сьмерць сіценскіх аматараў «максімкі» не палохае: значна больш іх палохае цьвярозае жыцьцё.

«Піць або ня піць?» — для большасьці сіценцаў не пытаньне. Парадыгма іншая: «Колькі?», «З кім?», «За што?», «Зь якой нагоды?». І ўрэшце канцавую кропку ў гэтым рытарычным шэрагу ставіць раптоўная сьмерць-атручваньне, п'яная бойка, пажар, угар, самагубства.

«Куды ж глядзіць улада?!» — абурыцеся вы.

Глядзіць у самы корань.

Спойваньне народу — справа надзвычай выгодная. Апроч ладнае долі бюджэту, алькагалізацыя ўсяе краіны забясьпечвае грамадзкую пасіўнасьць. Топіць пратэстныя настроі (дастаткова пагразіць спажыўцу сьпіртнога, які «качае правы», што будзе звольнены з працы «паводле артыкулу») і гарантуе мутны позірк на рэчаіснасьць. Якія мы, бач, расцудоўныя, нам і мора ніжэй калена. Заадно рабацягі ледзь дажываюць да пэнсійнага ўзросту — і павольна мруць. Эканомія, не раўнуючы як у Трэцім Райху. Такім чынам, апроч лядовых палацаў ды бібліятэчнага ромбададэкаэдру, наша эпоха пакіне Новай Беларусі яшчэ й алькагольную залежнасьць мільёнаў, здольную разбурыць любыя грамады рэформаў.

Дзяржаўныя абмежаваньні, забароны й рэпрэсіўныя меры рады не дадуць. Неяк на перакуры ў Алёшчы брыгада абмяркоўвала, як выкручваліся падчас «гарбачоўскае кампаніі», калі з крамаў пазьнікалі гарэлка ды «чарнілы». «Самагон тады ўсёй вёскай гналі… Адэкалён нічога быў, гэты, як яго, трайны — хоп і пахнеш, як прынц… А памятаеш, Сямёныч, ад лясьёнаў такая пена была, во мылам

адрыгалася!.. Ага, а як дыхляфосам у піва пшыкалі… А клей на сьвердзел намотвалі!..»

Попыт нараджае прапанову, а Беларусь ужо цяпер захлынаецца ў багне таго попыту. Вядома, пасьля зьмены рэжыму будуць патрэбныя масавыя агітацыйныя кампаніі за здаровы лад жыцьця, падвышэньне коштаў і якасьці сьпіртнога, поўны спэктар стымулаў цьвярозасьці ад спрыяньня дробнаму й сярэдняму бізнэсу да ліквідацыі схаванага беспрацоўя. Але агульнапрызнана, што найлепшыя вынікі ў антыалькагольнай тэрапіі даюць высілкі абуджанага, ахопленага энтузіязмам грамадзтва: усталяваньне высокага маральнага стандарту праз моцныя цэрквы, трывалыя сем'і й адраджэньне нацыянальнай культуры. На пачатку XX ст. фэнамэнальных посьпехаў у змаганьні з п'янствам дасягнуў Каталіцкі Касьцёл: прыкладам, у 1911—1912 гг. манапольки на Гарадзеншчыне зачыняліся адна пры адной праз адсутнасьць ахвотнікаў выпіць. Але вайна, рэвалюцыя й бальшавіцкае бязбожжа атруту на Гарадзеншчыну хутка вярнулі. У наш час сярод паводкі пітва праглядваюць адно выспачкі цьвярозасьці — той жа Мосар на Глыбоччыне, дзе самаахвярны Юзаф Булька прамаўляў казаньні, арганізоўваў жанок ды біў бутэлькі да тае пары, пакуль усе пітушчыя прылюдна ня выракліся свайго грэху.

А што рабіць усім астатнім, хто апынуўся па-за Мосарам? Калі дзяржава спойвае людзей мэтанакіравана? Калі гарэлка таньней за закуску? Калі хрысьціянскі актывізм не настолькі пашыраны ды яшчэ й прыціснуты?..

Хлопец, які разьбіўся ў Сітне на матацыкле, быў мой аднагодак. Паводле сацыялёгіі, такія нават у вёсцы падтрымліваюць апазыцыю. Але ж вось — п'юць страшэнна.

Сустракаўся з гэтым парадоксам паўсюдна — і ў Менску, і ў Віцебску, і ў Малым Сітне. Прыхільнікі дэмакратыі — студэнты, прадпрымальнікі, інтэлігенцыя, службоўцы — п'юць у масавым парадку. Кажуць, ад безнадзёгі. Можна, вядома, уважаць гэта за крутое выяўленьне пратэсту. Бярэш тую бутлю за горла, як гранату, — а вось вам за ўсё, гады!.. Толькі лічбы даводзяць, што такое піцьцё — найлепшы спосаб падтрымаць рэжым. Мяркуйце самі: нашыя адукаваныя, кваліфікаваныя, культурныя (і збольшага гарадзкія) прыхільнікі рэгулярна ўжываюць зусім ня свойскі самагон і не шатляндзкае віскі, а, як правіла, дзяржаўную гарэліцу. Той самы прадукт, вытворчасьць якога нашаму «Белдзяржхарчпраму» абыходзіцца ў капейкі, але дае найвялікшы адсотак прыбытку ў бюджэт. А цяпер палічым. Возьмем 3—4 мільёны тых, хто звычайна

галасуе за апазыцыю, і памножым на 10—15 літраў чыстага алькаголю, якія, згодна са статыстыкай, штогод прыпадаюць на сярэднюю беларускую душу, улічым, што гэтыя літры разводзяць да 400 і прадаюць у дыяпазоне ад 5 да 20 тысячаў беларускіх рублёў за паўлітровую бутэльку… Хто ня верыць — спраўдзіце з калькулятарам: беларускія прыхільнікі дэмакратыі, п’ючы, штогадова субсыдуюць рэжым сама менш на паўмільярда даляраў.

Дарагія дэмакраты, эўрапейцы, нацыяналісты, рынкавікі! Можа, годзе ўжо чакаць вызваленьня ад дыктатуры праз расейскую газавую трубу? Мо пара ўжыць рычаг эканамічнага й палітычнага ціску параўнальнай магутнасьці?!

Увага! Прапаную ўсім супраціўнікам аўтарытарызму адмовіцца ад набыцьця й ужываньня алькаголю да поўнай перамогі над рэжымам. Сьвядомым беларусам і дысцыплінаваным партыйцам раю падрахаваць хаця б свой месячны вінна-гарэлачны бюджэт, скінуцца на 10-мільённы наклад антыалькагольных улётак з адпаведнай палітычнай аргумэнтацыяй (падлічана: хопіць на каляровы друк, фінскую паперу ды яшчэ на транспартныя выдаткі) — і раскруціць кампанію «разарэньне рэжыму» па ўсёй краіне. Замест тосту — тур па квартале з улёткамі. Плюс маральны эфэкт. Мінус пахмельле.

«Я ня п’ю, бо супраць Лукашэнкі!» — гучыць, га?!

…А чарачку за перамогу можна будзе падняць і пасьля. Вядома, калі захочацца. Бо насамрэч з пазбаўленьня ад усякага дурману й пачынаецца поўнае нацыянальнае абуджэньне.

в.Малое Сітна

## Адкрыцьцё шляхціца Завальні

«Пэўна ж, пра гэты край Баршчэўскі ў «Шляхціцы Завальні» піша?» – запытвалі менчукі, прыяжджаючы ў Сітна. Менавіта. Ды, шчыра сказаць, да часу мяне гэта абыходзіла: прачытаўшы «Шляхціца…» яшчэ калісьці ў школе, лічыў, што казачны трымценьнік XIX стагодзьдзя – не чытво для сучаснага хрысьціяніна.«Пэўна ж, пра гэты край Баршчэўскі ў «Шляхціцы Завальні» піша?» – запытвалі менчукі, прыяжджаючы ў Сітна. Менавіта. Ды, шчыра сказаць, да часу мяне гэта абыходзіла: прачытаўшы «Шляхціца…» яшчэ калісьці ў школе, лічыў, што казачны трымценьнік XIX стагодзьдзя – не чытво для сучаснага хрысьціяніна.

Але, калі томік Баршчэўскага прынёс мне Робэрт Багарад (той самы, які слухае радыё «Свабода» з пачатку вяшчаньня) і паказаў, што тут тройчы згадваецца Сітна, мне чыста дзеля ветлівасьці давялося перагарнуць колькі старонак. І мой колішні стэрэатып як прыпячатала: «…Вось да чаго даводзіць п’янства і зухаватасьць бязбожная!»

З фантастычнага аповеду яўна патыхала сіценскай рэальнась-цю. Пачаў перачытваць – і перада мной раптоўна адкрылася добра вывучаная за дзесяць апошніх месяцаў карціна. Настрой тутэйшага насельніка, гэтак выяўна перададзены Баршчэўскім, і праз 150 гадоў застаўся той самы: «Жыхары гэтага краю, а менавіта Полацкага, Невельскага ды Себескага павету, спрадвеку пакутуючы, зусім зьмяніліся характарам: на іх тварах заўсёды адбіты нейкі смутак і змрочная задумлівасьць. У іх фантазіях увесь час блукаюць нядобрыя духі, якія служаць злым панам, чараўнікам і ўсім непрыяцелям простага люду». Адразу пазнаеш зямлю, зь якой 1000 гадоў таму пачалася Беларусь і якая ўяўляе цяпер сабою цьмянае дно. І, прыгледзеўшыся – а людцы мае! – бачыш, бачыш тых самых пачвараў, якія насялялі старонкі «Шляхціца Завальні». Лесавікі, п’яныя дык страшнейшыя за фінскіх монстраў з «Эўравізіі»; кабеты-інсэкты, зморшчаныя ад злосьці й «максімкі», якія прагудуць вам вушы пра «нашага прэзыдэнта»; карузьлікі, дзеці алькаголікаў, што днямі корпаюцца на сьметніках, ганяюць па вёсцы жывёлу ды птаства й праводзяць мінака дзікаватым позіркам; лёкаі, што сябруюць зь нячыстым (дзесьці ў мясцовых уладных структурах) і маюць праз гэта падазронае багацьце…

Тады, у часы пана Завальні, уся грамада нячыстай сілы хаця й панавала над краем, але адступала перад воляю пабожнага: «У нас яшчэ, дзякуй Богу, шануюць сьвятую веру, а д’ябал ад крыжа й

малітвы ўцякае». А цяпер ужо не шануюць. «Бог ёсьць, толькі мы ў Яго ня верым…» Быццам Плачка, блукае багамолка, упрошвае сельсавет ды Полацка-Глыбоцкую япархію пабудаваць тут царкву… Марна. І вось паўстаюць у Сітне страшыдлы куды жахлівейшыя, што й ня сьніліся сучасьнікам Завальні.

Драпежны Леспрамгас, які, быццам агромністы караед, выгрызае лепшыя полацкія лясы гектарамі, пакідаючы толькі скалечаныя тралёвачнымі гусеніцамі й вываратнямі пусткі.

Гіганцкая Чорная Мытня, што аблытала шчупалкамі ўсе тутэйшыя дарогі, распладзіла зграі ваўкалакаў у пагонах ды начамі, аж стогн стаіць, высмоктвае зь беларускай зямлі ўсе скарбы.

Жудасны Палігон, які разарыў ды працяў жалезьзем і танкавымі дырэктрысамі цэлы павет і, нібыта дракон, час ад часу прачынаецца з пачварнымі сутаргамі й грымотамі й зарывам да небакраю.

Крэпасьць Івана Жахлівага, даўно спаленая, але няўмольнай зданьню прысутная ў сьвядомасьці кожнага вяскоўца, каб вартаваць рабства паняволенай краіны.

Нарэшце, Максімка, агнявы дух, існы амаль у кожнай сіценскай хаце, які кідае людзей у эпілепсію, прымушае іх дурэць, біцца адно з адным і накладаць на сябе рукі.

Сядзіш у інтэрнаце цёмнымі вечарамі, быццам сам Завальня ў сядзібе, штодня прымаеш усё новых падарожных – вяскоўцаў, «хімікаў», прыезджых паплечнікаў, чуеш усё новыя й новыя страшныя гісторыі – і думаеш рыхтык словамі з Баршчэўскага: «Ня сьпіць злы дух, усюды шкодзіць людзям і заўсёды сябруе з тымі, хто забывае пра бліжніх сваіх».

У наш век вампірскіх жудзікаў, бэтмэнаў і гары потэраў сэнс кнігі Баршчэўскага звычайна зводзяць да аднаго сумнеўнага аргумэнту – маўляў, нашая беларуская мазгаўня здольная спараджаць жахі ня горшыя, чым у Хічкока ці Кастанэды. Між тым, у адрозьненьне ад згаданага псыхадэлу, кожная (кожная!) гісторыя Баршчэўскага завяршаецца настойлівай і трапнай маральлю: самая жахлівая нечысьць, што плодзіцца ад бязбожжа, страху ды бяспамяцтва, перамагаецца Боскай верай і любоўю ў тваім уласным сэрцы. Як напісана ў Бібліі: «Упакорцеся Богу, успраціўцеся д’яблу – і ён уцячэ ад вас» (Якава 4:7).

Заключныя словы Завальні да Янкі – запавет кожнаму вандроўнаму беларусу, які раптам апынуўся пасярод пачвараў. «Ідзі ў сьвет, шукай сабе долі, любі Бога, бліжняга і праўду. Воля Творцы цябе не пакіне. Калі спаткаеш дзесьці там шчасьлівейшых ад нас людзей, не забывай пра пакуты сваіх землякоў. Няхай твая малітва да

Бога лучыцца зь іх малітвамі. Можа, калі-небудзь і нашыя дзікія пушчы й лясы загучаць весялосьцю. Бог магутны й міласэрны».

У Боскасьці й беларускасьці апошнія стагодзьдзі было багата сьмяротных ворагаў. Але калі не дранцьвець перад імі, не палохацца, не хавацца ў бульбу – раптам адкрыеш, што ўсе гэтыя пачвары народжаныя сном нашага ж розуму. І пераканаесься: каб скончыць валадарства нечысьці на нашай зямлі, нам патрэбнае проста нацыянальнае абуджэньне.

в.Малое Сітна

## Сітна і сатана

У Сітне часам хочацца крыкнуць: «Няўжо тут насамрэч усё так кепска?!» І чым далей, тым часьцей просіцца на язык: «праклятае месца». Насельнікі вёскі ня верадь у Бога.У Сітне часам хочацца крыкнуць: «Няўжо тут насамрэч усё так кепска?!» І чым далей, тым часьцей просіцца на язык: «праклятае месца». Насельнікі вёскі ня верадь у Бога. Затое кожны, узьняўшы палец угару, кажа: «Ёсьць жа нейкая вышэйшая сіла!» Тут сьвята верадь у порчу, сурок і чорную магію, тут уважліва чытаюць гараскопы на наступны тыдзень, спрабуючы разабрацца, у якім астрале супрацьстаяць адзін аднаму Ўран ды Юпітэр. Тут перакананыя, што на гары на ўезьдзе ў Сітна, дзе часьцяком б'юцца машыны, чорт жыве. Але сапраўдны тутэйшы бог існуе ў вадкім агрэгатным стане і мае моц 40 градусаў, а то і вышэй.

У навакольлі буяе распуста: да мужыкоў, якія адкрыта, на ўзор мармонаў, жывуць зь дзьвюма, а то й трыма «жонкамі», тут ставяцца гэтак жа цярпіма, нават спачувальна, як і ў Эўропе да гомасэксуальных шлюбаў. У ветрынскай спэцкамэндатуры на сьцяне дзяжуркі — тры фатаздымкі. За апошнія некалькі месяцаў у раёне знойдзеныя трупы трох дзяўчат, падазраваных у прастытуцыі на трасах. Нікога гэта не палохае й не выклікае чутак пра ма-ньякаў. Кажуць, звычайная справа, «абдарылі» кагосьці з дальнабойшчыкаў, вось тыя на зваротным шляху і расплаціліся.

Ад старасьці сіценцы звычайна не паміраюць. Вось толькі некалькі нядаўніх выпадкаў.

Падчас сваркі 50-гадовы муж да сьмерці зьбівае жонку; усю ў гузаках, сьсінелую, яе паказваюць фэльчару: маўляў, упала з даху.

Пасьля сумеснага з сужыцелькай, загадчыцай леспрамгасаўскай лазьні, расьпіцьця «максімкі» мужык ідзе ў тую самую лазьню й вешаецца на яе дзьвярох.

Хлопец зь дзяўчынай у вёсцы, падвыпіўшы, выяжджаюць пакатацца на матацыкле. Ля моста праз Палату абое разьбіваюцца насьмерць.

Пажылая кабета атручваецца «максімкай». Афіцыйная вэрсія: сэрца.

Так, сэрца! Бо менавіта «з сэрца выходзяць ліхія намыслы, забойствы, пералюбы, распуста, крадзяжы, ілжывыя сьведчаньні, зьнявагі, і гэта апаганьвае чалавека» (Мацьвей 15:19—20).

Калі мы хочам выгнаць сатану зь Сітна, з Полаччыны, з сэрца Беларусі ды з сэрцаў усіх беларусаў — тым, хто верыць у Бога й любіць сваю краіну, у 2006-м абавязкова трэба перамагаць.

в.Малое Сітна

## Божая ніва

Штопятніцы тысячы беларусаў атрымліваюць праз пошту вялікую капэрту землянога колеру, якой чакаюць цэлы тыдзень. Адкладаюць усе свае справы, бліскучым лязом, быццам плугам, або проста прагнымі пальцамі ўспорваюць пакунак, за ім распалавіньваюць газэтныя палі, засеяныя роўнымі баразнамі радкоў, – і рупліва, да апошняе літаркі, перабіраюць ворыва.Штопятніцы тысячы беларусаў атрымліваюць праз пошту вялікую капэрту землянога колеру, якой чакаюць цэлы тыдзень. Адкладаюць усе свае справы, бліскучым лязом, быццам плугам, або проста прагнымі пальцамі ўспорваюць пакунак, за ім распалавіньваюць газэтныя палі, засеяныя роўнымі баразнамі радкоў, – і рупліва, да апошняе літаркі, перабіраюць ворыва.

**Нашу Ніву.**

Гэтаксама штопятніцы тысячы беларусаў вылучаюць час для Нацыянальнага посту й малітвы за Беларусь – каб прасіць у Бога збаўленьня й дабраслаўленьня для гэтага народу й гэтае зямлі.

Супадзеньне зусім не выпадковае. Надрукаваныя ў адным з апошніх нумароў «НН» зьвесткі пра рэлігійнасьць і канфэсійную прыналежнасьць чытачоў вельмі паказальна характарызуюць нашаніўскі фэномэн. Толькі каля 1/10 зь іх – няверуючыя. Першую беларускую газэту чытаюць тыя, хто верыць.

У Першым пасланьні да Карынцянаў ёсьць такі зварот да вернікаў: «Мы – супрацоўнікі ў Бога, а вы – Божая ніва». (I Карынц 3:9). Божая ніва – хрысьціяне гэтай зямлі. «Каласы пад сярпом Тваім» – амаль паводле Караткевіча.

Для Беларусі «Наша Ніва» была й застаецца той самай эвангельскай нівай, дзе зерне «ўпала на добрую зямлю і дало плод, што ўзышоў і вырас, і ўрадзіла тое трыццаць, тое шэсьцьдзесят, а тое сто». (Марка 4:8). Стогадовае поле сьвядомасьці, поле памяці, поле спадчыны штогод дае найбагацейшы валавы збор беларушчыны. А стагодзьдзе таму «Першая беларуская газэта з рысункамі» адна ўрабляла сямімільённую вёску, падымала, быццам цаліну, стоеную ў стагодзьдзях прыгнёту ды акупацыяў беларускасьць, сеяла, зжынала, малаціла, веяла, малола, выпякала – і раздавала тыя пяць хлябоў па ўсёй згаладалай краіне.

Ключавая прычына посьпеху «Нашай Нівы» з тых часоў не зьмянілася – укарэненасьць у народзе. Прынцып тут просты: кожнаму народу Бог даў магчымасьць расьці, квітнець і прыносіць плён. Калі

супрацоўнікі Бога будуць працаваць як сьлед на гэтай Божай ніве – абуджаны народ дасьць ураджай субымерны з маштабамі краіны.

«Нашу Ніву» часта называюць элітнай. Справядліва: практычна ўсе «валадары дамоў» і «інжынэры чалавечых душаў» нацыянальнага руху чыталі «НН» тады, і чытаюць цяпер. Але «Наша Ніва» заўжды была гэткай жа народнай, як і поле, засеянае збожжам. Унікум «НН» – гэта унікум народнае журналістыкі, асноўная місія якой – распавесьці аб самім сабе як аб народзе. Такім чынам, «Наша Ніва» – зьява ня столькі мэдыяпрасторы, колькі гісторыі. У іншых народаў ролю цэнтру нацыянальнай крышталізацыі выконвалі вялікія вайскаводы, крывавыя рэвалюцыі, патрыятычныя дыктатуры, а вось у беларусаў – незалежная газэта.

Згадваю «Нашу Ніву" штораз, калі атрымліваю ў лістах салідарнасьці невялікія выданьні тае народнае журналістыкі – «Наш Смаргонскі край», шаркаўшчынскую «Бацькаўшчыну», аркуш з Залесься «Крок» або «Баявы лісток вёскі Дуброва Парыцкага павету». Мне бачыцца тысячы й тысячы беларускіх вясковых і местачковых газэтаў, якім, паверце, ёсьць што распавесьці гораду і сьвету. Насьледаваньні «Нашай Ніве», пра якія напісана: «Узарэце сабе новыя нівы і ня сейце сярод церня» (Ерамii 4:3).

«Наша Ніва» – кульмінацыя беларускага культурніцтва. Кніжныя бачыны, разгорнутыя ў папяровыя палеткі, ахапляюць літаратуру, фальклёр, быт, мастацтва, палітыку – ды ўвогуле ўсё жыцьцё. Гранёны нашаніўскі шрыфт, у якім угадваюцца дробачкі з эўфрасіньнеўскіх літараў і поўнае зерне Капіевіча, зьбірае ў адно ўсе знакі 1000-годзьдзя беларускасьці, каб засяваць Нашу Ніву зноў і зноў.

Як раней, так і цяпер «наша старонка» ператвараецца ў краіну на старонках «Нашае Нівы». «НН» была праграмаю для абвяшчэньня БНР і беларусізацыі 20-х – і пераняла ролю лідэра Адраджэньня на мяжы тысячагодзьдзяў.

У выніку 100-гадовая «Наша Ніва» сталася для Беларускі гэткім жа нацыянальным сымбалем, як The Times для Ангельшчыны, Le Figaro для Францыі ці The Wall Street Journal для Амэрыкі.

Сёньняшняя «Наша Ніва» – аднаўленьне тае нівы. Ня большае й ня меншае, ня іншай і ня «вашай» – нашай.

Сёньняшняя ж Беларусь – адно вялікае Малое Сітна. Зьняверанае, занядбанае, загрузлае ў граху й падпарадкаванае рабству. Сеяць і вырошчваць нацыю на такой ніве надта цяжка. Хтосьці абавязкова заўважыць: ды паглядзіце на свой наклад… Што

тыя некалькі тысячаў для 10-мільённай краіны? Але так было заўсёды: «Жніво вялікае, а працаўнікоў мала» (Лукі 10:2).

Тыя, хто верыць, ніколі ня кінуць, ня спляжаць і не прададуць Нашай нівы. Бо, як і 100 гадоў таму, тут сеюць, вырошчваюць і зьбіраюць ня хлеб і не відовішчы, а нацыянальнае абуджэньне.

в.Малое Сітна

## Бібліятэка ў прыбіральні

Мае інтэрнацкія суседзі штодня чытаюць клясыку. «Як нам рэарганізаваць Рабкрын» Уладзімера Ільліча Леніна, «Пётар І» графа Аляксея Талстоя, «Трывожнае шчасьце» Івана Шамякіна ці, на скрайні выпадак, «Тэхніку бясьпекі ў лясной вытворчасьці» з прадмовай, прысьвечанай вынікам ХХІІ Зьезду КПСС.Мае інтэрнацкія суседзі штодня чытаюць клясыку. «Як нам рэарганізаваць Рабкрын» Уладзімера Ільліча Леніна, «Пётар І» графа Аляксея Талстоя, «Трывожнае шчасьце» Івана Шамякіна ці, на скрайні выпадак, «Тэхніку бясьпекі ў лясной вытворчасьці» з прадмовай, прысьвечанай вынікам ХХІІ Зьезду КПСС. Прычым дзеля таго, каб даведацца, якія глыбіні філязофскае думкі вымяраюць «хімікі» ды работнікі сёньня, не абавязкова наведвацца да іх у пакой. Дастаткова зайсьці ў драўляную прыбіральню (дзьве кабінкі ў паўсотні мэтраў ад інтэрнату), ёмка ўладкавацца і прабегчы вачыма па радкох на шчодра раскіданых вакол ашмётках кніжных старонак. Некалькі цэлых клапатлівыя чытачы пакідаюць наступнікам: заткнутыя ў шчыліны паміж дошкамі, яны ўтвараюць зручны каталёг з формуламі самае папулярнае літаратуры за апошні тыдзень.

Ані Борхэсу, ані Оруэлу й ня сьнілася такая бібліятэка – абавязковыя 10 хвілінаў штодня, індывідуальныя кабінкі замест агульнае чытальнае залі, і напрыканцы – непазьбежная ўтылізацыя.

Здаецца, яны не чыталі Рабле, але…

Можна зразумець роспач сіценскай бібліятэкаркі, пэнсіянэркі Людмілы Пятроўны, якая скардзіцца: «Раней жа ў нас 5 тысячаў тамоў было – а цяпер некалькі соцень. Разьбіраюць і не вяртаюць. На самакруткі скурваюць іх, ці што?..»

Ці што, Людміла Пятроўна, ці што.

І застаецца ў выніку ў сіценскай бібліятэцы няпоўны Збор твораў Леніна, Маркса, рэшткі фундамэнтальных савецкіх сэрыяў накшталт «ЖЗЛ» ды «Замежная літаратура», «Васёк Трубачоў», «Паўка Карчагін»… Беларуская літаратура захоўваецца крыху лепей (пэўна, у прыбіральні чытаецца тугавата) – Крапіва, Чорны, Караткевіч. Ёсьць нават «Таямніцы полацкай гісторыі» Ўладзімера Арлова.

Але ўсё гэта – тоўшчай на дальніх пыльных паліцах. На самым бачным месцы (там, дзе раней быў чырвоны куток), вокладкамі навонкі, быццам піраміда чакалядак ці кансэрваў у сельпо – «Дзяржаўная ідэалёгія». Тут, натуральна, ніякіх табе сяброў СБП. Афіцыйная біяграфія Аляксандра Рыгоравіча, глянцавы агітпроп «Мы – беларусы», тлумныя тамы пра інтэграцыю з Расеяй. Калі бярэш у

рукі які-небудзь з гэтых нарожных камянёў сучаснай, так бы мовіць, нацыянальнай дзяржаўнасьці – Людміла Пятроўна войкае й сумятліва бяжыць папраўляць, каб піраміда раптам ня рухнула. «А газэтныя падшыўкі ёсьць?» – пытаюся. «Канечне», – выкладвае бібліятэкарка «Советскую Белоруссию» і тутэйшы «Полацкі весьнік». Зьвяртаю ўвагу, што раёнка месцамі папсаваная. «А, гэта з райвыканкаму загадалі сьпісы ўчастковых камісіяў з усіх мінулых выбараў выразаць і ім адправіць». Ага. Вось, значыцца, як.

Вяскоўцы наведваюцца ў сіценскую бібліятэку параўнальна часта (апроч «Первого канала», «максімкі» й суботніх танцаў зь дзяжурнай бойкай забаваў тут небагата) – штодня чалавек па пяць-сем. Першае, што пытаюцца – дэтэктывы. Маецца на ўвазе pulp fiction данцовых-варанцовых – «Фінал краба» таварыша Чаргінца браць чамусьці ня хочуць. Інжынэры ды майстры просяць адмысловую літаратуру, прысьвечаную лясной гаспадарцы. Астатняе бяруць гады ў рады.

Гісторык Андрэй Катлярчук напісаў мне, што яшчэ ў XVII–XVIII ст. у беларускіх вясковых бібліятэках можна было трапіць на цудоўныя зборы замежнай літаратуры на некалькіх мовах. На пачатку III тысячагодзьдзя бібліятэка ў родных краях Эўфрасіньні Полацкай, Францыска Скарыны, Сімяона Полацкага ня мае ані Бібліі, ані слоўнікаў, ані Інтэрнэту. Затое зь перадавіцы «Саўбелкі» ў падшыўцы ганарыста пазірае «дыямэнт» Нацыянальнай Бібліятэкі – агромністая спаруда, напханая камуністычным ды расейскамоўным чытвом, куды людзі заходзяць хіба што падзівіцца на грандыёзныя перакрыцьці са шкла ды бэтону. Паводле сьведчаньня наведнікаў, амаль пустая. А чаму б не паставіць у тых беларускіх бібліятэках, куды людзі ўсё яшчэ ходзяць, хаця б па адным кампутары, падлучаным да Інтэрнэту, – і плату за карыстаньне пускаць на набыцьцё новых кніг?.. Апроч іншых выгодаў – электронныя тэксты прынамсі не прападуць у чорнай дзіры.

Уладзімер Арлоў прывёз у Сітна колькі кніг зь бібліятэкі Саюзу пісьменьнікаў, наваполацкая літаратарка Ірына Жарнасек – каталіцкія часопісы, «Бацькаўшчына» пераправіла сэрыю кніжак са свайго выдавецтва. Дамовіліся, што перадам у школу падчас месячніка беларускай культуры, ладжанага мясцовай суполкай ТБМ. Падрыхтаваў каля сотні тамоў хрысьціянскае й беларускае літаратуры са сваіх або падараваных кніг і для Людмілы Пятроўны. Адзінае, трэба яе будзе папярэдзіць, каб не выдавала дахаты.

Якую ролю выконваюць цяпер вясковыя бібліятэкі ў Беларусі? Бясплатнага складу туалетнай паперы? Мясцовага інфармацыйнага

цэнтру артадаксальнага марксізму й ваяўнічага атэізму? Установы, якая дапамагае жыхарам забіваць час?..

Занядбаньнем Бібліятэкі, непавагай да кнігі й увогуле сваёй хлусьнёй дзяржава культывуе недавер і нават грэблівасьць да друкаванага слова. Людзі ня вераць кнігам (аказваецца, Ленін – такая ж фантастыка, як і Гары Потэр), ня вераць газэтам, ня вераць указам ды дырэктывам. А непавага да напісанага чорным па белым, у сваю чаргу, разбурае падмуркі самой дзяржавы. Культуру. Адукацыю. Закон. Тое, што нашчадкі Скарыны на ягонай радзіме падціраюцца друкамі, насамрэч сьведчыць пра руйнаваньне 500-гадовай цывілізацыі.

Дзе-небудзь у Пакістане ці Інданэзіі знаходка вырваных старонак з Карану адразу выклікае шматтысячныя маніфэстацыі пратэсту. А ў Малым Сітне на нашае з майстрыцай пытаньне: хто скарыстаў прынесеную эвангелісткамі кніжку з цытатамі зь Бібліі?! – работнікі абыякава цепаюць плячыма: тае бяды…

Адной з надзённых задачаў новай улады ў Беларусі будзе паўсюдная адбудова, упарадкаваньне й мадэрнізацыя бібліятэк і напаўненьне іх хрысьціянскай, патрыятычнай, беларускамоўнай літаратурай.

Новай Беларусі давядзецца пачынаць з таго ж, з чаго паўтысячы гадоў таму пачынаў палачанін Скарына. З Кнігі кніг. Зь бібліятэк Бібліі.

Бо на пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам, як напісана ў Эвангельлі паводле Яна 1:1.

Бібліятэка любое эўрапейскае нацыі вам пацьвердзіць, што менавіта з гэтага Слова пачынаецца нацыянальнае абуджэньне.

в.Малое Сітна

## Знайсьці мужыка

У Малым Сітне асабліва ясна разумееш, чаму Лукашэнка просіць падтрымкі ў жэншчын. Справа ня ў тым, што жанчыны складаюць большасьць насельніцтва Беларусі. І нават ня ў тым, што ў асноўным яны галасуюць за таго, паводле вызначэньня папулярнай савецкай песенькі, сапраўднага мужчыну, які гуляе ў хакей. Рэч у тым, што ўласна мужчыны ў нас у краіне – ужо даўно вялізны дэфіцыт.У Малым Сітне асабліва ясна разумееш, чаму Лукашэнка просіць падтрымкі ў жэншчын. Справа ня ў тым, што жанчыны складаюць большасьць насельніцтва Беларусі. І нават ня ў тым, што ў асноўным яны галасуюць за таго, паводле вызначэньня папулярнай савецкай песенькі, сапраўднага мужчыну, які гуляе ў хакей. Рэч у тым, што ўласна мужчыны ў нас у краіне – ужо даўно вялізны дэфіцыт.

Здавалася б, дзе яшчэ шукаць у Беларусі «мужоў моцных», як не на радзіме Ўсяслава Чарадзея, Андрэя Полацкага й Францыска Скарыны, у вёсцы, лясным ды азёрным краі паляўнічых, рыбаловаў і змагароў за волю? Калі ўжо ня рыцараў ці джэнтэльмэнаў – дык хацяб проста нармалёвых мужыкоў?

Але на сіценскіх мужыкоў глядзець шкада. Што й казаць, калі нават у поўных сем’ях тут жонка піша заяву на алімэнты, каб спагнаць з мужавага заробку з дапамогай участковага прынамсі нейкую суму?.. Калі ісьці на выбары супраць старшыні сельсавету ў Сітне (дарэчы, таксама жанчыны) пагадзіліся адны жанчыны? Калі з п’янкамі, злоўжываньнямі й крадзяжом лесу ў прамгасе змагаецца хіба што выпускніца вучэльні майстрыца Вікторыя Віктараўна (мужчыны з такой працы проста зьбягаюць)? Калі нават у ТБМ ды МФ тут запісваюцца дзяўчаты, а хлопцы сарамліва аднекваюцца: «Я ў палітыку ня лезу»?

Пэўна, толькі гены Эўфрасіньні ды Зінаіды Туснаобавай-Марчанкі, што ў апошнюю вайну вынесла з поля бою сотні параненых, а сама засталася бяз рук і ног, ратуюць Полаччыну… Ды ці яе адну? «Грубая мужчынская праўда» заключаецца ў тым, што жанчыны вымушаныя працаваць на эстакадзе, узворваць палеткі, калоць дровы, браць на сябе ўсю адказнасьць за сям’ю й лёс цэлых вёсак. І, як той казаў, ані табе сьлёз, ані сантымэнтаў.

Узгадваю размову з адным баўгарынам, які прыяжджаў сюды дзеля абмену досьведам у справе «аксамітных рэвалюцыяў» – у свой час ён быў актыўным удзельнікам вулічных выступаў, што зрынулі спачатку камуністаў, а затым і іхніх спадкаемцаў – сацыялістаў. «Праглядаў запісы ўсіх вашых апошніх дэманстрацыяў, – казаў мне

ён, – і нічога не разумею. Чаму ў вас наперадзе заўсёды ідуць дзеці? У нас студэнтаў, а тым больш школьнікаў запіхвалі паглыбей у калёну – тут жа справа сур'ёзная. Тое самае ў грузінаў, азэрбайджанцаў, сэрбаў… Увогуле, дзе вашыя мужыкі?

І праўда: увогуле, дзе нашыя мужыкі?

Мужчынскія ўчынкі ў сёньняшняй Беларусі – зьява настолькі рэдкая, што кідаецца ў вочы. Вось Аляксандар Казулін галадуе больш за месяц. Вось Аляксандар Мілінкевіч, запісаны ў інцыятыўныя групы больш як 200 апазыцыйных кандыдатаў, езьдзіць па ўсёй краіне й добрасумленна зьбірае подпісы. Вось Мірон уздымае чарговы бел-чырвона-белы сьцяг па-над Віцебскам. Маладафронтаўцы, у якіх перасаджалі ўсіх лідэраў, пад пагрозай 193 артыкулу Крымінальнага кодэксу працягваюць акцыі пратэсту й выходзяць на плошчу.

Беларусь краіна хрысьціянская, і таму патрыярхальная. Мужчына – кармілец і абаронца, апірышча сям'і й лідэр грамадзтва. Калі цяперашнія мужыкі не адчуваюць роднае зямлі пад нагамі й Госпада Бога па-над сабой, сьпіваюцца, губляюць волю й гонар, ператвараюцца ў мэблю ва ўласнай хаце – гэта разбурае і сям'ю, і працу, і нацыю.

Беларусі наканавана трымацца на моцных мужчынах. Бо «жонцы галава муж» і «кожнаму мужу галава – Хрыстос» (Да Карынцянаў 11:3).

На жанчынах Беларусі ня выцягнуць. Горы работы й нетры занядбанага багацьця, вяршыні творчасьці й далягляды духу, вуліцы й начныя дахі чакаюць сапраўдных беларускіх мужчынаў.

Мужыкі! Досыць сьпівацца, лайдачыць і хавацца па кухнях. Пад'ём!

Гэта нашая рызыкоўная, руплівая, цяжкая мужчынская справа – нацыянальнае абуджэньне.

## Інтэрнат

Здалёк сіценскі інтэрнат нагадвае вялікую вясковую хату: доўгі драўляны барак з двума ўваходамі, па дзесяць вокнаў з кожнага боку. Збудаваны ў 1961-м, у год палёту Гагарына й хрушчоўскай грашовай рэформы, сьпярша ён прызначаўся для прыежджых работнікаў леспрамгасу; пазьней, за Машэравым, сюды пачалі засяляць «хімікаў».Здалёк сіценскі інтэрнат нагадвае вялікую вясковую хату: доўгі драўляны барак з двума ўваходамі, па дзесяць вокнаў з кожнага боку. Збудаваны ў 1961-м, у год палёту Гагарына й хрушчоўскай грашовай рэформы, сьпярша ён прызначаўся для прыежджых работнікаў леспрамгасу; пазьней, за Машэравым, сюды пачалі засяляць «хімікаў». Першы за 45 гадоў рамонт зрабілі толькі летась – надалі цывільны выгляд некалькім «хімічным» пакоям акурат перад маім прыездам – а начальства з аб'яднаньня, напалоханае чуткамі пра візыт нейкага важнага зэка зь Менску, завезла сюды раскошныя ложкі з уласнай мэблевай фабрыкі.

У нашай частцы інтэрнату чатыры пакоі. У адным жывуць майстрыца з мужам, у іншых двох – «хімікі», і адзін пакой зарэзэрваваны за міліцыянтамі, якія падчас падзеяў у Менску наладжваюць тут «ганаровую варту». Увогуле, міліцыянты – участковы, супрацоўнікі полацкага райаддзелу або ветрынскае спэцкамэндатуры – завітваюць у інтэрнат рэгулярна. Прычынаю таму, апроч менскіх, віцебскіх і замежных гасьцей, – нефармальны статус інтэрнату як тутэйшае «маліны». Вясковыя алькаголікі, беглыя «хімікі» й асобы бяз вызначанага месца жыхарства штовечар цягнуцца сюды, бо тут можна каўтнуць «максімкі» пад блатны шансон, (радзей) закусіць і нават, калі пашэнціць, пераначаваць на адным ложку зь якой-небудзь сіценскай прынцэсай.

Паколькі санвузел у інтэрнаце не прадугледжаны, шматлікія «госьці» нападпітку, як іх не выхоўвай, спраўляюць малую патрэбу проста з ганку або пад вокнамі (добра, што па вялікай хаця б адыходзяць за плот).

Узгадваю інтэрнаты, дзе даводзілася жыць раней. Рабочы ў Барані, пад Воршай, дзе бацькі з трыма дзецьмі туліліся ў адным пакойчыку. «Алімпіядныя» ў Наваполацку й Менску, дзе школьная эліта – выдатнікі! – дапаўшы да волі, жлукціла гарэлку й зацягвала пад гітару мацерныя песенькі. Студэнцкі на праспэкце Машэрава (калі ў ім у 70-х гадох мінулага стагодзьдзя жылі бацькі, гэта была яшчэ Паркавая; цяпер, калі жывуць нашыя наступнікі – Пераможцаў), дзе «аўганцы» увесь час біліся зь «юрыстамі», а потым

прыяжджалі «географы» й укладвалі на падлогу ўсіх без разбору, улучна з камэндантам; дзе курсанты Акадэміі міліцыі ўначы трэніраваліся выносіць дзьверы, і калі ў пакоі аказваліся хлопцы – яны мусілі за свае грошы бегчы па гарэлку ў бліжэйшы «начнік», а калі дзяўчаты – піць ды гуляць да раніцы з будучымі ахоўнікамі правапарадку.

Узгадваю і думаю, што па-іншаму, пэўна, у інтэрнаце і не бывае. Не свая ж хата, у рэшце рэшт.

Каля паўмільёну насельнікаў Беларусі дагэтуль жыве ў інтэрнатах. А калі дадаць яшчэ й тых, хто здымае пакоі або кватэры… Тых, хто займае дзяржаўныя «квадратныя мэтры»… Дзясяткі тысячаў беларусаў усё сваё жыцьцё ад народзінаў да сьмерці пражываюць вось так, паміж агульнай кухняй і пропускам на вахце. Адсутнасьць уласнага дому – прычына многіх дзівосаў псыхалёгіі. Тыповыя насельнікі інтэрнату і да жыцьця ставяцца як да чарговага жытла, у якім пасьля іх застанецца хіба што пыл за спружынным ложкам ды пара пустых бутэлек.

Ды й сама цяперашняя Беларусь пасярод Эўропы штогод усё больш нагадвае сіценскі інтэрнат: вакол свойскія хаты, сады ды гароды, а тут – камуналка, камэндант замест гаспадара, праблемы, скандалы, міліцыя, і наведнікі – то які-небудзь мясцовы Іран, то тутэйшая Вэнэсуэла.

Апошні барак сацлягеру, кажучы моваю застою.

Ва ўсёй Эўропе ўласны дом – прадмет асаблівага гонару; у сучаснай жа Беларусі – найперш прадмет падазрэньняў (пачынаючы ад катэджаў за акружной дарогай і да дому Домаша). «Жыльёвае пытаньне» ў нас працягвае па-савецку разбураць, а не будаваць людзей.

Вось жыхарам беларускага інтэрнату Брусэль прапануе эўрарамонт. Гатовы зрабіць з бараку гатэль. Адно некалькі ўмоваў – прыбірацца ў хаце, не буяніць, перастаць хадзіць па патрэбе пад вокны – словам, паводзіць сябе, у эўрапейскім разуменьні, як дома. Ды для завадатараў сіценскага інтэрнацкага «парадку» і для цяперашняга рэжыму значна цікавейшае пытаньне – а ці будзе ў гэты гатэль, так сказаць, у належных аб'ёмах дастаўляцца з Расеі гаручае?..

І ўсё ж беларусы, якія ўжо даўно абжылі інтэрнат, ня хочуць заставацца жыць у інтэрнаце.

Беларусі патрэбен Дом.

А падмурак для ўтульнага Дома на дзесяць мільёнаў чалавек у цэнтры Эўропы – гэта нацыянальнае абуджэньне.

## Доўгая дарога да храму

Каб жыхар Малога Сітна мог наведаць набажэнства, патрэбны цэлы дзень – да Полацку паўсотні кілямэтраў, а транспарт ходзіць рэдка. Трапіць на пачатак служэньня ў некаторых храмах можна толькі калі заначаваць у горадзе. Пытаюся ў старшыні сельсавету, чаму б не пабудаваць царкву, касьцёл або малітоўны дом у Сітне. «У нас туды ніхто ня пойдзе, – заяўляе мясцовая ўлада, – там жа трэба непітушчыя, сямейныя, гаспадары».Каб жыхар Малога Сітна мог наведаць набажэнства, патрэбны цэлы дзень – да Полацку паўсотні кілямэтраў, а транспарт ходзіць рэдка. Трапіць на пачатак служэньня ў некаторых храмах можна толькі калі заначаваць у горадзе. Пытаюся ў старшыні сельсавету, чаму б не пабудаваць царкву, касьцёл або малітоўны дом у Сітне. «У нас туды ніхто ня пойдзе, – заяўляе мясцовая ўлада, – там жа трэба непітушчыя, сямейныя, гаспадары».

Лёгіка жалезабэтонная. Грэшнікі – нашто ім царква? Быцие апрэдзяляет сазнаніе. Памірай, роднае Сітна, у сваім бязбожжы. А храм пабудаваць… Гэта ж грошы, ды клопат, а ў выніку – штонядзелю на споведзь.

Галіна Дзьмітрыеўна, якая адмаўляе сіценцам у праве жыць па-хрысьціянску, тлумачыць сваю пазыцыю прынцыпамі рынкавага сацыялізму: маўляў, няма на веру попыту. Менгарвыканкам у справе з царквой «Новае жыцьцё» ідзе далей. Попыт там відавочна ёсьць, дый малітоўны дом вернікі збудавалі самі. Але рашэньне – выселіць! – ужо нават не тлумачыцца якімі-небудзь праўдападобнымі аргумэнтамі. Цяпер вось Горадня. Тысячы парафіянаў ужо які год чакаюць дазволу на будаўніцтва касьцёлу, а абласное начальства ні з пушчы, ні з поля ксяндзу ў лоб: ваша паства вас абкрадае… Тутсама 5 гадоў таму зацята цкавалі беларускага праваслаўнага бацюшку Яна Спасюка, а царкву, ім зладжаную, зносілі бульдозэрамі.

Бачыш гэтыя чыноўніцкія, заплылыя тлушчам, вочкі, гэтыя трэція-чацьвертыя падбародзьдзі – і літаральна чуеш буркатаньне вялізнага страўніка. Калі вернікі будуюць са свайго цела, паводле Бібліі, храм Духа Сьвятога – дык што за спаруды грувасьцяць са сваіх тулаваў гэтыя дойліды? Не жывуць, а спажываюць. Нашто ім храм? Нашто ім Бог?.. Глядзіш на зубадрабільныя выразы твараў адкормленае бюракратыі – і разумееш, чаму адказам на гэтае застойнае атупеньне ёсьць масавае адмаўленьне ад ежы.

Шматлюдныя галадоўкі пасьля вясны-2006, пачатыя маладафронтаўцамі, падхопленыя незалежнымі прафсаюзамі, разгорнутыя пратэстантамі, каталікамі й партыйцамі, – гэта яшчэ й пратэст супраць

сытай абыякавасьці ўсяго грамадзтва, што гатовае трываць рэжым дзеля «стабільнасьці» й адноснага дабрабыту. Галадоўнікі рыхтуюць усе 10 мільёнаў беларусаў да голаду без эўрапейскіх прэфэрэнцыяў і холаду без расейскага газу. Гэта – своеасаблівы нацыянальны пост, які новы беларускі рух трымае перад пакаяньнем усяго народу.

Так, усе падзеі найноўшай беларускай гісторыі маюць свой духоўны зьмест. Як і знакаміты біблійны выхад з эгіпецкага рабства быў толькі пачаткам шляху да зямлі абяцанай, так і беларускі рух за свабоду мусіць прайсьці праз устрыманьні, пакуты й выпрабаваньні.

Доўгая беларуская дарога да храму – гэта ўсё тое ж блуканьне ў пустыні. Галадаваньне. Смага. Трываньне. Пакланеньне чужым багам і бясконцае выяўленьне, хто тут галоўны. Сутычкі з супраціўнікамі. Страх. Пакаяньне. І ўсё-такі, урэшце – новая краіна.

Доўга, доўга атрымліваецца. Але іншага шляху ў нас, як і ў габрэяў часоў Майсея, няма. У Беларусі, паводле сьведчаньня Васіля Быкава, доўгая дарога дадому.

Мы ўсё чакаем, пакуль Расея падвысіць кошт на газ, і люд нешта зразумее. Мы спадзяемся, што эўрапейскія санкцыі прымусяць прыхільнікаў Лукашэнкі думаць інакш. Мы марым, каб Захад або Усход чароўна наблізілі нас да храму Новае Беларусі: раз – і мы пры дзьвярох… Але сваю дарогу да храму кожны чалавек і кожны народ мусіць прайсьці самастойна. Гэта справа нашага сумленьня й нашае веры – адолець адлегласьць і целам, і душою, і духам.

О, як далёка нам яшчэ да Беларусі?

Можна пачакаць.

А можна рушыць.

Парадаксальна – але тыя, хто не выходзіў з былога кароўніка ў Сухараве, і тыя, хто галадаваў разам з ксяндзом Аляксандрам Шэметам ў гарадзенскай капліцы, дабраліся далей, чым зборшчыкі подпісаў на мясцовых выбарах, што абыходзілі сотні кватэраў. Хрысьціяне перамаглі – бо ішлі духовым шляхам. Наўпрост. Малітва, вера, пост у сёньняшняй Беларусі даюць эфэкт куды большы, чым грошы, рэйтынг альбо піяр.

Пакуль апазыцыя без асаблівага энтузіязму выходжвае чарговую кампанію ды замірае ў прадчуваньні чарговага кангрэсу – беларускія хрысьціяне ствараюць сапраўдны фронт змаганьня, быццам фартэцыі, адстойваючы й будучы храмы.

Так у цэнтар грамадзкага жыцьця ў Беларусі зноў вяртаецца храм. Ня газавая труба, ня гіпэрмаркет і не партыйны офіс – хрысьціянская сьвятыня, якая тысячу гадоў была сэрцам гэтае краіны.

Асноваю новай альтэрнатывы – ідэйнай, грамадзкай, палітычнай – у Беларусі робяцца, як і належыць, хрысьціяне. Тыя, хто ідзе да храму, вядуць усю краіну да нацыянальнага абуджэньня.

## Дом ля пагосту

Маласіценскі сельскі савет стаіць на ўскрайку могілак. З вокнаў відаць хіба што зарослыя стогадовымі хвоямі ўзгор'і, дзе ляглі ў зямлю пакаленьні вяскоўцаў. Насупраць уваходу — стандартны савецкі абэліск над брацкім пахаваньнем часоў другое сусьветнай вайны. Раней там стаяла царква, разабраная на бліндажы ў 1943-м.Маласіценскі сельскі савет стаіць на ўскрайку могілак. З вокнаў відаць хіба што зарослыя стогадовымі хвоямі ўзгор'і, дзе ляглі ў зямлю пакаленьні вяскоўцаў. Насупраць уваходу — стандартны савецкі абэліск над брацкім пахаваньнем часоў другое сусьветнай вайны. Раней там стаяла царква, разабраная на бліндажы ў 1943-м.

Цяпер жа вакол галоўнага на бліжэйшыя тысячу квадратных кілямэтраў дому — магільная ціша. Цагляныя сьцены з арнамэнтам па пэрымэтры, музэйнага выгляду чырвоныя шыльды, а наверсе, як, памятаю, жартаваў у пачатку 1980-х бацька, самотна матляецца загадка: «зімой і летам адным цьветам (гэта сьцяг над сельсаветам)».

Адчуваньне пакінутасьці ўзмацняе і тое, што ў вокнах амаль ніколі няма сьвятла. Нехта зь сельскага выканкаму забяжыць удзень, старшыня пасядзіць гадзінку-другую... Наведнікі заходзяць вельмі рэдка — няма сэнсу. Паказальны фурор, які зрабіла нядаўняя поўная, ва ўсе восем вокнаў, вечаровая ілюмінацыя сельсавету. Рэакцыя сіценцаў была такой, быццам у цэнтры вёскі раптам адкрыўся «Дыснэйлэнд». «Што за сьвята?!» — «Ды выбары ж хутка, сядзяць, нешта хімічаць» — «А-а-а... выбары...»

У гэтым месцы гутарка звычайна абрываецца, і вяскоўцы губляюць усякую ахвоту яе працягваць. А ці можа быць інакш, калі кандыдатаў у той сельсавет тут ніколі не вылучалі, альтэрнатыўнага галасаваньня ніколі не было. А на апошніх «выбарах» дзясяткі сіценцаў, што пазначылі ў бюлетэнях Мілінкевіча, хадзілі й перапытвалі: а дзе нашыя галасы? Калі ад любое патрэбы вяскоўцаў сельсавет адхрышчваецца — «няма грошай»? Калі першым і адзіным абаронцам сельсавету ў вёсцы аказалася старшыня гэтага самага сельсавету?..

«Ага, купілі ў савет машыну. Дык толькі старшыня на ёй па сваіх справах езьдзіць». «А колькі ў іх, сельсавецкага начальства, дома кампутараў ды бытавой тэхнікі, бачыў?!» «Максімкі» або брагі — на кожным рагу, сьпіваецца вёска!» «Ліхтароў па вёсцы няма, памыйкі паўсюль, ніхто не штрафуе!» «Агульныя студні нячышчаныя стаяць, а грошы на гэта зьбіралі!»

Вяскоўцы ня ведаюць, што, паводле Закону аб мясцовым самакіраваньні, сельсавет:

— распараджаецца землямі, нетрамі, водамі, лясамі, паляўнічымі й рыбалоўнымі ўгодзьдзямі, а таксама камунальнай уласнасьцю адпаведнай адміністрацыйнай адзінкі;

— атрымлівае ўвесь падаходны падатак, які сплачваюць на ягонай тэрыторыі фізычныя асобы;

— уводзіць мясцовыя падаткі, зборы й мыты, зьбірае штрафы;

— стварае пазабюджэтныя, рэзэрвовыя й валютныя фонды;

— разьмяркоўвае, паводле ўласнага разуменьня, рэшту, якая застаецца пасьля выкананьня бюджэту…

Вядома, у большасьці выпадкаў на ажыцьцяўленьне ўсіх гэтых паўнамоцтваў сельсавет мусіць атрымаць «дабро» з раёну. Але нават і пры гэтай вэртыкальна-каманднай сыстэме здольны гаспадар, як павялося з савецкіх часоў, «выбівае» з райвыканкаму ўсё, што трэба.

Аднаго падаходнага падатку з рабочых лесапрамгасу штомесяц атрымліваецца 2–2,55 тысячы даляраў! А яшчэ ж на тэрыторыі сельсавету некалькі лясьніцтваў. Чыгунка. Крамы. Пошта…

І дзе грошы, як той казаў?!

Сярод двух дзясяткаў вяскоўцаў, апытаных перад кампаніяй «мясцовых выбараў», жаданьне адкрыта выступіць супраць «максімкі», разьбітых дарогаў, паўсюдных сьметнікаў і гідры карупцыі выказалі сямёра.

Загадчыца гаспадаркі вясковага дзіцячага садка адмовілася пасьля гутаркі са сваячкай, у якой у 30-х гадох XX ст. рэпрэсавалі бацьку. Фэрмэр з бліжэйшага хутару думаў тры тыдні, урэшце спаслаўся на ўзрост і сказаў «пас». Былы «аўганец», калі дайшло да афармленьня дакумэнтаў, ня змог знайсьці ўласнага пашпарту.

Але тыя, хто дайшоў да рэгістрацыі, паводзінамі сельсавету былі шакаваныя. Кандыдатаў ад народу ў выбарчай камісіі сустрэлі… ухвальнымі вітаньнямі й гарачай гарбатай. «Вось-вось, менавіта вас мы й хацелі прапанаваць!»

Сельсавет у апошні момант зьняў сваіх вылучэнцаў у Малым Сітне й Алёшчы па тых акругах, дзе зьбіраліся ісьці народныя ад лесапрамгасу, чыгуначнай станцыі й сіценскай школы — і пачаў актыўна «акучваць» апошніх. Савецкая ўлада ўхілілася ад адкрытага супрацьстаяньня й зрабіла стаўку на перацягваньне апазыцыі.

Дзе ж рэвалюцыйны запал нашчадкаў бальшавікоў? Дзе спаборніцтва, прадугледжанае сыстэмай волевыяўленьня? Дзе тая падаўляючая сіла намэнклятуры, калі кавалак улады аддаецца бяз бою «чужым», якія толькі праявілі жаданьне?

Шкада толькі — тых ахвотнікаў аказалася замала, каб узяць у сельсавеце большасьць.

Праўда, старшыню дэпутаты ў нас выбіраюць толькі па прадстаўленьні райвыканкаму і ў выпадку, калі не прагаласуюць, сельсавет распускаецца — але паводзіны нізавое намэнклятуры ох якія паказальныя.

Савецкая ўлада ў вёсцы адмірае, гэта факт. Для Галіны Дзьмітрыеўны пытаньне ўжо ня ў тым, каб трымаць пад кантролем наваколле, а ў тым, як дасядзець да пэнсіі.

Дом ля пагосту нагадвае сядзібу з прывідамі. Улада быццам бы ёсьць, а быццам і няма, і старшыня сельсавету дама ў чорным — пэрсанаж амаль легендарны: у хатах яе бачаць раз на некалькі гадоў, калі перад чарговымі «выбарамі» надыходзіць час зьбіраць у бабулек подпісы за Лукашэнку.

Дом ля пагосту паціху асядае й растрэскваецца. Так і ўяўляецца праз тыя чатыры гады каробка з пустымі вокнамі на ўзор «вымяральніцкага» інтэрнату, а потым і руіны, што паволі пераходзяць у магілкі.

Беларусі не патрэбны мёртвы сельсавет з прывіднай уладай і сцэнамі маўчаньня ў чаканьні рэвізора з вобласьці. Савецкая ўлада зрабілася рытуальнай. Беларусь памірае без жывога мясцовага самакіраваньня — са сходамі й дэбатамі, тэндэрамі й сапраўднымі выбарамі.

Беларусі патрэбная не стабільная магільная ціша, а нацыянальнае абуджэньне.

## Сьвята нараджэньня сьвятла

Двойчы на Каляды — перад каталіцкім Раством і на Новы год — у Алешчу прыяжджае рэтра-цягнік зь Менску. Адмыслова да яго прыбыцьця на плятформе чыгуначнай станцыі ставяць вялізную елку, увешаную гірляндамі, і гукаўзмацняльную апаратуру. Цягнік на пяць вагонаў, ахайнейшы за звычайны, спыняецца ля елкі ды стаіць цэлую ноч пад гукі дыскатэкі.Двойчы на Каляды — перад каталіцкім Раством і на Новы год — у Алешчу прыяжджае рэтра-цягнік зь Менску. Адмыслова да яго прыбыцьця на плятформе чыгуначнай станцыі ставяць вялізную елку, увешаную гірляндамі, і гукаўзмацняльную апаратуру. Цягнік на пяць вагонаў, ахайнейшы за звычайны, спыняецца ля елкі ды стаіць цэлую ноч пад гукі дыскатэкі. Люксовыя купэ з тэлевізарамі. Мора гарэлкі й прысмакаў. Масавік-зацейнік зь мікрафонам… Алешча — самая паўночная станцыя Беларускай чыгункі, і камэрцыйныя туры на зімовыя сьвяты ладзяцца чыгуначнікамі пад тым соўсам, што якраз тут, на нашай Поўначы, жыве беларускі Дзед Мароз (прывезены разам са Сьнягуркай, ён робіць выгляд, што выходзіць з алешчынскага лесу). І хаця БТ ужо даўно раскручвае Дзеда Мароза зь Белавескае пушчы, ягоны чыгуначны канкурэнт перасяляцца з хлебнага месца нікуды не зьбіраецца.

Менскія госьці бяруць з сабою дзяцей, водзяць карагод вакол елкі, п’юць «Савецкае шампанскае» з гарла, гуляюць ноч і перад першым дызэлем з «максімкай» адбываюць дахаты. Алешчынцы й сіценцы вось ужо каторы год падцягваюцца на 25 ды 31 сьнежня сюды. Паглядзець. Зьбіраюцца на эстакадзе — адтуль добра відаць асьветленыя купэ й вагні вялікай елкі. Асабліва сьмелыя падыходзяць да плятформы й нават робяць спробу забрацца ў вагон-рэстаран. Зухаў выстаўляюць, і тыя вяртаюцца на эстакаду, каб пахваліцца, хто што бачыў і хто што пасьпеў сьперці.

Іншых відовішчаў зімовай парою ў вяскоўцаў няма. І Каляды, і Новы год ад іншых выходных адрозьніваецца хіба што большай, чым звычайна, колькасьцю выпіўкі й моцаю дэбошаў. Са сьвятамі тут віншуюць міліцыя ды «хуткая дапамога». Дый елку ў хаце мала хто ставіць: яловыя галінкі на эстакадзе — самае дакучлівае сьмецьце, а ў лесе кожны сукаруб кляне «ёлкі-палкі» за найбольшую гушчыню галінаў.

Увогуле, што адзначаюць беларусы з 25 сьнежня да 7 студзеня штогод — вялікае пытаньне. Зьмену нумару году? Безаблічнае Раждзяство?.. А што, да прыкладу, сьвяткуе галоўны дзяржаўны

ідэоляг таварыш Рубінаў, які днямі выдаў-такі ваенную тайну: рэлігія — опіюм для народу? Няўжо, як піша Лёлік Ушкін, і праўда — дзень нараджэньня СССР 30 сьнежня ды дзень абвяшчэньня БССР 1 студзеня?.. І няўжо багата люду будзе адзначаць Новы год паводле рубінавых зорак?..

Калі запытаць вяскоўцаў — дык што, урэшце, сьвяткуем на Каляды насамрэч? — тыя пацепнуць плячыма: «Ціпа... ну дзень жа прыбаўляецца!» Для іх Раство — проста сьвята нараджэньня сьвятла.

У Эвангельлі напісана якраз пра гэта. «Было Сьвятло сапраўднае, Якое прасьвятляе кожнага чалавека, што прыходзіць у сьвет. У сьвеце было, і сьвет праз Яго пачаў быць, і сьвет Яго не пазнаў» (Яна 1:9-10).

За елкамі, чакалядкамі, мандарынамі й санта-клаўсамі неяк згубілася, што дзьве тысячы гадоў таму на сьвет нарадзіўся Збаўца чалавецтва, Ісус Хрыстос.

Ёсьць глыбокі сэнс у тым, што нараджэньне Сына Божага адбылося ў самую цёмную зімовую ноч сярод галечы й холаду. У тым, што пасьля гэтага сьвята пачынаецца Новы год. Што якраз у гэтую пару чалавек падрахоўвае вынікі году мінулага й зазірае ў будучыню.

Для беларусаў у 2006-ым нарадзіўся сьветлы агменьчык Свабоды, Праўды й Справядлівасьці.

Хтосьці скажа: надта ж слабы агеньчык... Але Сын Чалавечы гэтаксама прыйшоў у сьвет слабым, безабаронным немаўлём.

Хтосьці скажа: ат, пастаялі на плошчы дзеці, АМАП іх расьпіхаў па аўтазаках, а потым з вучобы павыкідвалі, ды на эміграцыю. Але, каб спыніць прыйсьце Ісуса, улады таксама зьбівалі дзетак, а сьвятая сям’я мусіла ўцякаць у Эгіпет.

Хтосьці скажа: што ж яны ўсё церпяць, адно галадаюць ды лямантуюць?.. Але і наш Госпад скрозь увесь Свой зямны шлях цярпеў, пасьціў ды нёс людзям Слова.

І перамог на крыжы.

І ўваскрос, пакінуўшы людзям белую з чырваньню палатніну.

І павёў за Сабою пад гэтым сьцягам мільярды вернікаў.

Таму галоўная надзея для беларусаў у Новым годзе — не ў адмене эўрапейскіх прэфэрэнцыяў, ня ў рынкавых цэнах на расейскі газ і нават не ў Кангрэсе дэмакратычных сілаў. Галоўная наша надзея — у той падзеі, якую каталікі й пратэстанты сьвяткуюць 25 сьнежня, а праваслаўныя — 7 студзеня, і якая засталася ў смутнай памяці жыхароў Алешчы й Малога Сітна як Дзень нараджэньня сьвятла .

Нараджэньне Сьвятла — сымбаль і прадвесьце нашага нацыянальнага абуджэньня. Мы верым, можам і пераможам — бо Хрыстос нарадзіўся!

## Галоўны энэрганосьбіт

Сярэдзіна студзеня, а ў Сітне, на нашай крайняй Поўначы, зацьвітаюць «коцікі», пускаюць лісьце часнык ды рэдзька. Ніхто са старажылаў ці лесавікоў не прыгадае гэткай мяккай зімы. Зімы тым больш дзівоснай, што менавіта ў гэты самы час краіна стаяла на парозе татальнага дэфіцыту энэрганосьбітаў.Бог беражэ Беларусь.

Сярэдзіна студзеня, а ў Сітне, на нашай крайняй Поўначы, зацьвітаюць «коцікі», пускаюць лісьце часнык ды рэдзька. Ніхто са старажылаў ці лесавікоў не прыгадае гэткай мяккай зімы. Зімы тым больш дзівоснай, што менавіта ў гэты самы час краіна стаяла на парозе татальнага дэфіцыту энэрганосьбітаў.

У Сітне толькі пра гэта й гаворкі. Як на ОРТ, БТ або «Свабодзе» навіны — люд з заміраньнем сэрца зьбіраецца вакол інфармацыйнай кропкі: «О, пра газ, пра нафту, ціха!..» Разнабой у камэнтарох уражвае: «Яны што там, у Маскве, зусім здурэлі?» «Яшчэ скажы дзякуй, што па 100 даляраў газ, а не па 260!» «Э-э, усё роўна ён іх з нафтай надурыць, вось паглядзіш». «Не, брат ты мой, тут ён дагуляўся… Гэта ж табе ня выбары якія, разумець трэба. Гэта — труба».

Напружанае чаканьне навінаў з усходняга фронту можна параўнаць хіба што з чаканьнем прарыву сьпіртавое блякады, якую ўлады ўсталявалі тут да мясцовых выбараў. «Максімкаправод» Вялікія Лукі — Полацак вось ужо колькі тыдняў патрулююць міліцыянты, штодня на дарогах вылоўліваюць дробных кантрабандыстаў з каністрамі, ды нават участковы прайшоўся па «кропках», аформіўшы паказальную канфіскацыю некалькіх бітонаў брагі. Бачыш вяскоўцаў, якія на вачох робяцца зьлейшымі-цьверазейшымі (цуд: з трэцяга студзеня працавалі як мае быць, а восьмага, назаўтра пасьля Раства, у брыгадзе не было аніводнага п’янога) — і прыходзіш да высновы: калі ўжо «паліва»для Сітна й Алешчы перакрыць здолелі, дык закруціць пару нафтавых вэнтыляў на мяжы з Расеяй ды Эўропай — гэта як піць даць.

Вяскоўцы разгубленыя. У кампаніі жартуюць: «Нам што, мы й дровамі пратопім!» Але напаўголасу міжсобку паныла згадваюць і тое, што ці ня ўся элекраэнэргія ў нас з газу, і тое, што бэнзін стаў даражэйшы за дзьве тысячы, і тое, што наваполацкі «Нафтан» дае 50% бюджэту Віцебскай вобласьці.

Чуеш, Паша, што там Мілінкевіч гаворыць — як жыць будзем?

Вядома, трэба выстаўляць Расеі сустрэчныя рахункі. Вядома, трэба як найхутчэй дамаўляцца з палякамі, нарвэжцамі ды Украінаю на пастаўкі з іншых краінаў. Думаць пра данецкі вугаль ды ўласныя

гаручыя сланцы на Палесьсі. Само сабою, укладаць грошы, якія пакуль шчэ ёсьць, у мадэрнізацыю энэргаёмістага сэктару, ветравую й біяэнэргетыку (у той жа Нямеччыне ветракі даюць 10% электраэнэргіі, а ў нас у Алешчы ў дні штармавога папярэджаньня ўся праца, наадварот, спыняецца). Зразумела, вучыцца эканоміць (у нас на адзінку выраблены прадукцыі энэргіі траціцца ў разы болей, чым у эўрапейскіх суседзяў). Усё гэта так.

Але.

Калі нацыя, у якой штогод дзясяткі тысячаў дзяцей гінуць ва ўлоньні маці ад абортаў, сотні тысячаў людзей сьпіваюцца, а мільёны і не зьбіраюцца каяцца за дванаццаць гадоў падтрымкі дэспатычнага рэжыму, ужо каторы месяц як галоўную праблему хорам абмяркоўвае кошты на вадкую ды газападобную арганіку — значыць, справа і праўда труба.

Калі краіну ў сэрцы Эўропы — ад прэзыдэнта да калгаснай даяркі — пачынае калаціць зь перападамі ціску ў закапанай пад зямлю жалезнай кішцы, і нацыянальны гонар ды сыход у зямлянкі, жыцьцё або сьмерць ставяцца ў залежнасьць ад мыта за транзыт — мне раптам згадваецца адна састарэлая выкладчыца філфаку БДУ. Яна пачынала знаёмства зь першакурсьнікамі з пытаньня: «Дзеці, адкажыце мне — што глаўнае ў жызьні?» І, закіданая вэрсіямі пра сяброўства, каханьне, сям’ю ды веру, дасадліва выбівала ідэалістычны пыл з галоваў будучых настаўнікаў ды пісьменьнікаў: «Не, дзеці, глаўнае ў жызьні — пішча, жылішча і адзежда».

Мне згадваецца Плошча, дзе некалькі соцень гэткіх жа першакурсьнікаў мёрзьлі чацьвёра сутак за свабоду, праўду ды справядлівасьць — і жывы генэратар, зладжаны з тынэйджэраў і палацяных намётаў, зараджаў энэргіяй мільёны беларусаў ды яшчэ паўсьвету.

Мне згадваюцца сотні галадоўнікаў-хрысьціянаў, якія пакінулі цёплыя кватэры й напоўненыя лядоўні, і самі перакрылі паступлненьне ежы ў свае харчаводы — і пры гэтым зрабілі працу, якую гадамі не ўдавалася зрушыць усяму грамадзтву.

Наймацнейшыя энэрганосьбіты тояцца ўнутры нацыі, натхнёнай верай і воляю. У сэрцах, поўных любові да Бога, бліжняга й сваёй радзімы. У галовах, занятых грандыёзнымі плянамі пераўтварэньня краіны. «У нашым сьмеху, у нашых сьлязах і ў пульсацыі вен…» Патэнцыял грамадзтва, ахопленага прагаю ўсеагульных пераменаў, паводле энэргаэфэктыўнасьці на парадак вышэйшы за мільёны тон нафты, мільярды кубоў газу, мыты й крэдыты.

У таго, хто хоча быць эўрапейцам і пры гэтым застацца матэрыялістам — крыніцай энэргіі ўсё адно будзе Расея.

Але ў беларусаў ёсьць рэсурсы куды важнейшыя за нафту й газ. Галоўная крыніца беларускіх энэрганосьбітаў — ня дзірка ў расейскай тундры, ня руля «Белтрансгазу» і ня «Дружба» з крамлёўскімі кранікамі, а нацыянальнае абуджэньне.

## Шоў беларушчыны

Днямі мне прыйшоў ліст з Полацкага райвыканкаму. Яшчэ пару месяцаў таму маласіценская суполка ТБМ прапанавала ўсталяваць на замчышчы Сітна замест савецкага надмагільля беларускую мэмарыяльную пліту й уключыць былы фарпост на мяжы з Расеяй у адзін з турыстычных маршрутаў Полаччыны.Днямі мне прыйшоў ліст з Полацкага райвыканкаму. Яшчэ пару месяцаў таму маласіценская суполка ТБМ прапанавала ўсталяваць на замчышчы Сітна замест савецкага надмагільля беларускую мэмарыяльную пліту й уключыць былы фарпост на мяжы з Расеяй у адзін з турыстычных маршрутаў Полаччыны.

«Ваша прапанова наконт усталяваньня новага памятнага знаку «Крэпасьць Сітна» заслугоўвае ўвагі й падтрымкі мясцовых уладаў, — піша ў адказе на добрай беларускай намесьнік старшыні райвыканкаму В. Машчыцкі. — Вырашана ў 2007 годзе на месцы замчышча «Малое Сітна» устанавіць памятны знак з надпісам на беларускай мове. Ваш варыянт тэксту будзе разгледжаны й узгоднены са спэцыялістамі й навукоўцамі Інстытуту гісторыі Акадэміі навук. Безумоўна, замчышча Сітна зьяўляецца гістарычным месцам і можа быць уключана ў турыстычны маршрут для агляду».

Цяпер у Сітне будзе каму і пракантраляваць выкананьне рашэньня — з 14 студзеня сярод дэпутатаў Сельсавету трое нашых.

За паўтара гады маёй «хіміі» гэта ня першы выпадак, калі мясцовыя ўлады робяць не па-савецку, а па-беларуску. Летась у сакавіку, напярэдадні выбараў, міліцыя атрымала загад ізаляваць мяне на сутках за «мацерную лаянку», але судзьдзя Полацкага суду нечакана прызнала, што ў беларускай мове мату няма і (упершыню ў маёй дзесяцігадовай практыцы) вынесла апраўдальны вырак. Улетку чыноўнік з «Полацаклесу» настаўляў мяне: «Паша, калі прыдзеце да ўлады, ні ў якім разе не пускайце сюды расейскі капітал. Яны ж беларусаў зьнішчаць будуць!»

Так люблю гэты момант, калі беларус зьнянацку выскоквае з засады!

Калісьці, яшчэ ў 1996-ым, мы з маладафронтаўцамі пачалі праводзіць у менскіх школах шоў беларушчыны — віктарыны з геаграфічнымі, гістарычнымі, літаратурнымі, музычнымі, спартовымі пытаньнямі, музычнымі перапынкамі, дзе ставіліся хіты беларускага року й пераможцам уручаліся адпаведныя кнігі, касэты ды кампакты.

За некалькі гадоў па ўсёй Беларусі такіх было праведзена больш за 430. Дык вось, пасьля 45 хвілінаў шоў звычайныя савецкія

школьнікі (якімі нядаўна былі й мы самі), ужо хорам раўлі «Жыве Беларусь!» і наперабой запытваліся, «дзе можна да вас запісацца». Пасьля тадышніх маніфэстацыяў Вясны-96 пратэставыя настроі зьмешваліся з захапленьнем ад адкрыцьця сваёй краіны — і літаральна выбухалі.

Сакрэт посьпеху быў просты. «Шоў» — ад ангельскага «show» — «паказваць». Схаваную, утоеную, падаўленую, бы сьцятая спружына, беларушчыну трэба паказваць як фокус. Больш таго — як цуд.

Непрыкметны для ўсіх партызан-беларус сядзіць амаль у кожным жыхары РБ. У кімсьці ён маленькі, бы немаўля, у кімсьці скурчаны й загнаны ў глыбіню душы, а ў кімсьці сьмялейшы — раз-пораз выбіраецца паглядзець, а хто там ідзе.

Па ўсім відаць, менавіта зараз надыходзіць час беларусам дружна гукнуць — ды раптам высыпаць на сцэну са сваіх векавых схова́шчаў.

Сёньня нават невялічкія, але пастаянныя й настойлівыя намаганьні ў Беларусі даюць эфэкт прарыву.

Сіценцы пачынаюць пераходзіць на мову, калі зь імі ўвесь час размаўляць па-беларуску (нават старшыня сельсавету вяла са мною ідэалягічную дыскусію на матчынай мове). Адмыслова пытаюцца на пошце беларускамоўныя паштоўкі, калі дасылаюць віншаваньні сваякам у Расею. Робяць ксэракопіі зь беларускай кніжкі дзіцячых вершаў, каб на ранішніку, дні народзінаў ці раённым конкурсе казырнуць чымсьці адметным ды свойскім. Нарэшце, сіценскія мамкі патрабуюць беларускамоўнага навучаньня ў ПТВ ды унівэрсытэтах — бо куды ж паступаць дзецям пасьля беларускай школы?!

Колькі тае беларушчыны зараз у Беларусі? Колькісот вясковых школаў, капэрты «Белпошты», абвесткі ў грамадзкім транспарце, пару гадзінаў начнога эфіру fm-станцыяў, 7% накладу выдадзеных у Беларусі кнігаў… Эфэкт прысутнасьці, ня больш. Але ж разам з тым беларушчына — гэта траціна Белнэту, палова тэстаў, напісаных абітурыентамі, і 37% беларусаў, якія падчас перапісу 1999 г. паведамілі, што ў хаце размаўляюць па-беларуску. Розьніца — гэта і ёсьць амплітуда напружаньня. Галоўны фронт працы для нацыянальнага руху. Тое, чаго ніхто за нас ня зробіць ані ў Брусэлі, ані ў Маскве, ані нават у Вашынгтоне.

У 2009 г. — чарговы перапіс. Вы пэўныя, што «размаўляю ў хаце па-беларуску» адкажа хаця б столькі ж беларусаў, колькі й тады, у 1999-ым?..

Ласкі ад дзяржавы пры ўсёй незалежніцкай рыторыцы рэжыму чакаць марна. Самы востры дэфіцыт сёньня — дэфіцыт не завумных

праграмаў, не радыкальных дзеяў, а масавай грамадзкай актыўнасьці. Бацькоўскіх заяваў на беларускамоўнае навучаньне. Беларускамоўных зваротаў па мясцовых праблемах і запісаў у кнігах скаргаў. Беларускіх набажэнстваў у праваслаўных ды пратэстанцкіх цэрквах, урэшце.

Адно ТБМ супрацьстаяць агрэсіўнаму валу русіфікацыі ня ў стане. Патрэбная каардынацыя ўсяе нацыянальнае эліты, апазыцыі, моладзі й NGO, мультыплікацыя беларускамоўных ініцыятываў у кожнай сфэры чалавечага жыцьця. Таварыства беларускамоўных адвакатаў. Аўтамабілістаў. Журналістаў... І вельмі, вельмі патрэбны ў якасьці каляндарнага апірышча заснаваны калісьці «Нашай Нівай» штомесяцовы Дзень без чужога слова.

Мы молімся, каб дэмакратыя перамагла. Ці ў стане пераджыць такое выпрабаваньне самі нашыя дэмакратычныя сілы — асобная тэма. Але ці не атрымаецца, што без арганізаванай, сыстэмнай грамадзкай падтрымкі першую ж паразу ў свабодным народным выяўленьні волі дастане менавіта нацыянальны рух?

Каб унікнуць такога беларускага правалу, сёньня, тут і цяпер патрэбная паўсюдная асьвета нацыянальнага размаху.

Уявіце сабе, каб замест удзелу ў «мясцовых выбарах» колькісот дэмакратаў арганізавалі б мясцовыя кампаніі ў падтрымку беларушчыны. Каб замест пустое перапіскі з «выбарчымі камісіямі» ды пракуратураю дамагаліся б стварэньня беларускіх куточкаў, перайменаваньня вуліцаў, узнаўленьня храмаў. Каб замест збору праславутых 300 аўтографаў на немаведама каму патрэбны кангрэс (а дэлегатаў плянуецца каля тысячы — палічыце, колькі разам!) сабралі б подпісы за адкрыцьцё Нацыянальнага унівэрсытэту або адмену т.зв. «Закону аб свабодзе сумленьня».

Дзіва, што мы дагэтуль дзівімся, чаму гэта людзі зьдзіўляюцца, калі мы проста размаўляем па-беларуску!

Трэба, трэба падымаць беларушчыну там, дзе мы сёньня ёсьць. У сучасным становішчы пад ціскам «з глыбіні» улада вымушаная напаўняць дзяржаўную незалежнасьць беларускасьцю. Прымусіць гэты рэжым быць беларускім мы наўрад ці здолеем — дэспатыі не рэфармуюцца, а перамагаюцца. Але, паводле Брыля, дамагчыся ад беларуса, каб быў беларусам (і гэта сапраўды будзе выдатны беларус!) — нам па сілах ужо цяпер.

Вось чаму Шоў беларушчыны — адна з найпершых тэхналёгіяў нацыянальнага абуджэньня.

## Сабачае шчасьце

Вось ужо некалькі тыдняў наведнікаў сіценскага інтэрнату сустракае шматгалосы віск ды скавытаньне з-пад ганку. Якраз на сьвяты ў дашчанай скрынцы з прыступкамі ашчанілася дварняжка Мільда.Вось ужо некалькі тыдняў наведнікаў сіценскага інтэрнату сустракае шматгалосы віск ды скавытаньне з-пад ганку. Якраз на сьвяты ў дашчанай скрынцы з прыступкамі ашчанілася дварняжка Мільда.

Нягледзячы на бадзяжны выгляд, рост 30 сантымэтраў і вагу кіляў пяць, Мільда — псіна баявая. Службовая. Рабочы Сяргей, які вартуе на лесапавале тралёвачныя трактары, бэнзын ды вагончык зь лесьніковым снадзівам, заўжды бярэ Мільду з сабою. Доўгімі зімовымі вечарамі, калі гаспадар глушыць «максімку» або адсыпаецца, задача Мільды — гаўкаць пры набліжэньні чужых ці начальства, а раніцай — будзіць Сяргея да прыезду вахтоўкі. На Каляды, убачыўшы ў сваёй карацупы добрае бруха, вартаўнік кінуў яе ў вёсцы.

У маразы Мільдавы шчанюкі наўрад ці б выжылі, але дзякуючы эўрапейскай зіме бадзёра пішчаць. Цяпер Мільду, якую раней пінком адганялі ад форткі, ласкава кормяць і «хімікі», і майстрыца, і вясковыя рабочыя. Цешацца ўсе — трэба меркаваць, да тае пары, пакуль з-пад ганку ня вылезуць чатыры ці пяць новых дварняжак.

Увогуле, сабакаў у Сітне больш, чым кароваў ды сьвіньняў, разам узятых. Апроч свойскіх, пераважна аўчарак, па вёсцы гойсаюць колькі дзясяткаў дзікіх — калматых, пярэстых, вялікіх ды маленькіх, невядома якое пароды. Шыльды «Асьцярожна: злы сабака!» тут ня маюць сэнсу: злы сабака ў двары — гэта само сабою (хаця вартаваць у большасьці хатаў няма чаго). Ані ў бацькавай Унорыцы на Дняпры, ані ў матчыным Лунінцы столькі сабакаў ня бачыў.

Увечары дзікія сабакі Сітна ператвараюцца ў сапраўдных валадароў вёскі. Некаторыя гаспадары спускаюць сваіх азьвярэлых братоў меншых з ланцугоў — і ў выніку ў сельсавет штотыдня трызвоняць напалоханыя або пакусаныя жыхары.

Абмяжоўваюць колькасьць сіценскае зграі хіба начныя ваўчыныя рэйды ў моцныя маразы — бывае, рэжуць нават аўчарак на падворках.

Харчуецца ўся папуляцыя на вясковых сьметніках, ад чаго памыйныя кучы набываюць надзвычай маляўнічы выгляд. Найвялікшае ў вёсцы сабачае шчасьце разьмяшчаецца якраз за нашым інтэрнатам — апроч «хімікаў» ды рабочых, у яму ў 50 мэтрах ад бараку зносяць адкіды жыхары суседніх дамоў. У выніку, як ты ні

закопвай пакункі са сьмецьцем, за ноч сабакі растрыбушаць усё да апошняга шматка. Уяўленьне такое, быццам тут выбухнула бомба, начыненая памыямі, пакінула глыбокую варонку, а ўдарная хваля разьнесла бляшанкі, цэляфан, паперкі ды невядомую клятчатку.

Часам здаецца, што сабакам у Сітне жывецца лепш, чым людзям. Калі чуеш, як п’яныя вяскоўцы брэшуць на сваіх дзяцей, бачыш, зь якой сабачай прагай малыя зь «ненадзейных» сем’яў кідаюцца на тую пячэніну ці цукерчыну, або як школьнікі сігаюць за плот ад вялізнага барбоса, спушчанага з ланцугу — думаеш, што сабакам тут якраз пашанцавала.

Задаволена павіскваюць Мільдавы шчанюкі, аб’ект усеагульнае ўвагі ды клопату. Мітусяцца вакол людзі. Глядзіш на такую рэдкую ў гэтых краёх чалавечую ласку, пяшчоту, ціхую радасьць — і згадваеш, што вось гэты вясковец, які, пацмокваючы, падкладае Мільдзе костку, нядаўна выгнаў на вуліцу сужыцельку зь дзіцём; кабеціна, у якой аж вочы сьвецяцца каля тых шчанюкоў, пазбаўленая бацькоўскіх правоў за хранічны алькагалізм; а мужык, што пачэсвае дварняжку за вухам, адбывае «хімію» за нявыплату аліментаў.

І ўсё-такі: гэта любоў.

...На Раство да мяне прыяжджалі пратэстанты-прадпрымальнікі зь Менску. Пачаставалі на вуліцы параю мандарынаў тых дзетак, убачылі, як зьбегліся астатнія, ды, пакінуўшы 50 тысячаў, папрасілі павіншаваць усіх малых у Малым Сітне. Мне кінулася ў вочы адно: і загадчыца сельпо, у якой закупаў цукеркі, печыва ды садавіну, і супрацоўніца дзіцячага садка, і настаўніца ў школе, якім адносіў ласункі з просьбай раздаць на Раство «ад эвангельскіх хрысьціянаў», і бацькі на елцы — апускалі вочы.

Значыць, няёмка. Сорамна.

Значыць, ёсьць надзея, што ня вытаптаныя, ня згаслыя канчаткова агеньчыкі сумленьня й спагады ўрэшце разгарацца. Што беларусы адчуюць любоў Божую, любоў да блізкага свайго, да братоў — і большых, і меншых... Што адшукаюць яны шлях да Вялікага Чалавечага Шчасьця. Шлях, якім ёсьць нацыянальнае абуджэньне.

## Скарына і дзесяць мільёнаў

Сіцэнцы, якія ўпершыню заходзяць да мяне ў госьці, адразу цягнуцца да беларускай Бібліі на стале. Рэфлекс, неаднойчы заўважаў, амаль аднолькавы: працягваюць руку ўзяць, потым, бы апякліся, убіраюць пальцы й глядзяць з багавейным страхам: а ўвогуле можна?..— О! Біблія! Ці дасі пачытаць?

Сіцэнцы, якія ўпершыню заходзяць да мяне ў госьці, адразу цягнуцца да беларускай Бібліі на стале. Рэфлекс, неаднойчы заўважаў, амаль аднолькавы: працягваюць руку ўзяць, потым, бы апякліся, убіраюць пальцы й глядзяць з багавейным страхам: а ўвогуле можна?..

Сьвятое Пісьмо ў гэтых краёх — вялікая рэдкасьць. У сяго-таго захаваліся кішэнныя Новыя Запаветы па-расейску, выдадзеныя «Гедэонавымі братамі» ды распаўсюджаныя яшчэ ў пачатку 1990-х. Беларускай Бібліі, натуральна, няма ані ў школьнай бібліятэцы, ані ў сельсавецкай, ані ў людзей.

Ці мог падумаць Францішак Скарына, які 500 гадоў таму вучыўся ў найлепшых эўрапейскіх унівэрсытэтах з мараю даць свайму народу Кнігу Кнігаў, што ў век небывалага тэхнічнага прагрэсу, калі беларуская паліграфія будзе друкаваць тых кнігаў штогод па 50 мільёнаў асобнікаў, — знайсьці Біблію на роднай мове на Полаччыне будзе яшчэ цяжэй, чым тады!

Даю вяскоўцам чытаць — і Біблію, і Новы Запавет у розных перакладах. Адразу пытаньні: «А якая зь іх сапраўдная? Тут «Віфляем», тут «Бэтлеем», тут «блаславі», тут «дабраславі», тут Ісус кажа спаралізаванаму «Вер», а тут — «Мацуйся», тут зь мяккімі знакамі, а тут — бязь іх…» Спрабую тлумачыць, што сэнс ня ў гэтым , проста розныя традыцыі… Не разумеюць: «Пачакай, дык Бог жа адзін?» «Так». «І Біблія адна?» «Ну так…» «І беларуская мова ж адна?» Адна, дарагія мае…

І вось Юрась, эвангельскі хрысьціянін з Баранавічаў, піша, што яны хацелі б зрабіць і памножыць аўдыёзапіс Эвангельля па-беларуску… дык які варыянт браць за аснову?

Пэўна, яшчэ больш засмуціла б беларускага першадрукара тое, што дагэтуль няма адзінай беларускай Бібліі. Уладальнікі беларускага Сьвятога Пісьма ў касьцёле, царкве ці малітоўным доме карыстаюцца рознымі перакладамі ўнутры кожнай з канфэсіяў. Зьвярнуў увагу на супольнай малітве на сходзе Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі: нават «Ойча наш» беларусы спавядаюць у трох ці чатырох адрозных варыянтах.

Пытаньне, вартае не адной навуковай канфэрэнцыі: ці лічыць беларускай Бібліяй увесь ансамбль ужо выдадзеных тэкстаў (і тады застаецца прызнаваць ягонай вартасьцю багацьце формы ды поўны спэктар адценьняў зьместу), ці спрабаваць-такі зьвесьці праваслаўныя, каталіцкія й пратэстанцкія пераклады на беларускай у адно?

Цяпер вядома ня менш дзесяці перакладаў Бібліі або яе асобных кнігаў на беларускую мову.У 1517—1525 г. Францішак Скарына, як лічаць дасьледчыкі, пераклаў усю Біблію і надрукаваў большую частку яе кнігаў — і гэта была трэцяя ў сьвеце друкаваная Біблія на жывой мове народу.

Каля 1570 г. у сваёй вандроўнай друкарні выдаў Эвангельлі паводле Мацьвея й Марка Васіль Цяпінскі.

Толькі больш як праз тры з паловай стагодзьдзі, у 1927 г., у баптысцкім выдавецтве «Компас» нарэшце выйшла Эвангельле ў перакладзе на сучасную беларускую Лукаша Дзёкуць-Малея й Антона Луцкевіча, а ў 1931 г. у Хэльсынгфорсе — увесь Новы Запавет Луцкевіча.

У 1939 г. у Вільні ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі надрукаваў і каталіцкі Новы Запавет па-беларуску. У 1954 г., выкарыстаўшы пераклад Гадлеўскага, выдаў Эвангельле й Апостальскія Дзеі ў Рыме ксёндз Пётра Татарыновіч. Гэтаксама на эміграцыі былі выдрукаваныя Эвангельле паводле Яна ў перакладзе Яна Пятроўскага і ўся беларуская Біблія пратэстанта Яна Станкевіча.

Яшчэ некалькі перакладаў дала Беларусі найноўшая гісторыя. Напрыканцы XX ст. распачала працу адмысловая камісія Беларускага Экзархату РПЦ, якая выдала па-беларуску Эвангельле. У 2002 г. з дабраславеньня Першагерарха Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліта Мікалая ў ЗША 10-тысячным накладам выйшла беларуская Біблія ў перакладзе Васіля Сёмухі (тая самая, на якую ў першую чаргу зьвяртаюць увагу сіценцы). Нарэшце, у 2003 г. у Беларускім Біблійным таварыстве быў надрукаваны Новы Запавет у перакладзе ксяндза Ўладзіслава Чарняўскага.

Але ж ад беларускага біблійнага лідэрства ва Ўсходняй Эўропе, датаванага «залатым» XVI стагодзьдзем, сёньня мала што засталося. Быў час, быў век, была эпоха, калі Беларусь вывозіла на экспарт не сыры лес і не калійныя ўгнаеньні, а друкаваную Біблію. Тады «Апостал» Фёдарава і Мсьціслаўца ды «Псалтыр рыфматворны» Полацкага адкрывалі Сьвятое Пісьмо шырокім масам расейцаў; львоўскія ды астроскія выданьні беларускіх друкароў наталялі прагу Божага Слова ва Ўкраіне, Радзівілаўская Біблія й «Новы Запавет»

Буднага насычалі духоўным хлебам Польшчу. А цяпер? Ганарымся найбуйнейшым у Эўропе дыямэнтам бібліятэкі — і ня маем аніводнай поўнай афіцыйна прызнанай хоць бы адной хрысьціянскай канфэсіяй беларускай Бібліі!

А Малому Сітну і праўда бязь Бібліі аніяк. «Разбаўталіся людзі! Раней хоць парадак быў. Замнога свабоды ім далі, — бурчыць начальнік леспрамгасу, — не баяцца нікога!..» Але, калі ў чалавека няма маральнага закону, прапісанага ў сэрцы, — аніякая дырэктыва, аніякі рэжым, аніякі страх не прымусяць яго жыць маральна. Бяз Бога, без царквы, бязь Бібліі Беларусь прападае.

Падхапіць місію Скарыны — значыць надрукаваць дзесяць мільёнаў асобнікаў беларускай Бібліі. Мару, каб Сьвятое Пісьмо ляжала на стале ў кожнага беларуса. Адчуваю асаблівае пакліканьне да гэтае справы: нездарма Скарына пачаў друкаваць Біблію ў праскай друкарні Паўла Севярына. І веру: беларусы будуць аддаваць Сьвятому Пісьму болей часу, чым жоўтай прэсе ды крымінальнаму чытву.

Бо Біблія — гэта Асноўны закон нацыянальнага абуджэньня.

## «Яўропа!»

Штодня ў Алёшчы загружаюць два-тры вагоны «на Яўропу» — у Італію, Вугоршчыну, Прыбалтыку. За куб круглага лесу — бярозы, асіны, хвоі — на эўрапейскім рынку плацяць ад 20 да 30 эўра. Нягледзячы на спорны гандаль, канцэрн «Полацаклес» балянсуе на мяжы банкруцтва, бярэ крэдыты пад заробак, і штомесяц Сітна ўскалыхваюць чуткі, што леспрамгас вось-вось зачыняць.Штодня ў Алёшчы загружаюць два-тры вагоны «на Яўропу» — у Італію, Вугоршчыну, Прыбалтыку. За куб круглага лесу — бярозы, асіны, хвоі — на эўрапейскім рынку плацяць ад 20 да 30 эўра. Нягледзячы на спорны гандаль, канцэрн «Полацаклес» балянсуе на мяжы банкруцтва, бярэ крэдыты пад заробак, і штомесяц Сітна ўскалыхваюць чуткі, што леспрамгас вось-вось зачыняць.

Лесанарыхтоўка — адна з тых галінаў беларускае гаспадаркі, якой увесну наўпрост пагражае адмена эўрапейскіх прэфэрэнцыяў. Зразумела, што «правы працоўных», «тэхніка бясьпекі» і «годны заробак» тут паняткі пустыя. Але афіцыйная рэакцыя на эўрапейскія абвінавачаньні ў Алёшчы ўжо зьявілася. На загад з Полацку ў рабочае бытоўцы нечакана вывесілі сьпісы «кіраўніцтва маласіценскага прафсаюзу»(!), «леспрамгасаўскага цэхавага камітэту»(!), а таксама «грамадзкіх інспэктараў»(!). Самі прафсаюзьнікі, цэхавікі ды інспэктары, якія ўпершыню даведаліся аб сваіх пасадах з загадкавых папераў, узьнялі дружны рогат: «Гля, Пятро, а ты, аказваецца, інспэктар!», «Ды ты сама, Паўлаўна, проф-груп-орг!». «Цьху ты, не абзывайся…»

«Яўропа! — задаволена выгукае вусаты, з залысінамі, «хімік» Мікола, — усё, цяпер на Захад пойдзем. Будзем па дваццаць еўрыкаў у гадзіну, як у Германіі, атрымліваць». «Раскатаў губу, — ківае кранаўшчык Іван, — Яўропа… У нас хоць ты еўрыкі, хоць тыгрыкі плаці — народ іх прап’е. Яўропа — гэта калі чалавек к чаму-та страміцца».

Рэпліка алёшчынскага кранаўшчыка расшыфроўвае лёзунг «Беларусь — у Эўропу!» значна больш дакладна, чым афіцыёз, і куды больш ёміста, чым апазыцыйныя стратэгіі. Па вялікім рахунку, рэч ня ў тым, што нам трэба весьці «шматвэктарную палітыку» ды нават не ў імпэрскай палітыцы Крамля (хаця ўсё гэта — лепш позна, чым ніколі ўсьвядомленыя аксіёмы). У чалавеку ключ. У беларусу. І ў ягоным імкненьні ці неімкненьні.

Імкненьне — сутнасьць гістарычнага фэномэну Эўропы. Моцнае, на мяжы магчымасьцяў, імкненьне да свабоды, справядлівасьці,

творчасьці. Да духовага адкрыцьця. Да дасканаласьці. Да Бога, урэшце. Калі размаўляеш з украінскімі ды маладаўскімі дэмакратамі, бачыш па тэлевізіі шчасьлівых румынаў ды баўгараў, нават Грузію, што штурмуе брамы Эўразьвязу, бачыш адразу: імкнуцца. А беларуса, старэйшага за сорак, дагэтуль адрозьнівае глыбокі сум, апатыя й бязьвер'е.

Парадаксальна, але менавіта «імкненьне» — найвялікшае пытаньне зараз і для самое Эўропы, асабліва Заходняй, якую зь лёгкай рукі амэрыканцаў ужо павялося называць Старой. У прывабных і велічных рысах Парыжу й Лёндану, Рыму й Мадрыду ўсё часьцей прагледваюць друзлая самазадаволенасьць, апатычнае спажывецтва, расьпешчаны й разбэшчаны дэкаданс, і, як вынік — бездапаможнасьць перад глябальнымі пагрозамі. Часам на адпачынку зазіраеш у вочы Эўропы, «Эўраньюз», і заўважаеш надзіва родную млявасьць і абыякавасьць да жыцьця, уласьцівую старэйшым пакаленьням беларусаў.

Жывое, актыўнае хрысьціянства, якое і прадвызначыла тысячагадовы эўрапейскі ўздым, зьмянілася панаваньнем матэрыялізму, месцамі з рытуальнай рэлігійнасьцю. Бяз моцнага ўнутранага штуршка, які скаланае нацыі й грамадзтвы, дапамагае пераадолець крызіс і зноў адчуць сваю місію ў духовым імкненьні, Эўропа ўпадае ў дэпрэсію.

Новае эўрапейскае абуджэньне ідзе з Новай, Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Ужо сёньня і Польшча, і Ўкраіна, і Латвія, і Балканы перажываюць хрысьціянскае ўзрушэньне. Беларусь пакуль ледзь угадваецца ў гэтым шэрагу. Але варта ўзьняцца Беларусі — і Новая Эўропа, раптам стаўшы адзінай, выбухне эўрапейскім узыходам.

Бо беларуская Эўропа — гэта не спадарожнікавая міска на паўразваленай хаціне, купленая за «ягадныя грошы», гаспадар якой шчоўкае пультам, шукаючы эратычных каналаў, і не набор лядоўняў ды пральных машынаў «Siemens», нажытых на продажы «максімкі» аднавяскоўцам. У адрозьненьне ад Яўропы, Эўропа — гэта ня зьнешні марафет. Сапраўдная Эўропа — у сэрцы, поўным любові да Бога, бліжняга і Радзімы.

Беларускія эўрапейцы — гэта маладафронтаўцы, якія сёлета вось ужо дзясяты год абыходзілі заходнія амбасады зь віншаваньнямі на Дзень Сьвятога Валянціна. У іх перасаджалі лідэраў, павыклікалі падчас акцыі ў КДБ арганізатараў, блякавалі ля пад'ездаў дасьведчаных «вулічнікаў», а шэсьце ўсё адно рушыла. Нарэшце выхапілі проста з калёны стыхійных завадатараў — а

маладафронтаўцы ідуць. Імкнуцца! І даходзяць да Польшчы, Нямеччыны, ЗША, каб перадаць ім: мы хочам быць Эўропай! І невыпадкова адзіны апазыцыйны лідэр у маладзёвым шэсьці — стоадсоткавы эўрапеец Аляксандар Мілінкевіч.

І Малады Фронт, і Мілінкевіч раптоўна ўкліньваюцца ў «заходнюю гульню» рэжыму і блытаюць яму ўсе карты. Адсюль — і арышты, і крыміналкі, і штрафы, і прапагандовы шал. Чарговы сыгнал Брусэлю: «Но-но, гаспада, ніякіх размоваў пра палітыку — нас цікавіць толькі эканоміка».

Абвясьціўшы разварот на Захад, рэжым пасьлядоўна кітаізуе Беларусь. Характэрнае азіяцкае прымружваньне ў самым цэнтры Эўропы — выклік усёй заходняй дэмакратыі.

Таму беларускім дэмакратам ня мае сэнсу засяроджвацца на эканамічным ганддлі, які распачаў рэжым. Найбольш моцны кірунак апазыцыйнага дыялёгу з Эўропай палягае якраз у сфэры нематэрыяльных каштоўнасьцяў. У тае сфэры, якая зрабіла Эўропу Эўропай. Адстойваньне нацыянальнай незалежнасьці. Пытаньні мовы й культуры. Абарона правоў чалавека й хрысьціянскіх прынцыпаў.

Беларусь — сэрца Эўропы.

І я веру: зараз менавіта ў сэрцы беларуса вырашаецца, быць ці ня быць Эўропе.

Задача пад сілу нацыянальнаму абуджэньню!

## Злачынства і пакаяньне

— Ну што, раскайваемся? — намесьнік начальніка спэцкамэндатуры выпрабоўна прымружыўся, узважыў на руцэ маю «Асабовую справу» з аркушыкам атэстацыі на ўмоўна-датэрміновае вызваленьне і агледзеў прысутных чальцоў камісіі. — Прызнаём віну, становімся на шлях выпраўленьня — і на свабоду, так сказаць, з чыстым сумленьнем…— Ну што, раскайваемся? — намесьнік начальніка спэцкамэндатуры выпрабоўна прымружыўся, узважыў на руцэ маю «Асабовую справу» з аркушыкам атэстацыі на ўмоўна-датэрміновае вызваленьне і агледзеў прысутных чальцоў камісіі. — Прызнаём віну, становімся на шлях выпраўленьня — і на свабоду, так сказаць, з чыстым сумленьнем…

Прагучала двухсэнсоўна — нібыта самі міліцыянты сабраліся перад судом ды вырашаюць прызнавацца ў парушэньнях закону.

Давялося нагадаць «жандару», што менавіта пытаньне аб пакаяньні будзе першым, якое незалежны суд у дэмакратычнай Беларусі задасьць усім супрацоўнікам «органаў», што ўдзельнічалі ў палітычных рэпрэсіях у пэрыяд дыктатуры.

І з маральнага, і зь юрыдычнага гледзішча пакаяньне — кульмінацыйны момант у драме злачынства і пакараньня. Мяжа. Маладафронтаўцам, якіх нядаўна арыштаваў КДБ, гэтаксама прапаноўвалі напісаць пакаянныя лісты. Зь іншага боку, з пакаяньня, ужо перад сябрамі, пачаў «агент «Вэктар», студэнт праграмы Каліноўскага.

Цяпер у Беларусі багата кажуць пра нацыянальнае яднаньне, супольную абарону незалежнасьці, супрацоўніцтва апазыцыі ды ўлады. Справа, як паказвае досьвед «Салідарнасьці», гістарычна апраўданая — і найлепш з усіх гэта сфармуляваў у сваім вядомым лісьце Аляксандар Мілінкевіч.

Так, разбойнік сапраўды можа раптам зрабіцца праведнікам, разбуральнік дзяржавы — яе будаўніком, а былы фарысэй — апосталам. Уся Біблія й гісторыя хрысьціянства сьведчаць не адно пра магчымасьць, але і пра пэўную заканамернасьць падобных ператварэньняў. Урэшце, кожны грэшнік, прымаючы Ісуса Хрыста, атрымлівае ачышчэньне ад граху… і права на Валадарства Нябеснае. Ёсьць толькі адна ўмова — Пакаяньне. Шчырае, ад сэрца. І — дзея, што пацьвярджае такую шчырасьць: «Прынясеце ж годны плод пакаяньня!» (Мацьвея 3:8). У іншым выпадку гэта гульня або ваенная хітрасьць, якая рана ці позна вядзе да краху.

Заўважце, у розных інтэрвію для эўрапейцаў нейкае падабенства прызнаньня віны (маўляў, наша памылка — ляцелі на

адным крыле) гучыць. Хаця бясконцыя скандалы, прапагандысцкі бруд і Дразды вымагалі б яўна чагосьці грунтоўнейшага. А вось пакаяньня перад уласным народам — нават не канкрэтнага спавяданьня ў злачынствах (таптаньне закону, фальсыфікацыі, зьнікненьні, рэпрэсіі, русіфікацыя, прыніжэньне беларускай мовы й культуры, апраўданьне бальшавізму й г.д.), а хоць бы агульнага — «Даруйце, людзі!» — Беларусь дагэтуль так і не дачакалася.

«Адліга», паварот, эўрапеізацыя? Ані.

Няма пакаяньня? Ня веру.

А калі не зьбіраецца каяцца ўлада — перад Богам мусіць прасіць прабачэньня за грахі ўся нацыя. Беларусь без пакаяньня за злачынствы рэжыму асуджаная на паўтарэньне рабства ды хамства, хіба што ў розных формах. Самому беларускаму грамадзтву ёсьць у чым каяцца за апошнія 13 гадоў. Маўклівая згода зь беззаконьнем. Патураньне злу. Лянота. Абыякавасьць. Адчай. Збаўленьне ад раку дыктатуры нават не ў судох ды люстрацыях, а менавіта ў духоўнымператварэньні народу: «Бо смутак дзеля Бога прыносіць нязьменнае пакаяньне на збавеньне, а смутак зямны чыніць сьмерць» (II да Карынцянаў 7:10).

Узор усенароднага пакаяньня — другая палова 1940-х гадоў у Нямеччыне. «Ніколі больш!» — аднадушна вырашылі немцы пасьля жудасьцяў нацызму. Касьцёлы й кірхі былі перапоўненыя. Адраджэньне разгромленае краіны, фэномэн магутнае нямецкае хрысьціянскае дэмакратыі ды нават ідэя аб'яднаньня Эўропы — адтуль.

Нацыянальнае пакаяньне ў свой час перажывалі ангельцы ды італьянцы, палякі ды японцы. Хвалі пакаяньня (такога, як пасьля Вялікай дэпрэсіі або віетнамскай вайны) ад часу да часу пракочваюцца па ЗША — што перадвызначае духоўныя, а далей і палітычныя, эканамічныя й культурныя ўздымы Амэрыкі. Уся гісторыя народу ізраільскага, апісаная ў Старым Запавеце, — гэта чаргаваньне духоўных заняпадаў, народнага пакаяньня — і наступнага росквіту.

Але калі пачынаеш размаўляць зь беларусамі Сітна пра пакаяньне, сутыкаесься з насьцярожаным і знэрваваным неразуменьнем: «Каяцца?.. Нам?! А за што?..» Бязбожжа, эпідэмія «максімкі», недагледжаныя дзеці, развал гаспадаркі?.. Разводзяць рукі ў бокі: «Жысьць такая».

Не зьмяніўшы людзей, мы ня зьменім Беларусі. Сэнс пераменаў — не ў перабудове сыстэмы ўлады ці развароце замежна-палітычнай арыентацыі, а ў перамене людзкіх сэрцаў. У веры, любові, маральнасьці й адказнасьці, якія выплаўляюцца ў сьлязох пакаяньня.

Нацыянальнае пакаяньне — брама нацыянальнага абуджэньня.

## Рыба ў чалавечы рост

У тую большую частку году, калі ў сіценскіх лясох няма ані грыбоў, ані ягадаў, ані шышак, што здаюць тутэйшаму лясьніцтву на семяно, у паспалітага люду застаецца толькі адзіны занятак, цікавы й прыбытковы адначасова. Рыба.У тую большую частку году, калі ў сіценскіх лясох няма ані грыбоў, ані ягадаў, ані шышак, што здаюць тутэйшаму лясьніцтву на семяно, у паспалітага люду застаецца толькі адзіны занятак, цікавы й прыбытковы адначасова. Рыба. Бліскучыя манэткі лускі праблісваюць то ў траве, то ў вопратцы, то ў валасох; зімою лёд на кожнай сажалцы ў лунках; штодня размовы пра тое, ці бярэцца. Мой кот Партызан можа пацьвердзіць, што пах сьвежае рыбы канкуруе ў Сітне хіба што з пахам драўніны ды перагарам.

Сітна — месца рыбнае. Вакол лясныя азёры, рэчкі, сеткі пратокаў, ціхіх ды глыбокіх, — тысячу гадоў таму па Палаце ішла адна з галінак шляху «з варагаў у грэкі». Ловяць шчупака, ляшча, акуня, ліня; бывае, заходзіць зь Дзьвіны судак. У азёрах шыюцца ў глей залатыя карасі — вялізныя, памерам на патэльню. І хоць посту тут не трымаюць, рыба перад Калядамі ды пасьля Масьленіцы на стале часьцей за якое мяса.

Чым ловяць? Вядома, вуда тут — забаўка хіба што для дзяцей ды «дзеля душы» (калі галоўнае — сам працэс). Гарадзкія, што прыяжджаюць адпачываць з Полацку, зазвычай бяруць з сабою сьпінінг. Найбольш жа пашыраная снасьць — сеткі розных гатункаў. Нераты, крыгі, браднікі, «павукі». Бывае, грабуць так, што вада па Палаце сплывае ажно чорная. А калі глушаць электравудай ці выбухоўкай — ад белае лускі рабаціць уваччу. Падчас нерасту перагароджваюць гарлавіны пратокаў... Словам, браканьерства квітнее. Для любога прыхадня спроба памыць боты ў возеры ля вёскі можа скончыцца руляй паляўнічай стрэльбы з хмызьняку і камандай: «Ану, стаяць, рукі ўгору! Ты сеткі ставіў, што іх вымаць лезеш?!».

Мясцовыя мужыкі згадваюць рыбалоўныя наезды ў Расею, аддзеленую ад Беларусі толькі квартальнай прасекай, ды клянуць дзікасьць тамтэйшых інспэктараў («грошай беларускіх не бяруць, толькі гарэлку»).

У Алёшчы, Сітне ды навакольных хутарох за рыбнай юшкай вам абавязкова распавядуць гісторыю ў духу гэмінгўэеўскага «Старога і мора», пра Шчупака ў чалавечы рост, які ўсплываў то ў сіценскім Ізмоку, то ў Чарбамысьле, то вунь пад самым мостам цераз Палату і важыў то 10 кг, то пуд, а то і паўтара. Гэткая адвечная чалавечая

мара. «Во! — паказваюць, — трымалі, падымалі, — мераюць зь сябе ростам, — во такі!!!».

Раскажуць, як цягнулі з усяе сілы, да сутаргаў, як лёска ў кроў рэзала далоні. Як ірвалася, шалёна білася гіганцкая рыбіна, як ледзь не звалакла з сабою ў ваду, як шчэрыла зубы, і хапала паветра, і зяхала, і павольна засынала на беразе.

Дзесьці агромністага шчупака секлі на кавалкі, бо не пасілелі сьцягнуць цалкам, дзесьці й гатавалі ля вады, на вогнішчы, дзесьці трыюмфальна несьлі праз усю вёску. Сага пра тое, як вяскоўцы здабывалі кожны свайго Шчупака, іх праўда вартая Гамэра. І столькі жарсьці, столькі моцы й імпэту ў тых аповедах, так загараюцца вочы, такая хватка ў рухах рук, такая сакавітая, смачная мова бруіць і віруе — што пазнаеш, пазнаеш беларуса!

Наша родная водная стыхія, у якой продкі адчувалі сябе вальней, чым на зямлі, сфармавала людзей бязьмежнае цярплівасьці, трапяткога сэрца й засяроджанага сузіраньня — нацыю на беразе ў чаканьні ўлову. Увогуле, на сур'ёзнай і нясьпешнай рыбалцы заўважаеш у роздумах ды развагах тутэйшага люду мудрасьць ды глыбіню, пільнасьць ды трапнасьць, замілаваньне й пяшчоту —усё тое, чаго не змаглі вытрусіць, вынішчыць, разбурыць у беларусе ані акупанты, ані дыктатары.

І вось тады згадваеш словы, сказаныя 2000 гадоў таму гэткім жа простым рыбаком у глухім кутку айкумэны пад чужынскім панаваньнем, нашым Госпадам Ісусам Хрыстом: «Хадземце за Мною — і Я зраблю вас лаўцамі чалавекаў» (Мацьвея 4:19).

Веру, што і старажытная Полаччына, і сама Беларусь яшчэ зьявяць сьвету сілу веры й волі, стоеныя ў рыбаку-беларусу. Што ў тутэйшага люду запаляцца вочы, вернецца спрыт, гарт ды азарт Усяслава Чарадзея, Францыска Скарыны ды Лява Сапегі — і будуць яны, як вучні Хрыста, лаўцамі людзей. Звычайных людзей у чалавечы рост — такіх самых беларусаў, расейцаў, украінцаў, эўрапейцаў.

І будзе гэта тады, калі, быццам паводка, падыме ўсе шматлюдныя плыні й віры ў сэрцы Эўропы беларускае нацыянальнае абуджэньне.

## Дзень свабоды й рашучасьці

— Вясна!.. — соладка пацягваецца сусед-»хімік». — Хутчэй бы на волю! Можа, якая амністыя будзе, Паш, га?.. Да Перамогі ці хаця б Дня Незалежнасьці?— Вясна!.. — соладка пацягваецца сусед-»хімік». — Хутчэй бы на волю! Можа, якая амністыя будзе, Паш, га?.. Да Перамогі ці хаця б Дня Незалежнасьці?

Для любога асуджанага дзяржаўныя сьвяты — надзея на вызваленьне. Перапытваю, якога зь дзён незалежнасьці сусед спадзяецца вярнуцца дадому. Адказвае, «да сапраўднага» і, канечне, «таго, які бліжэй».

Значыць, да Дня Волі. І, хоць вядома, што 25 сакавіка ў Сітне чакаецца хіба што ўзмоцненая міліцэйская варта, сусед падрабязна распытвае і пра БНР, і пра прызнаньне беларускай незалежнасьці 1918 г. эўрапейскімі краінамі ды Патрыярхам Маскоўскім Ціханам, а наапошак цікавіцца, чаму сьвята так называецца. «У смысьле, волі? «Вольнаму воля» — ці во такая?» — і сьціскае кулак.

У беларускай мове воля сапраўды азначае і свабоду, і рашучасьць. Больш за тое — сплаўляе іх у адно ды ясна сьведчыць пра ўзаемазалежнасьць першага й другога. Толькі свабода дае чалавеку магчымасьць выявіць годнасьць, самастойнасьць і моц пакліканьня; і толькі праз імкненьне, высільваньне й жалезнае трываньне тая самая свабода дасягаецца.

Сёньняшняму Сітну вельмі не стае волі. І волі-рашучасьці, і волі-свабоды. Млявасьць, кволасьць, абыякавасьць — «ад нас нічога не залежыць» — перадвызначае стан прыніжанага рабства й трымае вёску ў безнадзейным упадку. І хоць жывуць тут моцныя мужыкі-лесавікі — як той казаў, і сіла ёсьць, і воля ёсьць, а сілы волі няма. Сымбалічна, што наймаладзейшую з тутэйшых актывістаў дэмакратычнага руху, што год таму зьбірала подпісы за Мілінкевіча, а цяпер распаўсюджвае матэрыялы ТБМ ды налепкі «За свабоду!» (магчыма, яна — самае яскравае ўвасабленьне сьветлае сіценскае будучыні), завуць менавіта Воляй.

Апошнія некалькі гадоў акурат перад Днём Волі характэрны бязвольны настрой апаноўваў і вярхі апазыцыі. У той самы момант, калі належала выяўляць моц ды цьвёрдасьць, запачаткоўваць агульнанацыянальныя кампаніі й арганізоўваць масавыя шэсьці — пераважалі настойлівыя прапановы «правесьці канцэрт у парку», «паслухаць прамоўцаў і разысьціся», «не псаваць людзям сьвята». Адсутнасьць волі поруч з бракам веры зрабілася галоўнай праблемай беларускіх дэмакратычных сілаў. Колькі разоў «Маладому фронту»

даводзілася да вялікага сораму старэйшых партыйных дзеячоў, пасьля заклiку «разысьціся», выводзіць людзей на Праспэкт, каб сьвет пабачыў: жыве Беларусь!

Летась у Беларусі нарэшце зьявіўся лідэр, які не збаяўся збудаваць стратэгію перамогі менавіта на Плошчы — Аляксандар Мілінкевіч. Зьявіўся лёзунг, які трапіў людзям у самае сэрца: «За свабоду!» (дарэчы, рух, які ўзначаліў Аляксандар Казулін, назвалі гэтаксама паказальна: «Воля народу»). Узьнялося цэлае пакаленьне моладзі, гатовае стаць новым фронтам змаганьня.

Пасьля бурлівае вясны-2006, галадовак восені-2006, пасьля цэлага году апазыцыйных сварак ды тужлівае бясьсіласьці Дзень Волі — гэта самае тое, што трэба. Калі рэжым змаўляецца то з Расеяй, то з Эўропай, быццам беларускага народу як самастойнай велічыні тут увогуле не існуе, 25 Сакавіка мусіць зрабіцца днём нашага волевыяўленьня.

З рэзыдэнцыі будзе добра відаць Плошчу, запоўненую людзьмі. Але свабода й рашучасьць — гэта не таптаньне на месцы ды слуханьне штатных прамоваў. Дзень Волі — гэта рух. Як і сама воля выяўляецца ў дзеі, сапраўдны Дзень Волі мае сэнс толькі як відовішчная маніфэстацыя. Гул беларускай волі павінныя чуць і Эўропа праз «Эўраньюз», і Расея праз маскоўскія тэлеканалы. Беларуская свабода і беларуская рашучасьць вымагаюць фармуляваньня ў канкрэтных патрабаваньнях да рэжыму, якія б здолеў на пальцах пералічыць любы актывіст-агітатар, якія ведалі б на памяць усе эўрапейкія беларусаведы і якія б паўтарыў без запінкі любы чыноўнік, абуджаны ўначы.

Як і летась, у Менску, як і ў Сітне, сёлета надзея на моладзь і на лідэра руху «За свабоду!». Беларуская Воля апоўдні 25 Сакавіка будзе там, дзе сьцягі «Маладога фронту» і Мілінкевіч.

Беларуская воля патрабуе веры. Толькі тады і зможам, і пераможам. Наша жахлівая нацыянальная бязвольнасьць нараджаецца тады, калі беларусы адварочваюцца ад волі Божай. Брыдкае й жаласнае відовішча: Рэч Паспалітая ў часы Сасаў, застойная БССР ці цяперашняя «апошняя дыктатура Эўропы». І наадварот, беларуская Воля, натхнёная Духам Сьвятым, сплаўленая ў кулак, падначальвае чалавечае і пераварочвае цэлыя краіны ды эпохі.

«Хто ня любіць волі — ня нашага роду», — пісаў Янка Купала.

Вось чаму рэжым рыхтуецца да Дня Волі з дапамогаю арыштаў, допытаў іператрусаў.

І вось чаму беларусы чакаюць Дня Волі як дня нацыянальнага абуджэньня.

## Змагары

Зноў моладзь на вуліцах Менску. Дзень Волі. Тысячы маладых у першых шэрагах. Зноў — допыты, арышты, ператрусы. Дзяніс Дзянісаў чакае суду за «масавыя беспарадкі». Барыс Гарэцкі галадае на «сутках». Зьмітру Дашкевічу й Артуру Фінькевічу прыдумалі чарговыя спагнаньні, каб пазбавіць права на амністыю. У крымінальнай справе Маладога фронту — ужо пяцёра падазраваных і больш ста дапытаных у 18-ці гарадох.Зноў моладзь на вуліцах Менску. Дзень Волі. Тысячы маладых у першых шэрагах. Зноў — допыты, арышты, ператрусы. Дзяніс Дзянісаў чакае суду за «масавыя беспарадкі». Барыс Гарэцкі галадае на «сутках». Зьмітру Дашкевічу й Артуру Фінькевічу прыдумалі чарговыя спагнаньні, каб пазбавіць права на амністыю. У крымінальнай справе Маладога фронту — ужо пяцёра падазраваных і больш ста дапытаных у 18-ці гарадох.

А вось у Сітне — сваё змаганьне. Якраз пад Дзень Волі выдалі заробак за люты. П’янства, сваркі й кулачныя разборкі — ці то празь вясновае абвастрэньне, ці то ў выніку сэзоннага авітамінозу, ці праз усё горшае жыцьцё — і праўда лютыя. Вяскоўцы набіраюць гарэлкі, «чарніла», самагону, бы гранатаў перад танкавай атакай, — і пасьля нядоўгага расьпіцьця баі мясцовага значэньня залпам выбухаюць на кожнай вуліцы. Б’юць субутэльнікаў, слабейшых, занадта гаваркіх, падхалімаў у начальства й проста тых, хто трапіцца пад руку. Калі ў інтэрнацкім пакоі насупраць пачынаецца п’янка, можна засякаць час — праз паўтары гадзіны сьцены скалануцца ад удараў. Выглянуўшы на дзікія крыкі, можна пабачыць, напрыклад, на падлозе, у запырсканым крывёю пакоі, хлопца, які з апошніх сілаў адбіваецца ад зэдліка, дзе заблыталася нага, і да зьнямогі калоціць перакулены спружынны ложак: ваяр яўна ляснуў зь белага каня.

Колькі сіценцаў ды алёшчынцаў пасьля некалькіх дзён «змаганьня» ходзяць зь гематомамі ды пераломамі; полацкія міліцыянты, што прыяжджаюць на выклікі сужыцелек ды матак, са звыклым уздыхам занатоўваюць: «Са словаў пацярпелага, выпадкова ўпаў з ганку ды ўдарыўся тварам…» Ані зьместу, ані наступстваў грандыёзных бітваў праз месяц ужо ніхто не згадае — але вось сёньня, цяпер, калі алькаголь даў у галаву і мора адчаю ды несправядлівасьці вакол здаецца па калена, можна распранутым да пояса рушыць па вуліцы, бы Матросаў на амбразуру, міма ўсіх гэтых кантораў, сельсаветаў і непрыяцельскіх хатаў зь дзікім нечалавечым ровам: «За-аб’-ю-у-у!!!»

«Ды ў мяне прапрадзед у Каліноўскага быў, чуеш?! — дыхае ў твар жывым сьпіртам аднагодак. — Ай, нічога ваша партыя не разумее…»

Ціхія, прыніжаныя вяскоўцы ды хімікі пасьля дзьвюх-трох бутэлек тутэйшага «кактэйлю Молатава» ператвараюцца ў марскую пяхоту — і адкуль толькі бяруцца сіла, нахабства ды гэты зьвярыны роў!

Знаёмы аўганец, што доўга жыў у Расеі, неяк напісаў: наколькі ціхамірныя і апатычныя п’яныя расейцы — настолькі агрэсіўнымі й жорсткімі робяцца беларусы. Вядома, ёсьць пэўныя стадыі ап’яненьня: выходзіць, расейцы набіраюцца да поўнага атупеньня, а беларусы, наадварот, каб увайсьці ў раж ды зьдзічэць. Тым часам нацыянальны патэнцыял нянавісьці, гневу, ваяўнічасьці пагрозьліва перапаўняецца. Паводле вядомай формулы — «што ў цьвярозага наўме…», — узьнікае пытаньне: дык які ён, беларус, сапраўдны?

Ці не адсюль — фэномэны падсьвядомасьці накшталт «Зянон-хопу»?

І вось зьдзіўляесься — няўжо страшэнныя масавыя бойкі ў Сітнах, Маларытах ды Мар’іных Горках адбываюцца ў краіне, дзе толькі 15—18-гадовыя дзеці насьмельваюцца ісьці ў галаве калёны на апазыцыйным шэсьці? Няўжо танклявы «акулярык» або дзяўчынка-калясачніца, якія займаюцца незалежнай журналістыкай у раёне на некалькі дзясяткаў тысячаў жыхароў — адзіныя, хто можа ўголас казаць праўду ў вочы мясцовай уладзе? Няўжо школьнікі-маладафронтаўцы, якіх дзясяткамі дапытвае КДБ — самая сур’ёзная ў радыюсе 300 кілямэтраў ад Менску апазыцыя рэжыму?

У часы ВКЛ змагары-шляхціцы зьбіраліся на паспалітае рушаньне дзясяткамі тысячаў. Падчас паўстаньняў ды войнаў знаходзіліся тысячы змагароў, гатовых аддаць жыцьцё дзеля Беларусі.

Няўжо стагодзьдзі прыгнёту павынішчалі зь беларусаў генэтычныя коды мужнасьці, самаадданасьці, адвагі? Няўжо засталіся толькі жывёльная злосьць ды рабская нянавісьць, што выплёскваюцца хіба ў рабскім угары?

Беларуская моладзь даводзіць: не!

Цяпер нацыянальнаму руху якраз бракуе змагароў — моцных хлопцаў, што заступяцца за дзяўчыну, на якую замахваецца амапавец, здолеюць скруціць правакатара і не аддадуць на глум бел-чырвона-белы сьцяг.

Разам з тым, трэба разумець: на полі гвалту, зброі, нянавісьці перамагчы рэжым немагчыма. Гэта зона, падкантрольная д’яблу. Той, хто будуе змаганьне на гвалце, — непазьбежна прайграе. Гвалт

супярэчыць самому паняцьцю свабоды, а свабода — гэта ўжо Божая тэрыторыя.

Таму для сёньняшняга пакаленьня нацыянальнага руху галоўнае змаганьне адбываецца не на плошчах і нават ня ў камэрах, а найпершыя ворагі — не міліцыянты ці гэбісты. Найважнейшая бітва йдзе ў самім маладым чалавеку — з боязьзю, абыякавасьцю, бязьвер'ем. Штодня, штогадзіны, штохвіліны Валадарства Нябеснае сілаю дасягаецца, і тыя, хто высільваюцца, здабываюць яго, кажа Біблія. Той, хто адолеў зло ў самім сабе, — непераможны.

А гэта значыць: менавіта змагары са страхам ды грэхам ва ўласным сэрцы будуць галоўнымі героямі нацыянальнага абуджэньня.

## Дзень нараджэньня сьцяга

Вялікдзень у Сітне называюць Паскай. «Паска сёлета 8-га, і ў нас, і ў каталікоў адна». Кажуць быццам і сапраўды пра нейкую паску, у сэнсе невялікую стужку (і адразу згадваюцца «фенькі» на запясьцях нефармальнае моладзі ды бел-чырвона-белыя паскі на велікодных рызах сьвятароў).Вялікдзень у Сітне называюць Паскай. «Паска сёлета 8-га, і ў нас, і ў каталікоў адна». Кажуць быццам і сапраўды пра нейкую паску, у сэнсе невялікую стужку (і адразу згадваюцца «фенькі» на запясьцях нефармальнае моладзі ды бел-чырвона-белыя паскі на велікодных рызах сьвятароў). Дый значэньне ў сьвята тут адпаведнае — ці то рыска ў календары, ад якой адлічваецца выходная Радуніца, ці то стужачка, якой перавяжуць букет «коцікаў», каб аднойчы прынагодна асьвяціць на Вербніцу, а потым захоўваць усё жыццё ў шуфлядзе сэрванту ўперашмешку зь ніткамі, гузікамі ды коркамі ад дарагога каньяку.

Паска — гэта абавязковае абмеркаваньне, колькі «белай» і колькі «віна» назапашана да гулянкі; высьвятленьне, што гэта за прыкмета, калі ў такі дзень дождж, і штогадовы дзяжурны рогат наконт таго, хто й як зьбіраецца «красіць яйцы».

Нават у адказ на традыцыйнае «Хрыстос уваскрос!» у Сітне рызыкуеш атрымаць агаломшанае: «Га?!.» Маўляў, і праўда?..

П’янка, бойка ды 12 страваў на стале тут існуюць цалкам паралельна зьместу Вялікадня. Штосьці падобнае да тутэйшае Паскі можна назіраць у сучаснай Заходняй Эўропе на Раство. Шалёны спажывецкі бум напярэдадні, камэдыі па тэлеку ўсе апошнія дні посту, румяны Санта-Клаўс ды шчырае недаўменьне: навошта да такога цудоўнага сьвята прымешваць рэлігію?

Як сказаў хтосьці з мудрых, «ніводзін зьмест няздольны супрацьстаяць форме, якая пагражае яго паглынуць».

Вось і на Дзень Волі ў Менску ўжо арганізоўваюць дзяржаўныя канцэрты «За независимую Беларусь!», і раптам аказваецца, што сьледам за праспэктам Скарыны, антыімпэрскай рыторыкай і беларускай літаратурай рэжым, бы ўдаў, ужо заглынае і 25 Сакавіка. Улада пасьлядоўна надае сваю форму незалежніцкаму зьместу. Сацыялістычныя лёзунгі й сымбалі ўжо асвоеныя; лібэральныя дэкларацыі й «пераход на рынкавыя прынцыпы» нават з Расеяй — у наяўнасьці; кансэрватызм у выглядзе «патриотизма», клопату пра сям’ю і вось цяпер расейскамоўнае «независимости» ажно буяе. А вось зьмест… І ў першым, і ў другім, і ў трэцім выпадку — унутры пуста. Фальшыўкі.

Апазыцыі, у якой забіраюць і праграмны «дабрабыт», і «сацыяльную справядлівасьць», і «дзяржаўную самастойнасьць», і ідэі рынку, застаецца толькі адно апірышча. Маральныя каштоўнасьці. Вера. Мова. Праўда.

У Сітне, вясновым велікодным Сітне востра разумееш: найболей Беларусі патрэбныя не выбітныя эканамічныя праграмы, ня новыя замежныя сябры і нават ня іншая канструкцыя ўлады. Патрэбны іншы зьмест. Корань праблемы — не ў чыноўных галовах, а ў народных сэрцах. І галоўная мяжа паміж РБ і Беларусьсю праходзіць ужо не па лініі «рынак/сацыялізм», «прэзыдэнцкая/парлямэнцкая рэспубліка», «Захад/Усход», а паміж хлусьнёй і праўдай, бязьвер'ем і верай, нянавісьцю й любоўю, расейскім матам і беларускай мовай і, урэшце, паміж д'яблам і Богам.

Вось чаму апазыцыя духу — адзіны шлях, які вядзе да перамогі. І вось чаму сёньняшняму дэмакратычнаму руху так патрэбныя беларускія патрыёты й беларускія вернікі.

Цяпер касьцяк такога духовага супраціву пачынае складвацца вакол руху Аляксандра Мілінкевіча.

Натуральна, што апазыцыя зьместу мусіць, як той казаў, адпавядаць. Быць еднай, адказнай і дысцыплінаванай. Выконваць свае слова. Вырашаць праблемы без унутраных свараў. Размаўляць па-беларуску. Жыць па-Божаму. Верыць.

«Нешта небагата народу выйшла сёлета на 25 Сакавіка, — паскардзіўся ў размове адзін партыец. — А рэклямы ж было болей, чым летась!» Вядома, куды тыя дзясяткі тысячаў з плошчы Каліноўскага падзеліся, — цэлы год чакалі ад апазыцыі абяцаных дзеяньняў і з прыкрасьцю назіралі за працэсам міжсобных разборак.

Дык хопіць формы — пустых дэклярацыяў, урачыстых паседжаньняў і новых квяцістых упаковак усё тых жа хаўрусаў.

Час вяртацца да зьместу.

Якраз цяпер, у сэнсавай паўзе пасьля Дня Волі, момант ісьціны для апазыцыі надыходзіць зь неспадзяванай нагодай зь Вялікаднем, што сёлета якраз супадае ва ўсіх канфэсіяў. З найвялікшым беларускім сьвятам.

Вялікдзень — дзень Уваскрашэньня Хрыста.

Гэтаксама Вялікдзень — гэта дзень нараджэньня нашага сьцяга. Белая пахавальная палатніна з крывёю ўкрыжаванага Ісуса засталася чалавецтву 2000 гадоў таму і ўзьнімалася ў сэрцы Эўропы і Вялікім Княстве Літоўскім, і Беларускай Народнай Рэспублікай, і Беларускім Народным Фронтам як сьцяг пермогі Божай над злом. Знак трыюмфу Свабоды, Праўды й Справядлівасьці.

**Хрыстос уваскрос!**

Калі ў двух словах — у гэтым і ёсьць зьмест нацыянальнага абуджэньня.

## Юнацтва пераможцаў

Бачыш трыццацігадовых хлопцаў, што ад гарэлкі, цыгарэтаў, цяжкое працы й безнадзейнасьці выдаюць на пэнсіянэраў; дваццаціпяцігадовых дзяўчат, ужо па-старэчаму згорбленых ды зморшчаных, зь мяшкамі пад вачыма й невідушчым позіркам — і міжволі згадваеш, наколькі імкліва наступаюць на вёску тутэйшыя могілкі.Сітна старэе.

Старэе хутчэй, чым ідзе час.

Бачыш трыццацігадовых хлопцаў, што ад гарэлкі, цыгарэтаў, цяжкое працы й безнадзейнасьці выдаюць на пэнсіянэраў; дваццаціпяцігадовых дзяўчат, ужо па-старэчаму згорбленых ды зморшчаных, зь мяшкамі пад вачыма й невідушчым позіркам — і міжволі згадваеш, наколькі імкліва наступаюць на вёску тутэйшыя могілкі.

У ціхім сонным Сітне ўсплёск сьвежасьці ды звонкасьці адзначаецца толькі двойчы ў дзень па буднях: дзеці ідуць у школу ды вяртаюцца. Невялікімі гурмамі, з такім неспадзяваным для вёскі сьмехам, такімі жывымі вачыма, у такіх нязвыкла стракатых вопратках ды з такімі заплечнікамі, быццам дэсантаваныя на невядомую плянэту касманаўты, яны пройдуць паўз інтэрнат, і адразу зразумееш, што яны жывуць ужо ў зусім іншым сьвеце.

Вучацца, дзякуючы беларусізацыі 1990-х, на роднай мове; карыстаюцца інтэрнэтам ды DVD; яшчэ не сапсаваныя навакольнай апатыяй, «максімкам» ды ўсеагульнай хлусьнёй…

Шэрае Сітна й гэтыя фантастычныя хлопчыкі-дзяўчаткі несумяшчальныя настолькі, што не дае спакою пытаньне: няўжо ў вёскі стане нуды ды млявасьці паглынуць гэткую звонкасьць-сьвежасьць? Або: няўжо ў гэтых юных стварэньняў стане моцы зьмяніць змрочнае навакольле паводле сваіх уяўленьняў, свайго ладу, сваіх мараў?

Якраз гэты кантраст адразу прыгадваецца, калі чую пра суд над пяцьцю маладафронтаўцамі ў Менску. Вось ужо цэлы год рэжым усёй сваёй махінай — КДБ, МУС, пракуратура, АМАП — навальваецца на незарэгістраваны Малады фронт. І чым больш маладафронтаўцаў праходзіць праз рэпрэсіі — тым мацней адчуваньне бясьсільля агромністае сыстэмы перад трапяткім, яркім ды дзёрзкім юнацтвам.

Пасадзілі Артура Фінькевіча — МФ дружна выйшаў увесну 2006 г. на плошчу Каліноўскага. Дапыталі сто маладых у крымінальных справах па ўсёй краіне — узьнікла больш тузіну новых структураў па Беларусі, а дзясяткі хлопцаў ды дзяўчат падхапілі эстафэтную галадоўку пратэсту. Запраторылі на паўтара году ў «зону» Зьмітра

Дашкевіча — і цяпер Дашкевіч глядзіць са сьценаў будынкаў усіх буйных гарадоў. Абвінавацілі Паўла Красоўскага ў забойствах, згвалтаваньнях ды тэрарызьме — і цяпер на сайце Маладога фронту штодня па 300 наведнікаў. Узялі штурмам Цэнтральную раду з трыццацьцю рэгіянальнымі кіраўнікамі — фірмовы маладафронтаўскі Дзень сьвятога Валянціна прайшоў «на ўра!». Новыя допыты й арышты перад 25 Сакавіка — а тысячы маладых зноў на вуліцах на Дзень Волі.

Вось яны, героі страшных сноў рэжыму: 19-гадовы эвангельскі хрысьціянін Зьміцер Хведарук; ягоны раўналетак, ды-джэй Адраджэньня і вернік, які кінуў праграму Каліноўскага, каб быць разам зь сябрамі, Барыс Гарэцкі; гэткі ж дзевятнаццацігадовы праграммайстар, студэнт-філёляг Аляксей Янушэўскі; 22-гадовы рабочы Алег Корбан і — 16-гадовая пераможца школьных алімпіядаў Наста Палажанка.

Тое, што напісана на саколках у гэтых маладзёнаў, калі яны выходзяць на Плошчу ці пратэстуюць ля судоў, палохае ўладу найбольш: «Малады фронт не спыніць!»

Дзесяць гадоў таму спрабавалі спыніць паўтарагадовай адседкай маладафронтаўца Аляксея Шыдлоўскага. І што? Прозьвішча Аляксея Шыдлоўскага рэгулярна зьяўляецца ў сьпісах затрыманых за графіці, улёткі ды ўдзел у акцыях. Сфабрыкавалі жудасныя абвінавачаньні, аж да пагрозы сьмерці, супраць Паўла Красоўскага. Вынік? Красоўскі зноў у першых шэрагах. Колькі ўжо разоў спынялі 16-гадовага Івана Шылу — а салігорскі Малады фронт абуджае горад і цяпер. Запхнулі ў вар'ятню Крысьціну Шацікаву, якая падчас суду над Дашкевічам на знак салідарнасьці далучылася да МФ — і цяпер ня ведаюць, куды дзець вочы ад ганьбы самі.

...Калі выняць зь сіценскага быцця школьны шпацыр, застанецца адчуваньне поўнае паразы. Моваю Галівуду — так сугучны тутуэйшым лужынам татальны «loose». Пячатка паразы на ўсім: на недагледжаных, захламленых хатах, на дабітым абсталяваньні леспрамгасу, што не абнаўлялася з 1961 г, і, што самае страшнае, параза чытаецца ў вачох.

Трэба падЫхаць усяго некалькі дзён сіценскім паветрам, каб зрабілася ясна, чаму афіцыйная прапаганда так стараецца разьдзьмуць міт пра перамогу. Дзень Перамогі. Праспэкт Пераможцаў. Спартовыя перамогі. Аднак нават тут афіцыёз вымушаны абапірацца на моладзь.

Ксюша Сітнік ды Андрэй Кунец невыпадкова займаюць першыя месцы на дзіцячай «Эўравізіі», тымчасам як «дарослыя» церпяць крах.

Ня трэба зьдзіўляцца, што ў фінале маладзёвага футбольнага чэмпіянату Эўропы беларусы — сярод лідэраў, а Сяргей Ляховіч змагаецца за сусветнае чэмпіёнства ў боксе. Зусім нездарма героі нашага часу — юнакі ды дзяўчаты. У Беларусі падымаецца пакаленьне, народжанае перамагаць.

Насамрэч у беларускай перамогі — пільныя вочы Зьмітра Хведарука, моцныя рукі Барыса Гарэцкага, высокі лоб Алега Корбана, валевае падбародзьдзе Аляксея Янушэўскага й мілае, але патрабавальнае аблічча Насты Палажанкі. Неўзабаве мы ўбачым іх на трыюмфальнай маніфэстацыі, дзе абвесьцяць Новую Беларусь.

Пакуль затрыманьні,ператрусы, крымінальныя справы. Сьцягі, улёткі ды малітвы. Герояў гартуе змаганьне.

Але яны вераць — а значыць, могуць і пераможуць.

«Бо кожны, народжаны ад Бога, перамагае сьвет, і гэтая перамога, якая перамагла сьвет, — вера наша» (I Яна 5:4).

Такіх — не разьбіць, не спыніць, не стрымаць.

Прыйдзіце на суд — і вы ўбачыце пераможнае пакаленьне нацыянальнага абуджэньня.

## Цэнтар цяжару

У любога паселішча ёсьць сэрца. Сэнсавы цэнтар. Месца, якое найбольш ясна выяўляе повязь гісторыі й сучанасьці, і сьведчыць пра дух, што пануе сярод жыхароў.У любога паселішча ёсьць сэрца. Сэнсавы цэнтар. Месца, якое найбольш ясна выяўляе повязь гісторыі й сучанасьці, і сьведчыць пра дух, што пануе сярод жыхароў.

У сэрцы Малога Сітна разьмяшчаюцца могілкі.

Не, на мапе ўсё прыгожа: геаграфічны плян Сітна нагадвае сонца. Абапал кола, утворанага трыма галоўнымі вуліцамі, тоўпяцца сельсавет, крама, пошта, леспрамгасаўскі гараж, фэльчарска-акушэрскі пункт ды абэліск з чырвонай зоркай (на тым месцы, дзе калісьці стаяла царква), а на прамянях-дарогах, што разыходзяцца ў розныя бакі, — рагі хатаў ды леспрамгасаўскія спаруды. Але ў самім сонечным коле — вялікі пагост. Так ці інакш усе вясковыя шляхі ды сьцежкі скрыжоўваюцца на могілках. Сьвяты масава адзначаюцца тут сама, за адмысловымі сталамі. Ды й галоўная вясковая будоўля цяпер тут: штогод да нэкропалю дадаюцца цэлыя кварталы пахаваньняў. І штаб мясцовае ўлады, і ўстанова аховы здароўя, і агмяні спажывецкае цывілізацыі, і індустрыйны комплекс асуджана пазіраюць, як пашыраецца сіценскі цэнтар.

Тым часам на саміх могілках ідзе стоенае змаганьне сымбаляў і сэнсаў: саўковага кшталту помнікі канкуруюць з усё больш пашыранымі крыжамі, а тут сама, наўзбоч (бо цэнтар жа!) раскладваюць тавар аўталаўнікі ды заежджыя гандляры.

У маленькім сэрцы Малога Сітна адбываецца ўсё тая ж нябачная бітва, што і ў сэрцах вялікіх беларускіх гарадоў.

За савецкім часам у цэнтрах местаў ды мястэчак панавала пустэча. Храмы, ратушы ды іншую ідэалягічна варожую архітэктуру руйнавалі, і чыгунны Ільліч пільна сачыў, каб утвораную сакральную пустку люд запаўняў толькі на афіцыйныя камуністычныя сьвяты — 1 траўня ды 7 лістапада. Калі ў эўрапейскіх гарадох цэнтар спрадвеку згруджаны, запоўнены, зьмястоўна моцны — у БССР было заведзена ганарыцца адсутнасьцю аўтамабільных затораў, найвялікшымі ў сьвеце плошчамі ды забаронай паспалітаму люду на гэтых плошчах зьбірацца. Да цяпер пустое савецкае сэрца да апошняе кроплі крыві бароніцца ад наступу офісаў, крамаў, кавярняў ды паркінгаў — і супраціўляецца аднаўленьню храмаў.

Так заўжды было ў пераходныя эпохі: гарадзкі цэнтар ператвараецца ў цэнтар цяжару прыняцьця гістарычнага рашэньня.

І вось па ўсёй краіне распачынаецца сапраўдная вайна за дамінаваньне ў цэнтры. Ідзецца нават ня столькі пра цану квадратнага мэтру дарагое зямлі або прэстыж — гаворка пра тое, што надалей стане восьсю беларускага жыцьця.

У Віцебску на месцы царквы Параскевы Пятніцы, разбуранай бальшавікамі, плянуюць будаваць забаўляльны комплекс. У Горадні пракладаюць каналізацыю праз падмуркі сярэднявечных храмаў і руйнуюць унікальныя будынкі дзеля будаўніцтва даходных муляжоў. У Берасьці зачыняюць «Стары Горад», што дамагаўся аднаўленьня гістарычнага места.

Але найбольш вострае сутыкненьне адбываецца цяпер у сэрцы Менску, у самай сярэдзіне Верхняга Гораду. Былы манастыр бэрнардынцаў, адабраны ў Касьцёлу пасьля паўстаньня Каліноўскага й за саветамі ператвораны ў архіў, цяпер зьбіраюцца перабудоўваць у гатэль. Вось ужо трэці год вернікі менскіх касьцёлаў ды грэка-каталіцкіх парафіяў штовечар а 19-й моляцца за вяртаньне сьвятыні. Менавіта гэтак — малітваю, постам і грамадзкімі акцыямі — яшчэ ў камуністычнай Беларусі сьвятары ды вернікі дамагаліся вызваленьня Чырвонага Касьцёлу й Катэдры. Але цяпер на месца ў менскім сэрцы прэтэндуюць не адно саўковы пыл ды шэрасьць, але яшчэ й элегантны грашавіты глямур — пяцізоркавы гатэль з казіно і саўнай. Скварка ў чакалядзе.

Супольная малітва, стаяньне ля сьценаў ды збор подпісаў за вяртаньне Касьцёлу сьв.Язэпа — справа ўсіх беларускіх патрыётаў ды вернікаў усіх канфэсіяў. Ацаленьне беларускага сэрца сёньня адбываецца менавіта тут.

Бо насамрэч змаганьне за сьвятыню ў цэнтры Менску — гэта змаганьне за сэрца кожнага беларуса. Вызначэньне, што ж запануе ў храме нашае душы.

Выгнаньне гандляроў з Храму — 2000 гадоў таму з гэтага ўжо пачыналася адно нацыянальнае абуджэньне.

## Напаўраспад

Пасьля Чарнобылю беларусы сапраўды жахнуліся бязьвіднае, усюдыіснае сьмерці — і адчайна рвануліся да жыцьця. Пэрыяд ядравага распаду СССР аказаўся самым плённым у найноўшай гісторыі Беларусі, бо даў штуршок нацыянальнаму адраджэньню, дзяржаўнай незалежнасьці й хрысьціянскаму рэнэсансу.Ад Чарнобылю да Малога Сітна больш як паўтысячы кілямэтраў. Дазымэтар паказвае тут норму, лейкемія ды рак шчытападобнай залозы рэгіструюцца ў раённым шпіталі зрэдку, і тутэйшыя жыхары ўжо адвыклі сьпісваць усе беды на калісьці папулярную «радыяцыю». Але адчуваньне адчужанасьці штогод тут толькі мацнее, не раўнуючы як у Хойніках ці Краснапольлі. Зямля занядбаная й засьмечаная, скрозь хаты з закалочанымі дошкамі вокнамі, люд наколькі маладікі, настолькі й смурны — такое ўражаньне, што нейкая нябачная, сьмяротная сіла горшыць край з самых зачумленых гушчараў. Павальнае п’янства, паўсюднае паленьне, звыклы мат пры дзецях і ня менш звыклая распута бяз сораму, усеагульная млявасьць і ашаламляльная абыякавасьць да жыцьця: відавочны пэрыяд напаўраспаду.

А дваццаць гадоў таму менавіта Чарнобыль стаў ударам звону, які скалануў і агромністую савецкую імпэрыю, і Беларусь, заклікаючы ня проста да перабудовы, а да ўсенароднага пакаяньня. Пасьля Чарнобылю, што пранікае да атамаў і генаў, уявіць сабе рэальнасьць грэху, пекла й д’ябла нацыі аказалася значна лягчэй. Вось чаму Чарнобыльскі шлях ужо пры канцы 1980-х зрабіўся галоўнай нашай маніфэстацыяй.

Пасьля Чарнобылю беларусы сапраўды жахнуліся бязьвіднае, усюдыіснае сьмерці — і адчайна рвануліся да жыцьця. Пэрыяд ядравага распаду СССР аказаўся самым плённым у найноўшай гісторыі Беларусі, бо даў штуршок нацыянальнаму адраджэньню, дзяржаўнай незалежнасьці й хрысьціянскаму рэнэсансу.

Але вось сёньня, калі чарнобыльскі страх у масавай сьвядомасьці расьсеяўся, раптам выявілася, што ёсьць рэчы страшнейшыя за чацьвёрты энэргаблёк. У Беларусі няўхільна сьпіваецца больш за мільён чалавек. Паводле апошняга перапісу, 60% беларусаў не карыстаюцца беларускай мовай. У адным толькі Менску штогод робіцца па 50 тысячаў абортаў. І пры гэтым большасьць жыхароў Беларусі, згодна з апошнімі сацыялягічнымі апытаньнямі, лічыць: краіна разьвіваецца ў слушным кірунку.

Радыяцыйныя хмары накрылі 1/5 тэрыторыі Беларусі й сталі прычынаю сьмерці тысячаў. Духовы Чарнобыль ахапіў усю краіну й павольна, але мэтанакіравана нішчыць мільёны.

І што характэрна: сёньняшняя ўлада, паводле вызначэньня пакліканая ліквідаваць наступствы любое, ці то прыроднае, ці то тэхналягічнае, ці то маральнае катастрофы, — робіць роўна супрацьлеглае. І заклік зноў засяляць заражаныя чарнобыльскія вёскі, і палітыка ў галіне ідэалёгіі і выяўляюць дзіўную, але несумненную пасьлядоўнасьць.

Хлусьня, відавочная й самазабыўная, на экранах штодня; суцэльны страх, што робіцца нармалёвым тонусам грамадзтва; гістэрычная нянавісьць да «ворагаў» і «Захаду» — усё гэта запускае ядравую рэакцыю маральнага распаду для ўсяе нацыі. Чарнобыль зь ягонай злачыннай безадказнасьцю й замоўчваньнем вынікаў выбухнуў у задушлівай атмасфэры застою. Сёньняшняя беларуская стабільнасьць настолькі ж выбухованебясьпечная.

Галоўная афіцыйная газэта краіны друкуе то бязбожны маніфэст, то опус пра сямейныя здрады, якія, маўляў, ратуюць шлюб; хрысьціянаў штрафуюць за супольную малітву, а інтэлігентаў — за мат і спраўленьне патрэбы ў публічным месцы; урэшце, праслаўляюцца такія вылюдкі, як Ленін, Сталін і Гітлер, — і робіцца зразумела, што Чарнобыль чалавечае душы клакоча ўжо пад нагамі.

Можна растлумачыць адсутнасьць веры, волі, любові, нацыянальнай ды праўнай сьвядомасьці й іншую маральную анкалёгію ў целе рэжыму — усё гэта натуральныя прадукты савецкага тленьня.

Але як растлумачыць тое, што й мы адктыўна ўдзельнічаем у працэсе напаўраспаду Беларусі?

Любая доза хлусьні, пыхі, абыякавасьці, страху ў асяродзьдзі апазыцыі ўдвая больш небясьпечная. Мы самі носім у сабе чарнобыльскі рэактар грэху, які можа прывесьці да распаду краіны, — і мусім адказваць за наступствы.

Кожны, хто супрацьстаіць разбэшчанасьці, гвалту, беззаконьню, крыміналізацыі, спойваньню беларускага народу, — ліквідатар дыктатуры.

Бо ад духовага Чарнобылю, страшнейшага за радыяцыйны, Беларусь у стане выратавацца толькі праз нацыянальнае абуджэньне.

## Павал Севярынец пра бацькоў, дзяцей і судзьдзяў

Днямі мая маці атрымала пастанову аб звальненьні. Настаўніца найвышэйшае катэгорыі з 36-гадовым стажам, працавала і ў вёсках роднага Лунінецкага раёну, і ў Пагосьце ды Барані пад Воршай, і ў Віцебску; два гады да пэнсіі — і вось, загад райана.«Усе мы ведаем, што сыстэма дрэнная, — усьміхаецца майстар, — але ж паспрабуй сказаць што-небудзь, калі кантракт на год, у цябе дзіцё, а іншай працы няма». «Мы таксама супраць, але калі начальства прыязджае — маўчым, — падтаквае жонка чыгуначніка, — а я што, у мяне сын у Менск паступае». «У іх улада, міліцыя, войска, суды», — завяршае сусед-«хімік» — вось і паспрабуй рыпніся».

«Каб хто-небудзь абараніў нас ды нашых дзяцей, — гучыць у падктэсьце, — пайшлі б за вамі».

Днямі мая маці атрымала пастанову аб звальненьні. Настаўніца найвышэйшае катэгорыі з 36-гадовым стажам, працавала і ў вёсках роднага Лунінецкага раёну, і ў Пагосьце ды Барані пад Воршай, і ў Віцебску; два гады да пэнсіі — і вось, загад райана. Зуб на яе тачылі даўно: увесь час прынцыпова выступала на сходах, абараняла маладафронтаўцаў, якіх хацелі выдаліць са школы, займалася стварэньнем Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі ў Віцебску, удзельнічала ў выбарах ды назіраньні (дарэчы, у 2004 г з усёй ініцыятыўнай групы сабрала за мяне найбольш подпісаў — 600)… То бел-чырвона-белы сьцяг, скінуты з асьвятляльнае вежы амфітэатру міліцыянтамі, падбярэ, то нейкія падазроныя беларускія спэктаклі паводле Караткевіча зь дзецьмі ладзіць, то шоў беларушчыны замест кляснае гадзіны. На вясновых школьных вакацыях атрымала пісьмовы (!) дазвол на тыднёвую паездку ў Варшаву, дзе, апроч іншага, пахаваны мой прадзед, праваслаўны сьвятар; падрыхтавала дакумэнты, зрабіла замежны пашпарт… У апошні момант з райана патэлефанавалі і папярэдзілі: на Дзень Волі ніякіх паездак. Маці паехала.

Школьны прафкам, сабраны на тэлефанаваньне «згары», бурчэў: от, кіраўніцтва нашымі рукамі хоча такую настаўніцу выгнаць!.. Пабурчэлі, апусьцілі вочы — і прагаласавалі за звальненьне.

Здавалася б, чарговае пацьверджаньне ўсёмагутнасьці рэжыму.

Але назаўтра пасьля звальненьня з 27 бацькоў школьнікаў, што навучаюцца ў матчыным 5 «А», 24 падпісалі зварот у яе абарону. Самі школьнікі склалі ліст дырэктару. Віцебскія калегі-дэмакраты і праваабаронцы распачалі кампанію салідарнасьці. Дыпляматы даслалі запыт у Міністэрства адукацыі. Даведаўшыся праз інтэрнэт,

ліст у падтрымку маці напісаў нават адзін зь яе колішніх вучняў, што зьехаў у Ізраіль. Знаёмыя вернікі пачалі мэтадычна абтэлефаноўваць школьнае начальства. І вось ужо ўся настаўніцкая чытае выразкі зь незалежнае прэсы ды раздрукоўкі зь сеціва й перашэптваецца: ага, найшла каса на камень!

У 16-гадовай школьніцы Насты Палажанкі, абвінавачанай у справе «Маладога фронту», звальняюць з працы бацьку, які адзін гадуе дзьвюх дачок. Крысьціну Шацікаву ды Ўладзімера Шылу пагражаюць пазбавіць бацькоўскіх правоў…

Дзякуй Богу, мы з бацькамі адзін аднаго падтрымліваем. Але ведаю, што многім маладафронтаўцам даводзіцца змагацца і з матчыным адчаем, і з бацькавай злосьцю. І калі на вуліцы Менску выходзяць тысячы юнакоў і дзяўчат, не дае спакою пытаньне: а дзе ж іхнія бацькі? Гэта ж так проста: быць побач са сваімі дзецьмі!

Наймацнейшая салідарнасьць — гэта калі бацькі за дзяцей, а дзеці за бацькоў. У час, калі Лукашэнка рыхтуе дзеля ўмацаваньня ўлады сваіх сыноў, а раённая намэнклятура кварталамі скупае для нашчадкаў нерухомасьць у Менску, супрацьстаяць рэжыму здолеюць толькі дружныя беларускія сем'і. Пазьнякі й Вячоркі, Сіўчыкі й Хадыкі, Мілінкевічы ды Казуліны, Вольскія ды Арловы, Навумчыкі ды Шылы.

Рэжым гэта ведае, таму і б'е: дзяцей па бацьках, бацькоў па дзецях.

Прычым робіцца гэта ў афіцыйна абвешчаны Год Дзіцяці.

А вось судзьдзя Таманаў, якому даручылі весьці працэс «Маладога фронту», адмовіўся судзіць дзяцей за тое, што яны хочуць свабоды, праўды й справядлівасьці: падаў заяву на доўгатэрміновы адпачынак у сувязі са станам здароўя. Не запэцканага ў палітычных рэпрэсіях Таманава хацелі ўключыць у рэжым — але судзьдзя, відаць, чытаў у школе «Маладую гвардыю». Як для судзьдзі ў сёньняшняй сытуацыі — сумленны выбар. Цікава, а што: у нас іншыя судзьдзі абсалютна здаровыя? А чыноўнікі? А генэралы?..

Бацькі віцебскіх школьнікаў і судзьдзя Таманаў — не апазыцыянэры. Яны проста беларусы. І калі супраціўляецца рэжыму пачынае не адно апазыцыя, а паспаліты беларускі люд — рэжым асуджаны на паразу.

Падтрымаць сваё дзіця, бацьку ці маці; падпісаць зварот; не падняць руку, калі галасуюць за «палітычнае» звальненьне; прыйсьці на суд да маладафронтаўцаў або своечасова сысьці ў адпачынак па стане здароўя — гэта супраціў, на які здольны кожны. І паверце: у мільёнаў беларусаў ёсьць усе прычыны да такога супраціву

далучыцца. Задача дэмакратаў — арганізаваць. Растлумачыць. Даць прыклад.

Калі за дзецьмі падымаюцца бацькі, калі супраць хлусьні й несправядлівасьці паўстаюць і стары, і малы; калі судзьдзі адмаўляюцца за гэта судзіць — значыць, ужо блізка нацыянальнае абуджэньне.

## Глябальнае Сітна

Калі разабрацца, сіценцаў мала што зьвязвае з самім Сітнам. Ядуць амаль усе з крамы (а з гледзішча фізіялёгіі, мы ўвогуле ёсьць тым, што ямо) — ад пскоўскага хлеба йількі ў таматным соўсе з Курыльскіх выспаў да польскіх прыправаў ды эквадорскіх бананаў.Калі разабрацца, сіценцаў мала што зьвязвае з самім Сітнам. Ядуць амаль усе з крамы (а з гледзішча фізіялёгіі, мы ўвогуле ёсьць тым, што ямо) — ад пскоўскага хлеба йількі ў таматным соўсе з Курыльскіх выспаў да польскіх прыправаў ды эквадорскіх бананаў.

Вольны час сіценцы аддаюць, у лепшым выпадку, сузіраньню мэксыканскіх сэрыялаў ды французскіх камэдыяў (тыя, хто мае сатэлітную талерку, увогуле пераключаюцца з краіны на краіну), або, у горшым, спажываньню зробленага на бяскрайніх прасторах Расеі шклоачышчальніка. Размаўляюць пра маскоўскіх «зорак» з чорнае скрынкі — на рынгу, у цырку, на лёдзе — або пра беспарадкі ў Эстоніі… таму й выходзяць на сіценскую вуліцу, быццам у адкрыты космас: толькі перабрацца на працу, у сельпо ці на пошту ды хутчэй прамінуць гэную шэрую аднастайнасьць.

Мала таго, большасьць вяскоўцаў кватаруе ў дамох, якія ім не належаць: леспрамгасаўскіх хатах, у старэнькіх бацькоў ці ў інтэрнатах. Таму ані закінутыя гароды, ані сьметніцы пасярод вёскі тут нікога не зьдзіўляюць — маўляў, гэта ня мае да мяне аніякага дачыненьня. Калгасная нічыйнасьць — справа вядомая, а ў Сітне яна падкрэсьленая яшчэ й ніякавасьцю мясцовай улады, ды й тым, што адвыклі жыць зь зямлі.

І ўсё-такі незьнішчальная беларускасьць скрозь саўковае запусьценьне праточваецца. Ля зарослае пырнікам хаціны раптам, бы фаервэрк, успыхне высаджаны гладыёлус; сям-там па вёсцы шамаціць цэляфан цяпліцаў пад памідоры; ды нават у самой канторы, на сэйфе, у плястыкавай конаўцы з-пад маянэзу распускаецца выкапаны ў лесе дрымотнік. Чуеш, як майстрыца з прыёмшчыцай зь веданьнем справы абмяркоўваюць, якім чынам прышчапляць дзічку, — і разумееш: насамрэч, людзі тут таго ж роду, што і ў Мосары, дзе пад кіраўніцтвам ксяндза Юзафа павыкаранялі п’янства ды ператварылі мястэчка ў квітнеючы раёк.

Але ж тае беларускае сілы хапае адно на куточак. На адчайна ўзьняты сьцяг. Астатняе… а-а, не маё. І калі ў тым жа Мосары (таксама ж куточак у цэлым Паазер’і) парафіяне ўважаюць за свой абавязак упрыгожваць зямлю, на якой жывуць, хаця й лепш за іншых разумеюць, што тут мы толькі госьці, — у сіценца псыхалёгія «дом —

тайга, мядзьведзь — гаспадар» апраўдваецца безнадзейнасьцю. Памру — хоць трава ні расьці. Або: сельсавет захоча — адбярэ. Або: выганяць з працы ў прамгасе — усё адно прападзе.

Вось і жывуць сіценцы штодня то на Курыльскіх выспах, то ў Галівудзе, то ў Вэнэсуэле.

Глябалізацыя?

Але ж пры ўсіх вартасьцях міжнароднага падзелу працы, транснацыянальнага капіталізму, вольнага гандлю ды ўсяленскай мэдыяпрасторы кропка апірышча (крытычна неабходная для вядомага рычага, пакліканага перавярнуць сьвет) — свая зямля. Дом. Сям'я.

Сіценцам, у якіх сьвядомасьць гаспадара вынішчалася і прыгонам, і савецкай калектывізацыяй, і камуністычным бязбожжам, востра патрэбная дапамога дзяржавы, каб адчуць зямлю пад нагамі. Неабходнае тэрміновае ўвядзеньне прыватнай уласнасьці на зямлю з правам продажу й перадачы ў спадчыну.

Сапраўдная рынкавая гаспадарка пачынаецца менавіта з гэтага.

І ня думайце, што лясная вёсачка на расейскім ўзьмежжы — вынятак. Глябальнае Сітна распаўзаецца па Беларусі значна хутчэй, чым будуюцца нейкія там аграгарадкі.

Мы ўжо каторы год б'емся над пытаньнем: як так зрабіць, каб несьвядомыя беларусы нарэшце палюбілі сваю краіну?

Усё проста.

«Мой родны кут, як ты мне мілы!..»

Трэба нарэшце даць кожнаму беларусу па сваім кавалку Беларусі. Каб той даводзіў да ладу згодна з асабістым уяўленьнем пра карыснасьць і прыгажосьць ды Боскім пакліканьнем. Праз два-тры гады пасьля ўвядзеньня прыватнай уласнасьці на зямлю вы й не пазнаеце Беларусі! Любоў да Радзімы сасьпявае праз асабістую, прыватную. Пасьля краху савецкіх спробаў навязаць «любоў да чалавецтва і плянэты ваабшчэ» шляхам абагульненьня чужога час заняцца сваім ды палюбіць бліжняга.

Беларусь трэба аддаць тым, хто ў ёй жыве. Толькі тады мы атрымаем цьвёрды грунт і для адкрытасьці сьвету, і для нацыянальнага абуджэньня.

## Сумленная дэмакратыя

Роўна 90 гадоў таму, 25 траўня 1917 г. 30 маладых каталіцкіх сьвятароў у Менскім катэдральным касьцёле абвесьцілі: магчымая. І заснавалі Хрысьціянскую Дэмакратычную Злучнасьць — першую беларускую хрысьціянска-дэмакратычную партыю.— Чуеш, Паша, калі ўжо возьмеш у сваю партыю? — пытаюцца вяскоўцы. — Як там яна, кажаш, хрысьціянска-дэмакратычная? Ну, «дэмакратычная» — ясна, а «хрысьціянская» — што, у царкву хадзіць трэба?

Тлумачу: калі хочаш мяняць краіну — трэба пачынаць мяняцца самому. Разьвітвацца з п’янствам, блудам, крадзяжом, хлусьнёй, верыць у Бога і любіць блізкага. Хрысьціянская дэмакратыя — гэта палітыка сумленьня.

— Палітыка… сумленьня?!.. — суразмоўнікам відавочна падаецца абсурдным само спалучэньне словаў. — Хто ж тады да вас пойдзе? Ва ўласьці ж задача — хапнуць. Гэтыя нахапаліся, а тыя яшчэ хочуць, ну і тэ дэ. А абяшчаюць усе, дурыць мастакі. Якое там, у вярхах, сумленьне?..

Сіценскае пытаньне — у самую кропку.

Ці магчымая ў Беларусі палітыка сумленьня? Маральная дэмакратыя?

Роўна 90 гадоў таму, 25 траўня 1917 г. 30 маладых каталіцкіх сьвятароў у Менскім катэдральным касьцёле абвесьцілі: магчымая. І заснавалі Хрысьціянскую Дэмакратычную Злучнасьць — першую беларускую хрысьціянска-дэмакратычную партыю.

Разгортваньне нацыянальнага руху ў эпоху войнаў і рэвалюцыяў вымагала ад беларусаў кшталтаваньня палітычнай ідэалёгіі, здольнай супрацьстаяць і камунізму, і анархізму, і фашызму. Гэта кіраўнікі ХДЗ сталіся сумленьнем эпохі ў міжчасьсі ўсясьветных войнаў: ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, правадыр незалежніцкага падпольля, расстраляны гестапаўцамі ў Трасьцянцы на Раство 1942-га; архімандрыт Фабіян Абрантовіч, закатаваны бальшавікамі ў Бутырцы ў 1946-м; рэпрэсаваныя энкавэдыстамі ксёндз Адам Станкевіч, рэдактар «Беларускай Крыніцы» і кіраўнік ТБШ у Заходняй Беларусі; старшыня Беларускага Народнага Аб’яднаньня і дзед лідэра БНФ Ян Пазьняк.

Менавіта хадэцыя, пераняўшы эстафэту ад БНР, адстойвала каштоўнасьці, якія пазьней уздымуць на сьцяг БНФ і Рух «За Свабоду!» — незалежнасьць, свабоду, праўду, справядлівасьць і духовае Адраджэньне.

Насамрэч, хрысьціянская дэмакратыя — ідэя для Беларусі глыбока гістарычная. Яшчэ з часоў Ізяслава й Эўфрасіньні

сьветапоглядным падмуркам для беларускага народаўладзьдзя (веча, шляхецкая дэмакратыі, магдэбурскага права) было хрысьціянства. Дастаткова працытаваць Скарыну й Каліноўскага, каб уявіць, наколькі па-хрысьціянску лідэры беларускай гісторыі разумелі правасьвядомасьць: «У Бібліі ўсе законы й правы, якімі людзі на зямлі кіраваца маюць, напісаныя... Тут справа ўсякага збору людзкога і ўсякага гораду выкладаецца, каб вераю, яднаньнем ласкі й згоды паспалітае памножана была». (Ф.Скарына) «Бог стварыў чалавека, каб ён карыстаў з вольнасьці справядлівай» (К.Каліноўскі).

Хрысьціянская дэмакратыя — прыўнясеньне хрысьціянскіх маральных прынцыпаў у палітыку, эканоміку, сацыяльную галіну, культуру, адукацыю — любую сфэру жыцьця. Стрыжань сыстэмы хадэцыі — трыяда паняцьцяў: Бог, чалавек, Бацькаўшчына. Асноўныя прынцыпы — маральнасьць, адказнасьць, салідарнасьць, пэрсаналізм (асобасная раўнавага паміж індывідуалізмам і калектывізмам) і субсыдыярнасьць (імкненьне прымаць рашэньні на тым узроўні, на якім яны найбольш эфэктыўна выконваюцца).

Чым мацнейшыя катастрофы скаланалі чалавецтва за апошнія два стагодзьдзі — крызісы капіталізму, марксісцкія рэвалюцыі, таталітарныя рэжымы, усясьветныя войны — тым больш запатрабаванай ды папулярнай рабілася хрысьціянская дэмакратыя. Нарэшце, пасьля 1945 г. пачаўся сапраўдны бум: хадэкі прыйшлі да ўлады ў Нямеччыне, Аўстрыі, Італіі, Швайцарыі, Лацінскай Амэрыцы, распачалі эўрапейскую інтэграцыю й істотна ўдасканалілі саму мадэль дэмакратыі.

І ў цяперашняй Беларусі ўмовы дзяржаўнай залежнасьці, задушэньня дэмакратыі й грамадзкага заняпаду вымагаюць моцнае ідэйнае праграмы Адраджэньня. Перамагчы рэжым і прычыны, што яго спарадзілі, магчыма толькі аднаўляючы разбураныя законнасьць і незалежнасьць, культывуючы любоў да Радзімы і бліжняга, супрацьстаючы разгулу алькагалізму, крыміналу, разбэшчанасьці, гвалту, падтрымліваючы ўціснутыя цяпер цэрквы ды сем'і. Агульнанацыянальнае пакаяньне, магутная вера як рухавік пераменаў, крышталевая маральная чысьціня — вось першачарговыя задачы палітычнага лідэрства ў сучаснае Беларусі.

Ва ўсім сьвеце з падобнымі задачамі найлепш спраўлялася якраз хрысьціянская дэмакратыя.

Больш таго, масавая хадэцыя пакліканая стаць сапраўдным прарывам нацыянальнага адраджэньня.

Тысячагадовая моўная й культурная традыцыя, сьвядомасьць беларусаў узгадаваныя й высьпелі на Эвангельлі й веры ў Бога — і

беларусізацыя касьцёлу, пратэстанцтва й праваслаўя, асабліва сярод моладзі, яўна апярэджвае падобныя працэсы ў астатнім грамадзтве.

Невыпадкова якраз новае пакаленьне беларускага руху зноў падымае сьцяг хрысьціянскай дэмакратыі. У аргкамітэт БХД, створаны ў Менску, увайшлі перадусім маладыя вернікі й сьвятары: маладафронтаўскія лідэры Зьміцер Дашкевіч, Зьміцер Хведарук, Барыс Гарэцкі, прадпрымальнік Георгі Зьмітрук і юрыст Мікалай Арцюхоў, бард Андрэй Мельнікаў і актор Павал Харланчук, гісторык Алесь Белы, а таксама легендарны вязень ГУЛАГу, пастар Беларускай Эвангельскай Царквы Эрнэст Сабіла. Хадэкі рыхтуюць устаноўчы зьезд у трыццаці гарадах Беларусі, разам з эвангельскімі цэрквамі зьбіраюць подпісы за зьмену «Закону аб свабодзе сумленьня» (якраз за ўдзел у гэтай кампаніі, дзе падпісаліся ўжо больш як дванаццаць тысяч беларусаў, мітрапаліт Філарэт адлучыў ад сьвятарства айца Аляксандра Шрамка), праводзяць акцыі супраць гістарычнага бяспамяцтва, распусты ды парушэньня правоў вернікаў…

Тое, што адбылося ў менскім катэдральным касьцеле ў траўні 1917-га, было толькі пачаткам.

Палітыка — брудная справа толькі для тых, хто робіць яе бруднымі рукамі ды з бруднымі намерамі. Сёньня нацыянальны рух ня мае права дзейнічаць пад лёзунгам «Мэта апраўдвае сродкі». Хрысьціянскія дэмакраты абвяшчаюць палітыку сумленьня, бо маюць мэтаю нацыянальнае абуджэньне.